Сяргей Чыгрын

# ШЛЯХАМІ Беласточчыны

*Гісторыка-краязнаўчыя і літаратуразнаўчыя артыкулы*

Мінск, «Кнігазбор», 2015

УДК 821.161.3
ББК 84(4Беи)
Ч-11

ISBN 978-985-7119-66-0



# Постаці

## Актывісты Таварыства беларускай школы на Беласточчыне

*З хронікі дзейнасці ТБШ у 1920–1930-х гадах*

Культурна-асветная арганізацыя Таварыства беларускай школы (ТБШ) у Заходняй Беларусі была створана 1 ліпеня 1921 года.

ТБШ імкнулася распаўсюджваць веды і дапамагаць асвеце сярод беларусаў, пашыраць беларускія школы і беларускую асвету. Асноўная мэта дзейнасці была абвешчана ў статуце: «пашыраць і памагаць асвеце ў беларускім нацыянальным, людскім і хрысціянскім духу».

Таварыства адкрывала і ўтрымлівала народныя школы і дамы, курсы, настаўніцкія семінары, чытальні-бібліятэкі, сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы, выдавала часопісы, падручнікі і іншую літаратуру, займалася канцэртнай дзейнасцю. ТБШ выступала супраць паланізацыі, сацыяльнага прыгнёту, праводзіла шырокую дзейнасць па адкрыцці беларускіх школ, павышала агульнаадукацыйны і культурны ўзровень насельніцтва, яго нацыянальную свядомасць.

2 снежня 1936 года ТБШ польскімі ўладамі было забаронена. Але за гэтыя 15 гадоў ТБШ у Заходняй Беларусі ажыццявіла шмат сваіх добрых спраў, праектаў, мэтаў.

Асабліва актыўным было ТБШ у тыя гады на Беласточчыне. Магчыма, некалі пра яго дзейнасць і актывістаў напішацца вялікая кніга. А сёння давайце

пагартаем некаторыя асобныя старонкі ТБШ і прыгадаем тых беларусаў, хто актыўна працаваў і пашыраў яе дзейнасць.

## 1929 год

8 снежня ў Беластоку адбыўся агульны з’езд ТБШ Беластоцкага і Сакольскага паветаў. З’езд адбыўся ў Беластоцкім народным Доме, які адбудавалі сябры ТБШ на свае ўласныя сродкі. У з’ездзе прымалі актыўны ўдзел паслы Беларускага сялянска-работніцкага клуба Ігнат Дварчанін і Флягонт Валынец, якія шчыра віталі ўдзельнікаў з’езду.

Пасля розных выступленняў і спрэчак спадары Пяткевіч і Лябецкая выступілі з рэфератамі. Яны прачыталі лекцыі на тэмы «Беларусь мінулая і сучасная — гістарычна-геаграфічны агляд» і «Жанчына ў грамадскім жыцці».

На з’ездзе прысутныя паглядзелі п’еску «Антось Лата» Францішка Аляхновіча, а хор праспяваў шмат беларускіх песень. Сам з’езд, а таксама спектакль прайшлі на вышэйшым узроўні. Аб гэтым нават пісала заходнебеларуская прэса. Адчувалася, што яго арганізатары на гэта прыклалі шмат высілкаў.

ТБШ у Беластоку на той час кіраваў Нікіта Федарук. Пры ўдзеле таварыства ў ліпені быў створаны выдавецка-асветны кааператыў «Рунь». У Беластоку ў гэты час узнікла і кнігарня з беларускімі выданнямі. Хаця ТБШ у Беластоку тады адышло ад палітыкі, польскія ўлады ўсё ж пазней ліквідавалі кааператыў, а потым і ТБШ.

## 1932 год

Вялікай падзеяй у гісторыі ТБШ на Беласточчыне стаў акруговы з’езд Сакольшчыны, Ваўкавышчыны і Беласточчыны, які адбыўся 20 лістапада. На з’езд



з’ехаліся 56 дэлегатаў ад 17 гурткоў ТБШ і 6 гасцей. Апрача таго, на акруговы з’езд ТБШ былі запрошаны прадстаўнікі мясцовай адміністрацыі, а таксама ад ваяводства пан Высокінскі. Ад Галоўнай управы ТБШ на з’езд прыехалі Мікалай Марцінчык і Піліп Кізевіч.

Старшыня Беларускай акруговай управы Язэп Грэсь выступіў са справаздачай аб працы акруговай управы. Ён адзначыў, што, нягледзячы на розныя перашкоды ўлады, сябры ТБШ у Беластоцкай акрузе зрабілі шмат на ніве культурнага і арганізацыйнага. «Сёння ў Беластоцкай акрузе налічваецца 23 дзейных гурткоў ТБШ з 604 сябрамі, — адзначыў у сваім выступленні Язэп Грэсь. — Дзейнічае 10 бібліятэк-чытальняў, 15 Народных Дамоў. Драматычнымі секцыямі пастаўлены 36 спектакляў, з якіх — 14 забаронена. Дзейнічаюць 2 радыёапараты. Усе гурткі ТБШ вызначаюцца вялікай працаздольнасцю»*.

Цікава тое, што «Наш бюлетэнь» за 30 лістапалда 1932 года апублікаваў зусім іншую справаздачу ў лічбах аб дзейнасці ТБШ на Беласточчыне, яна значна адрозніваецца ад той, з якой выступаў Язэп Грэсь. Аказваецца, на 30 лістапада 1932 года ўсіх гурткоў на Беласточчыне налічвалася 16, куды ўваходзілі 460 сяброў, на адзін гурток прыпадала прыблізна па 29 сяброў. Гэта былі даволі добрыя паказчыкі, бо многія гурткі ТБШ мелі толькі па 10 сяброў. Найбольш ТБШаўцаў было ў Белявіцкім і ў Гарадоцкім гуртках — па 51 чалавеку, а ў самім Беластоку — 23. З 460 чалавек, якія ўваходзілі ў ТБШ, — 52 жанчыны, па сацыяльнаму становішчу — 300 сялян. 9 гурткоў мелі тады бібліятэкі-чытальні з 1807 паасобнікаў кніг, 5 гурткоў мелі драматычную і харавую секцыі, 5 — толькі драматычную, а гурткі ў Гарадку і ў Міхалове мелі драматычную, харавую секцыі і аркестры. У 9 гуртках практыкавалася па-

* Наш бюлетэнь. 1932. 30 лістапада.

зашкольнае навучанне на роднай мове. Гурткі паказалі 23 спектаклі, 14 з якіх былі забаронены.

Пасля выступлення на акруговым з’ездзе ТБШ Язэпа Грэся былі заслуханы справаздачы Беластоцкага, Гарадоцкага, Меляшкоўскага, Белявіцкага, Міхайлоўскага, Нававольскага, Залуцкага, Тапільскага і Зачарлянскага гурткоў. Усе выступоўцы адзначалі, што ў тых умовах, у якіх прыходзіцца працаваць, зроблена даволі шмат. На з’ездзе была прынята пастанова аб большым наладжванні сярод вяскоўцаў і гараджан чытання лекцый, рэфератаў і вячэрніх заняткаў.

Вечарам Беластоцкі гурток ТБШ паказаў спектакль «Птушка шчасця» па п’есе Францішка Аляхновіча, а таксама канцэрт хору ТБШ. Усе выступленні мелі вялікі поспех.

Яшчэ да акруговага з’езду ТБШ 21 кастрычніка Галоўная ўправа ТБШ выслала пану старасце Сакольскага павета паведамленне аб тым, што ў вёсцы Боркі вяскоўцы хочуць стварыць гурток ТБШ. Жадаючых ужо ёсць 22 чалавекі, з іх 17 сялян.

«Бюлетэнь ТБШ» ад 28 верасня 1932 года паведамляў, што Гарадоцкая гмінная ўправа ТБШ Беластоцкага павета налічвае 196 сяброў, з іх 35 кабет. Сюды ўваходзілі 6 гурткоў: Гарадоцкі, Валілаўскі, Белявіцкі, Меляшкоўскі, Зарэчанскі, Пясчаніцкі, Залуцкі і Навасёлскі.

На адным са сходаў ТБШ у вёсцы Пясчанікі яго сябры пастанавілі напісаць і аддаць старасце прашэнне, каб дазволіў той склікаць сход сялян вёскі Пясчанікі з мэтай зрабіць спісы дзяцей школьнага ўзросту і парупіцца аб адкрыцці пачатковай беларускай урадавай школы.

А на Вялікдзень у вёсках Залукі і Меляшкі былі паказаны спектаклі. Залы былі перапоўнены. Сябры ТБШ ад спектакляў атрымалі даходы: у Залуках — 40 злотых, у Меляшках — 80 злотых.



Беластоцкая акруговая ўправа звярнулася да сакольскага старасты, каб дазволіў арганізаваць гурток ТБШ у вёсцы Боркі. Але староста адмовіў, матывуючы тым, што гэта вёска не належыць да «поля працы» Беластоцкай акруговай управы.

Сяляне з вёскі Навасёлкі Беластоцкага павета 24 ліпеня 1932 года звярнуліся з пісьмом у Галоўную ўправу ТБШ. Яны прасілі Управу даслаць ім 80 буквароў, каб навучаць дзяцей па-беларуску. Галоўная ўправа ТБШ шчыра вітала такую ідэю і даслала сялянам адказ: «Каб стаць больш-менш граматным, трэба прайсці не адну толькі самую пачатковую кніжку, а некалькі, разлічваючы пры гэтым не на адзін год працы, а найменш на два-тры гады сталай, упартай працы “саматугам” ці пад нейкім кіраўніцтвам...»

Далей сябры Управы напісалі пра поўны камплект кніжак для таго, каб стаць граматным. І па аднаму асобніку падручнікаў выслалі сялянам у вёску Навасёлкі.

## 1933 год

Напачатку Калядных канікулаў Беластоцкая акруговая ўправа запрасіла студэнтаў Віленскага ўніверсітэта Марыю Мілючанку (Мілюць), Пятра Чэчку і Пятра Першукевіча, а таксама студэнта Варшаўскага ўніверсітэта Мікалая Орсу на Беласточчыну дзеля таго, каб яны прачыталі беларусам цыкл навукова-папулярных лекцый. І студэнты пагадзіліся. У Беластоку да іх далучыўся і сябра ТБШ Васіль Лукашык.

Пятро Першукевіч у Беластоку прачытаў лекцыі на тэмы «Што мы павінны ведаць аб сусвеце?» і «Цуды тэхнікі», у вёсцы Тапільцы — «Людское жыццё і прырода», у вёсцы Валілы — «Аб прымяненні тэхнікі на вёсцы» і г. д. Дарэчы, Пятро Першукевіч быў родам з Наваградчыны, ён памёр, калі вучыўся на чацвёртым курсе матэматычнага факультэта Віленскага ўніверсі-

тэта. Гэта быў адзін з самых актыўных сяброў ТБШ у Заходняй Беларусі, ён з сябрамі абышоў пяшком усю Беласточчыну. Многія заходнебеларускія выданні напісалі пра яго смерць, а часопіс «Летапіс ТБШ» (№ 5–6) за 1933 год змясціў на вокладцы яго партрэт. Для беларусаў смерць Пятра Першукевіча была вялікай неспадзяванасцю і горам.

Але напачатку 1933 года Пятро Першукевіч яшчэ жыў і з сябрамі на канікулах ладзіў мерапрыемствы на Беласточчыне. Яго сяброўка Марыя Мілючанка ў Міхалове распавядала пра жыццё і творчасць Янкі Купалы, у вёсцы Новая Воля паразважала пра долю жанчыны на вёсцы, у Гарадку — пра беларускі тэатр і яго грамадскае значэнне, у вёсцы Пясчанкі прачытала лекцыю пра літаратуру і яе грамадскае значэнне, а ў Меляшках — пра Якуба Коласа як песняра сялянства, а ў вёсцы Рушчаны людзі даведаліся ад яе пра Янку Купалу як прарока беларускага адраджэння.

Пятро Чэчка ў Беластоку цікава распавядаў прысутным аб тым, што яны павінны ведаць аб свеце, а Васіль Лукашык у Міхалове — пра значэнне культуры і асветы ў жыцці народаў, а ў Меляшках і ў Белявічах ён прачытаў лекцыю на тэму «Чалавечае жыццё і прырода». Выступаў Васіль Лукашык і ў Зачарлянах, дзе цікава распавёў вяскоўцам пра народ і асвету, а ў Бацютах слухалі яго выступленне пра культурна-асветную самапомач сярод беларусаў, у Касцюках — пра патрэбы вёскі ў галіне тэхнікі.

23 студзеня Беласток наведаў харавы дырыжор, фальклярыст, грамадскі і музычны дзеяч, публіцыст і літаратуразнавец Рыгор Шырма. Ён далучыўся да актывістаў ТБШ і доўга гутарыў, чытаў вершы і спяваў песні, расказваючы ўсім пра літаратуру і для чаго яна патрэбна, а таксама пра беларускія народныя песні.



Выступленні вельмі падабаліся слухачам. На кожнай сустрэчы прысутнічала шмат люду. Сяляне ішлі паслухаць выступоўцаў за 10–15 кіламетраў. Яны шчыра віталі лектараў, просячы іх зноў прыязджаць, не забываць іх. Амаль пасля кожнай лекцыі, задавалі выступоўцам сотні пытанняў. А ў некаторых вёсках маладых, адукаваных беларусаў не хацелі адпускаць. «Мы ўжо іх карміць, апранаць і як найлепей даглядаць будзем», — казалі вяскоўцы. Паслухаць студэнтаў прыходзілі сяляне, якім было ўжо па 70 і болей гадоў. Старэйшыя беларусы вельмі былі здзіўлены, што хлопцы і дзяўчаты з гарадоў, дзе яны вучацца, так адкрыта і смела гутараць з імі па-беларуску. Ад такіх доўгіх гутарак, сустрэч маладыя лектары не паспявалі часам вярнуцца ў Беласток, таму прыходзілася начаваць у вяскоўцаў. Людзі з радасцю іх прымалі дома, стараліся як найлепей сустрэць і пачаставаць іх, просячы прабачэння, калі што не так.

Акрамя лекцый і дакладаў Марыя Мілючанка, Мікалай Орса, Васіль Лукашык і Пятро Першукевіч у памяшканні ТБШ у Беластоку наладзілі вячэрнія заняткі для дарослых. Марыя Мілючанка выкладала гісторыю беларускай літаратуры, Васіль Лукашык — гісторыю і беларускую граматыку, Мікалай Орса — біялогію, анатомію і прыроду, Пятро Першукевіч — матэматыку і фізіку. Заняткі адбываліся амаль месяц.

Пасля ўсіх лекцый, выступленняў і заняткаў па ініцыятыве студэнтаў на першы дзень праваслаўных Калядаў у Беластоку быў паказаны спектакль «Змагары за свабоду» — драматычныя абразкі з вясковага жыцця ўкраінца Івана Тагабочнага (1862–1933). А Беластоцкая акруговая ўправа ТБШ выказала падзяку студэнтам за лекцыі і вячэрнія заняткі для дарослых падчас калядных святаў.

## Піліп Кізевіч: ад ТБШ да БГКТ

Адным з актыўных дзеячаў Таварыства беларускай школы (ТБШ) у 1930-х гадах на Беласточчыне і Гарадзеншчыне быў беларус Піліп Кізевіч (1898–1985). А ў 1950-х гадах ён стаяў каля вытокаў стварэння Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ) у Польшчы. Пра гэтага чалавека і хочацца сёння згадаць, хаця знаёмы з ім ніколі не быў і нават у сваім жыцці ніколі не давялося з ім сустрэцца. А Піліп Кізевіч з'яўляўся тою асобаю, якая ўсё сваё жыццё думала пра лёс беларусаў, змагалася за родную мову, за беларускія школы, за тое, каб беларусы былі шчаслівым народам.

Нарадзіўся Піліп Кізевіч 15 лістапада 1898 года ў вёсцы Стральцы Гарадзенскага павета. З маладых гадоў ён актыўна ўключыўся ў беларускі рух. У верасні 1926 года яго абіраюць скарбнікам павятовага камітэта



• *Піліп Кізевіч стаіць пасярэдзіне. Гродзенскі гурток ТБШ, першая палова 1930-х гадоў*



Беларускай сялянска-работніцкай Грамады (БСРГ) — масавай легальнай рэвалюцыйна-дэмакратычнай нацыянал-вызваленчага руху арганізацыі працоўных ў Заходняй Беларусі ў 1925–1927 гадах. А праз год ён становіцца сябрам Гарадзенскай гарадской управы Таварыства беларускай школы.

12 ліпеня 1928 года ў Гародні адбываецца з'езд павятовых дэлегатаў ТБШ. Там Піліпа Кізевіча абіраюць скарбнікам Гарадзенскага акруговага і павятовых праўленняў ТБШ. А восенню таго ж года на Гарадзенскім акруговым з'ездзе ТБШ яго аднагалосна выбіраюць дэлегатам на агульны сход ТБШ у Вільню, дзе беларускі грамадскі актывіст становіцца сябрам Галоўнай управы ТБШ, куды акрамя яго ўваходзілі Міхась Пяткевіч, Фелікс Стацкевіч, Сяргей Паўловіч, Мітрафан Кепэль, Рыгор Шырма і Мікалай Марцінчык.

Піліп Казевіч пачынае працаваць, працаваць шчыра, натхнёна, сур'ёзна. Ён з сябрамі абыходзіць беларускія вёскі, мястэчкі, гарады Гарадзеншчыны і Беласточчыны, дапамагае ствараць гурткі ТБШ, падказвае, раіць, прапаноўвае. На яго імя была нават аформлена беларуская кнігарня ў Гародні, дзе любы жадаючы мог купіць сабе беларускую кнігу, часопіс, каляндар. Паліцыя пачынае пільна сачыць за беларускім актывістам. І 7 ліпеня 1929 года яго арыштоўваюць і саджаюць за краты...

Піліп Кізевіч быў даволі адукаваным чалавекам. Ён часта друкаваўся ў віленскім беларускім друку. У сваіх артыкулах любіў паразважаць пра лёс беларусаў. Асабліва шырокі водгук выклікаў ягоны артыкул «Курсы для дарослых», які быў апублікаваны ў «Летапісе ТБШ»*. У ёй аўтар адзначыў, што «беларускі народ дагэтуль знаходзіцца яшчэ на невысокім узроўні культурнага жыцця. Рэч зразумелая. Краіна наша,

---

* Летапіс ТБШ. 1933. № 3–4. С. 53–54.

адсталая тэхнічна, эканамічна і палітычна, не можа даць высокіх культурных здабыткаў нашаму народу...» Далей аўтар разважаў, што беларускі селянін пад саламянаю страхою жыве зімою разам з курамі, свіннямі, цялятамі, ягнятамі. «Голад таксама з'яўляецца вельмі частым госцем беззямельнага або малазямельнага, — пісаў Піліп Кізевіч. — А пры такіх непераможных абставінах ці ж можа быць вольны прыплыў культуры?» Але, як пісаў аўтар, выхад ёсць. «Выхад не толькі ёсць, але беларускі народ на чале з ТБШ вядзе ўжо амаль па ўсёй Заходняй Беларусі жывую культурна-асветную працу ў розных формах. Побач з дамаганнем школы ў роднай мове, сваімі ўласнымі рукамі стаў браць для сябе тое з навукі, што можа. Вёска і места загаварылі аб кніжцы, аб газеце, аб спектаклях, аб лекцыях. Гарэлка ж і тытунь адсунуты ў мінулае гісторыі. Нягледзячы на перашкоды, на той цярністы шлях жыцця і працы, народ наш на чале з ТБШ ідзе бадзёра да вызначанае мэты...» — пісаў Піліп Кізевіч.

Ён быў заўсёды аптымістам і актывістам. Зімою ў 1932–1933 гадах Піліп разам з сябрамі Беластоцкай акруговай управы ТБШ наладзілі вялікі цыкл лекцый па ўсёй акрузе. Былі арганізаваны пры гуртках ТБШ курсы для дарослых і праведзены заняткі з неадукаванымі і малаадукаванымі людзьмі. Напрыклад, Пясчаніцкі гурток ТБШ арганізаваў курсы для дарослых, якія складаліся з дзвюх груп: непісьменныя і малапісьменныя. У першай групе выкладалася беларуская мова, вучыліся чытаць і пісаць, лічыць да 100. У другой групе выкладалася беларуская мова, граматыка, правапіс, арыфметыка, гісторыя і геаграфія Беларусі. Працавалі каля 25 гадзін.

Дзярнякоўскі гурток ТБШ таксама наладзіў курсы для дарослых, дзе выкладаліся беларуская мова, арыфметыка і гісторыя. Працавалі 20 гадзін.



Залуцкі гурток ТБШ арганізаваў курсы для дарослых, дзе выкладаліся беларуская мова і арыфметыка.

Вельмі актыўна праводзілі курсы для дарослых сябры Навасёльскага гуртка ТБШ. Выкладаліся беларуская мова, гісторыя і геаграфія. З дарослымі працавалі 15 чалавек з ТБШ, сярод якіх былі і тры дзяўчыны. Сябры Белявіцкага гуртка ТБШ выкладалі беларускую мову, арыфметыку, геаметрыю, гісторыю і геаграфію Беларусі. Вельмі актыўным сябрам ТБШ у гэтым гуртку быў спадар Лебядзінскі...

Гэта толькі некалькі прыкладаў, каб паказаць, што рабілася сябрамі ТБШ на Беласточчыне дзеля ліквідацыі непісьменнасці сярод беларусаў. І ў гэтым была вялікая заслуга сябра Галоўнай управы ТБШ Піліпа Кізевіча.

Пасля Другой сусветнай вайны Піліп Кізевіч жыў у Беластоку. У верасні 1949 года на Беласточчыне пачаліся арганізоўвацца школы з беларускай мовай навучання. У сувязі з гэтым Кураторыя Беластоцкай школьнай акругі (КБША) вырашыла ўзяць чалавека на пасаду візітатара школ для такога віду ўстаноў. У 1950 годзе на гэту пасаду быў прыняты не хто іншы, як Піліп Кізевіч. Тры гады ён працаваў на ніве беларускай асветы на Беласточчыне.

З самага пачатку 1956 года ў Польшчы рабіліся першыя арганізацыйныя захады наконт заснавання Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ). У памяшканні ваяводскага праўлення Таварыства польска-савецкай дружбы у Беластоку быў створаны аргкамітэт па стварэнню БГКТ. У яго склад увайшлі 9 чалавек, сярод якіх быў і Піліп Кізевіч. Камітэт павінен быў падрыхтаваць арганізацыйны з'езд і скамплектаваць рэдакцыйны калектыў. І камітэт паспяхова з гэтым справіўся. 26 лютага 1966 года ў Беластоку адбыўся Першы з'езд БГКТ. З'езд абраў Піліпа Кізевіча намеснікам старшыні галоўнага праўлення БГКТ.

А 30 сакавіка 1958 года ў Беластоку адбыўся другі з'езд БГКТ. У склад прэзідыума ГП БГКТ увайшлі Уладзімір Станкевіч — старшыня, Піліп Кізевіч — намеснік старшыні і Віктар Швед — сакратар.

Вось што мне прыгадаў беларускі паэт Віктар Швед з Беластока пра Піліпа Кізевіча: «Сустракаліся мы вельмі часта на прэзідыумах галоўнага праўлення БГКТ. Піліп Кізевіч заўсёды быў надта актыўны, ён быў адказны ў Таварыстве за культурную працу. Высокага росту, прыстойны старэйшы чалавек, вельмі шчыры беларус, лагодны і памяркоўны, карыстаўся аграмаднай папулярнасцю не толькі ў беларускім асяроддзі. Ён быў дырэктарам Беластоцкага прадпрыемства водаправодаў і каналізацыі. Яшчэ нядаўна я размаўляў з чалавекам, які з ім працаваў, і ён запамятаў свайго дырэктара як добрага арганізатара працы, справядлівага, надта спагадлівага і дабрэйшага культурнага чалавека».

Піліп Кізевіч меў шмат сяброў. Асабліва даражыў сяброўствам з тымі, з кім працаваў разам у ТБШ. Ён перапісваўся з Рыгорам Шырмай, Міхасём Забэйдам-Суміцкім, шчыра сябраваў з Пятром Ластаўкай, які быў арганізатарам славутага прадпрыемства «Бэтэска» ў Варшаве і фінансаваў беларускія справы. У памяшканні беларускага тыднёвіка «Ніва» ў 1958 годзе адбылася сустрэча з Рыгорам Шырмам. На сустрэчу да беларускіх журналістаў і літаратараў вядомага дзеяча Заходняй Беларусі запрасіў Піліп Кізевіч. Ён расказаў аб грамадскай і палітычнай дзейнасці кампазітара ў час санацыйнай Польшчы ў 1920–1930-х гадах, спыніўся на яго творчасці і дзейнасці. Тады і Рыгор Шырма прыгадваў, як са скрыпкай пад пахай з сябрамі вандраваў па Беласточчыне, ад вёскі да вёскі, збіраючы народныя песні. Пясчанікі, Страшава, Гарадок, Тапілец — мясціны былі добра знаёмыя і Шырме, і Кізевічу.

Прыязджаў у Беласток і Міхась Забэйда-Суміцкі ў 1965 годзе. Яго з сябрамі БГКТ шчыра вітаў і Піліп Кізевіч. Гэта ён арганізоўваў у 1937 годзе гастролі спевака ў Беластоку, ён з радасцю вітаў госця і ў 1965 годзе. Тады Міхась Забэйда-Суміцкі даў сем канцэртаў на Беласточчыне — у Міхалове, Бельску, Саколцы, Гайнаўцы, Мілейчыцах і два ў Беластоку. І заўсёды з ім побач быў сябра Піліп Кізевіч.



Піліпа Кізевіча на Беласточчыне вельмі любіла і паважала беларуская моладзь. Ён для юнакоў і дзяўчат быў аўтарытэтам і Беларусам з вялікай літары. Калі не стала Піліпа Кізевіча (памёр 17 студзеня 1985 года), Сакрат Яновіч апублікаваў невялікія ўспаміны ў тыднёвіку «Ніва» пра дзядзьку Піліпа. Артыкул свой ён так і назваў «Памяці дзядзькі Піліпа». У ім аўтар шчыра і адкрыта сказаў: «Дзядзька Піліп увасабляў нам сабою дзівосна жывую лучнасць паміж даўнім і новым, абарваную войнамі, акупацыямі і чым хочаш. Мы, маладыя, глядзелі на яго як на нейкага такога, хто па-апостальску зведаў тыя далёкія дарогі, па якіх усё ішла да нас беларускасць, гэты наш свой гонар і ў нікога не пазычаная наша свая воля жыць далей на ўласны рахунак ды на ўласную адказнасць. Бывала і так, што бег я ў кут, каб выплакацца там Гаруновымі слязьмі ад шчасця, што я — беларус, беларус, беларус!!! Ён чуйна прыкмячаў гэтае шаленства ў нас...»*

## Адзін з пачынальнікаў ТБШ на Беласточчыне

У 1930-х гадах адным з актыўных сяброў Таварыства беларускай школы на Беласточчыне быў Васіль Юравец.

Васіль Юравец нарадзіўся ў вёсцы Грыбаўцы каля Гарадка ў звычайнай беларускай сям'і. Пры жыцці паспеў скончыць пачатковую школу, але далей вучыцца

* Ніва. 1985. 17 лютага.

не змог, бо сям'я на гэта не мела сродкаў. Працаваў ён на тэкстыльнай фабрыцы ў Гарадку.

Калі на Беласточчыне стварыліся гурткі ТБШ, Васіль Юравец адным з першых запісаўся ў гэту беларускую арганізацыю. Ён быў не толькі сябрам Гарадоцкага ТБШ, але сакратаром яго ўправы.

У вольны час юнак з Грыбаўцаў выступаў з прамовамі перад сваімі землякамі, заклікаў іх уступаць у ТБШ, а таксама пісаў вершы. Ён дасылаў іх у віленскія беларускія выданні. Некаторыя вершы нават друкаваліся. Асабліва плённым для Васіля быў 1933 год. Часопіс «Летапіс ТБШ» апублікаваў некалькі яго паэтычных твораў.

У канцы 1920-х — пачатку 1930-х гадоў Васіль Юравец бачыў, як жывуць яго землякі, як ім цяжка, асабліва тым, хто вярнуўся з бежанства з Расіі. Галодныя, босыя і халодныя, яны сяліліся разам са сваімі блізкімі і бацькамі, хто змог вярнуцца, на родных загонах, якія параслі густымі лазнякамі і лесам. Але беларусы сяліліся, бо дома лепш было, бо хацелася дамоў. Яны карчавалі поле, абраблялі глебу, змагаліся з голадам і холадам. Юнак з Грыбаўцаў бачыў іх панурае і цяжкое жыццё. Слабыя людзі паміралі, дэмаралізаваліся. Мацнейшыя выжывалі, гартаваліся, працавалі і змагаліся. Да ліку мацнейшых адносіўся і Васіль Юравец. Разумеючы вялікую патрэбу ў культурна-нацыянальным усведамленні, ён быў у першых шарэнгах беларускіх актывістаў за асвету, за родную мову. Пра гэта ён і пісаў у сваіх паэтычных радках. Праўда, у іх было шмат недахопаў, адчувалася, што юнаку не хапала пэўнай адукацыі, што ён недастаткова валодаў роднай мовай. З рэдакцый віленскіх выданняў яму дасылалі лісты, пісалі, што неабходна добра працаваць над формай вершаў, якія мелі шмат кволых строфаў з пункту гледжання рытму і рыфмы. Яму раілі чытаць творы беларускіх паэтаў.



Але ў вершах Васіля Юраўца адчуваўся здаровы гумар, бодрасць і нейкая юначая мужнасць і аптымізм, якія тады былі патрэбны тым беларусам, што жылі з ім побач. Ён крытыкаваў тых, хто нічога не рабіў, а толькі плакаў над сваёй доляй. Васіль такім не быў, ён бадзёра глядзеў на жыццё, ён не ўмеў плакаць над крыўдамі, над горкім лёсам. Ён перажываў за гурткі ТБШ на Беласточчыне, за тых сяброў, якія былі неактыўнымі, таму даводзілі гурткі да заняпаду і знішчэння. Пра гэта ён пісаў у сваіх паэтычных радках. А ў вершах актыўна агітаваў уступаць у ТБШ, заклікаў абараняць сваю мову, адкрываць беларускія школы, актывізаваць мастацкую самадзейнасць.

Праглядаючы старыя выданні беластоцкіх «Беларускіх календароў» за 1960-я гады, трапіў на невялічкую зацемку «Сялянскі паэт» у «Беларускім календары» за 1968 год. Там на старонцы 30 паведамляецца, што пенсіянер Васіль Юравец жыве ў вёсцы Грыбаўцы Беластоцкага павета. Да пенсіі ён працаваў на чыгунцы. Усё сваё жыццё Васіль Юравец пісаў вершы. Але пасля Другой сусветнай вайны мала ці зусім не друкаваўся. А ўсе свае творы захоўваў у рукапісах. Цікава, а дзе цяпер гэтыя рукапісы? Альбо яны прапалі, альбо дзеці і ўнукі іх захоўваюць. Вядома, сялянскі паэт не быў вялікім паэтам, але вершы Васіля Юраўца з'яўляюцца хронікай ягонага жыцця і змагання за беларускія школы на Беласточчыне ў даваенны і пасляваенны час. Таму вершы Васіля Юраўца трэба шукаць і лепшыя надрукаваць.

Некаторыя з іх, напісаныя ў 1932–1933 гадах, вырашыў уключыць у кнігу.

## З літаратурнай спадчыны Васіля Юраўца

### Наш гурток…

*Прысвячаю сябрам*
*Гарадоцкага гуртка*

1.

Наш гурток ў сучаснай эры
Ні то гасне — ні гарыць:
Два замкі падперлі дзверы,
Пэўна, штось яму баліць.
Мо пружына аслабела
Главаром гуртка — сябрам,
Ўрэшце, мо і заржавела,
Дык трэ нову ўставіць нам?!
Не! Здаецца, ўсё ў парадку,
Як і зверху, так знутры —
Трэ знясці сяброўску складку, —
Сорам — выйшло ўжо з пары!
Годзі ўжо, даволі спалі,
Пара, сябры, уставаць,
Ад другіх, пабач, адсталі,
Якась мусіма дагнаць!
Дык таўкні сусед суседа,
Ушчыпні свайго сябра!..
Спі, як хочаш, — я, брат, еду!
Чуеш ты?! — Даўно пара!
Маем добрую чыгунку,
Зробім большы тып калёс



І папрэм у тым кірунку,
Дзе цяпер чарот парос.
Зловім, згомтаем чароты,
Смецце выкінем — згарэм…
Дык шпарчэй жа да работы, —
З мяне першага пачнем!

2.

Гэтак ехаць, як мы пхнемся,
З аглаблямі без атос, —
Ў паўдарогі застанемся,
І чарот той будзе рос!
А тут з боку, як на тое,
Вельмі многа перашкод,
Што тармозяць, як на злое,
Наш нясведамы народ:
Топчуць, рыюць каляіны,
Смецце кідаюць, плюють,
У бок цягнуць аглабіну,
Далей ехаць не даюць.
Воз то скача, то віляе
З каляіны скрозь на бок.
Прыклад гэтакі вось мае
Гарадоцкі наш гурток.
Пакідаем тагды пхаці, —
Дзе трэ ехаць — мы стаяць —
Ды праекты будаваці,
Хто б ляпей мог кіраваць.
І штодня перакладаем
Гэты цяжар задарма,
Вынік вось які мы маем:
Не было лепш і няма.
Не сцябаць жа нас па спіне…

Як за паншчынай калісь.
Справа ўся у дысцыпліне,
Ды такой, што аж дзяржысь!..

*23–25 ліпеня 1932 г., в. Грыбаўцы*

### Да ведама вёскі Меляшкі

Меляшкі даўно хварэюць —
Без пары не едзе смерць.
Ад чаго, не разумеюць,
Трэ ім лысіну нацерць.
Чорт сядзіць у іх балоце,
Што не відна нават рог.
Ходзіць кожны, як па дроце,
Каб загразнуці не мог.
У жывіцы мокры рогі,
Бедна мучыцца чаго?
Погляд мае вельмі строгі,
Так прабіла бы каго...
Каб з вас людзі не смяялісь,
Не казалі: Меляшкі!
Вы адразу б дагадалісь:
Трэба выпіць парашкі.
Тады будзеце багаты,
Стане стог вам на стагу...
Не жадаю з вас заплаты —
Добрым словам памагу.

*1932*

### Хлопцы, дружна!..

Хлопцы, дружна, хлопцы, смела,
Пакуль рукі змогуць браць,
Пакуль горай не сцямнела —



Завідна ляпей пачаць —
Ратаваць сваю сярмягу,
Ратаваць свой цёмны край,
Што акутаў сон бяднягу —
Крыкнем голасна: ўставай!
На культурным небасхіле
Рассяваецца туман:
Цемру гоне ўжо к магіле
Кучка сведамых сялян.
Вось каб кожна вёска знала,
Кожна цёмная душа,
Што культура заняпала,
Што нам трэба ТБШ!

*1933*

### Да працы

Гэй вы, хлопцы! Гэй, дзяўчаты!
Дзвінем дружна ў ТБШ!
Там дык праца распачата
Нам карысна й хараша.
Ўсе па нітцы, па шнурочку
Зложым, хлопцы, з кожных хат, —
Глядзіш, голаму сарочку
Зробім, хлопцы, напрыклад.
А тады цясней павяжам
Ўсе гурткі ў адно звяно
Ды другім прыклад пакажам, —
Разам дзвінем — за адно!
Гэй вы, хлопцы! Гэй, дзяўчаты!
Ўсе адзін да аднаго!
Калі ж месца не занята,
Дык займай хутчэй яго!

*1933*

# Сярожа Пастушок на старонках «Заранкі»

Пад псеўданімам Сярожа Пастушок у канцы 1920-х — пачатку 1940-х гадоў у друку выступаў беларускі паэт Сяргей Крывец (1909–1945). Той самы Сяргей Крывец, які ў 1933 годзе з Мастоўшчыны пераехаў у Беласток, дзе і пражыў свае апошнія 12 гадоў.



• *Сяргей Крывец*

Язэп Палубятка ў беларускім беластоцкім тыднёвіку «Ніва» (2012. 12 лют.) распавёў пра Сяргея Крыўца і пра яго беластоцкі творчы ўзлёт, а таксама апублікаваў нізку вершаў паэта, якія ён напісаў у Беластоку. Вершы гэтыя былі апублікаваны ў адзіным зборніку паэта «Дубок», які пабачыў свет у мінскім выдавецтве «Беларусь» у 1972 годзе. Зборнік падрыхтаваў і напісаў прадмову да яго Рыгор Шырма, рэдактар Максім Танк.

Праўда, Язэп Палубятка памыліўся, калі напісаў, што Сяргей Крывец у 1944 годзе, пасля вызвалення Беластока, быў мабілізаваны ў савецкае войска, а ў красавіку 1944 года, падчас штурму Гдыні, быў цяжка паранены і 29 красавіка 1944 года памёр. Паэт сапраўды быў паранены, але ў красавіку 1945 года. Каля Гдыні яму адарвала нагу нямецкім снарадам, а памёр ён 28 красавіка 1945 года ў шпіталі. Яму было толькі 36 гадоў.

Сяргей Крывец нарадзіўся ў вёсцы Дубна Гродзенскага павета (цяпер Мастоўскі раён). У 1915 года маці з дзецьмі выгналі ў бежанства ў Саратаўскую вобласць Расіі. У бежанстве хлопчык вучыўся ў школе, маляваў,



сам пачаў вывучаць мовы. На бацькаўшчыну Крыўцы вярнуліся ў 1921 годзе. Вяртанне было цяжкім і бедным. Сяргей наймаўся і ў пастухі, і ў парабкі, і ў цесляры.

У 1925 годзе юнака выбіраюць сакратаром гуртка Таварыства беларускай школы. Ён пачаў праводзіць шырокую культурна-асветную работу на вёсцы, шмат чытаў, пазнаёміўся з Рыгорам Шырмам, Максімам Танкам, іншымі літаратарамі Заходняй Беларусі. Самастойна вывучыў і добра ведаў беларускую, рускую, польскую і нямецкую мовы. А калі брат у яго спытаўся неяк, навошта яму нямецкая мова, Сяргей адказаў, што хоча ў арыгінале прачытаць Гётэ і Шылера.

У 1930 годзе Сяргей Крывец падаўся з вёскі ў Гародню, дзе ўладкаваўся працаваць цесляром, а потым пераехаў у Беласток. У 1940 годзе паступіў у Беластоцкі педінстытут.

У 1927 годзе ў Вільні пачаў выдавацца ілюстраваны дзіцячы часопіс «Заранка». Рэдактарам-выдаўцом яго была Зоська Верас. У часопісе друкаваліся творы заходнебеларускіх пісьменнікаў, казкі, дасланыя чытачамі, вершы дзяцей, пераклады, малюнкі, розныя конкурсы і краязнаўча-пазнавальныя матэрыялы. Напісаў туды першае пісьмо ў 1927 годзе і Сяргей Крывец, але падпісаўся псеўданімам Сярожа Пастушок. Ён даслаў у рэдакцыю свой першы верш. У рубрыцы «Наша пошта» у № 7 з’явілася паведамленне: «Верш змяшчаем. Пішы, што будзеш рабіць зімой». Верш «Што за




• *Адзін з нумароў часопіса «Заранка», дзе пачынаў друкавацца Сяргей Крывец*

шчасце, што за доля...» — гэта першы апублікаваны твор Сяргея Крыўца. Дарэчы, Рыгор Шырма чамусьці не ўключыў гэты верш у кнігу «Дубок».

Паэт у першым вершы выказаў мару мецъ кавалак уласнай зямлі, карову, шмат збожжа, а таксама жаданне вучыцца ў беларускай школе:

Што за шчасце, што за доля
Меці свой кавалак поля,
Сваю ўласну ніўку,
Сваю хатку і садочак,
І гародчыку кусочак,
І коніка Сіўку.
Мець кароўку і цялушку,
Збожжа поўную кадушку,
Але я не маю
Ані хаткі, ні гароду,
Ані нават свайго плоту.
І як жыць, не знаю.
Каб я меў хоць сваю хатку,
Пакінуў бы ўдома матку.
І — у свет далёка...
Ў свет далёка я пайшоў бы,
Жыццё лепшае знайшоў бы,
Як Рыгор з Санока.
Чым па свеце валачыцца,
Лепей трэ было вучыцца
Разам з дзяцьмі ў школе.
Не па-польску, не па-руску,
Я хачу па-беларуску
На роднае мове.
Хоць не верацъ цяпер людзі,
Але гэта, праўда, будзе,
Што мне часта сніцца,
Як дадждэмся сваёй волі,
Я не буду пасвіць болей,
А буду вучыцца.
Гэта надта велька крыўда,
Што мне трэба пасвіць быдла,



Але жыці трудна,
Бо не маю свайго поля.
Але прыйдзе лепша доля,
Хоць ідзе марудна.

Вясковы Пастушок быў вельмі ўзрадаваны першай публікацыяй, ён прасіў рэдакцыю, каб яму прыслалі часопіс. І нават на выданне адправіў каля 2 злотых. Рэдакцыя выслала яму «Заранку». Але Пастушок не атрымаў. Ён зноў напісаў ліст і паведаміў, што «Заранку» так і не атрымаў. Тады рэдакцыя паўторна выслала часопіс Пастушку, а рэдактар часопіса Зоська Верас у рубрыцы «Наша пошта» паведаміла: «На гэты раз “Заранку” вышлем “палецоным” пакетам, мо хоць так яна дойдзе. 1зл. 70 гр. ад цябе атрымалі, таксама лісты, а “Заранка” ўвесь час пасылалася. Апроч таго былі высланы два лісты, як адказы на твае пытанні. Дзе гэта ўсё магло дзецца? Мо твой адрас не правідловы».

Пазней Зоська Верас выслала Сяргею Крыўцу ўсе нумары «Заранкі» за 1927 год. Па першых вершах паэтка і выдавец заўважыла, што на Мастоўшчыне жыве вельмі таленавіты самародак. Яе хвалявала, каб ён не знік, каб атрымаў пэўную адукацыю і меў працу. У «Нашай пошце» Зоська Верас пыталася: «Напішы нам, ці маеш магчымасць, хоць крыху вучыцца і ці ёсць дзе дастаць беларускія кніжкі для чытання? Прысылай нам сваіх вершаў болей. Ахвотна будзем іх пераглядаць і што добрае змяшчаць. Шчыра жадаем табе, каб ты меў магчымасць вучыцца і развівацца»*.

На старонках часопіса № 4 за 1928 год быў апублікаваны яшчэ адзін верш Сярожы Пастушка пра моладзь. Яго таксама няма ў зборніку «Дубок». Верш гучыць так:

---

* Заранка. 1928. № 4.

Моладзь, моладзь, ўся надзея
Маткі Беларусі!
Наша першая ідэя:
Смелымі быць мусім.
Мусім стаць нагамі цвёрда
На родную зямельку,
З болем трэ бароцца горда
Змагчы труднасць вельку.
Мусім выставіці грудзі
Нявыгодзе смела,
Каб з нас потым выйшлі людзі,
Каб з нас выйшла дзела.
Будзем слабых бараніці,
Праўды дамагацца
І у згодзі брацкай жыці,
За волю змагацца.
Дружна возьмемся за дзела
З ранняю зарою
І наперад пойдзем смела
Моцнаю сцяною.
Гэй, да працы, люд свабодны!
Браты і сястронкі,
Хай ляціць наш гімн народны
Ува ўсе старонкі.
Няхай зыкам сваім вольным
Ўскалыхне паветра,
Каб пачуў яго цвет польны,
Роднай пушчы нетра.

У 1929 годзе Сярожа Пастушок па-ранейшаму шчыра сябруе з «Заранкай». А Зоська Верас у «Нашай пошце» усё пыталася: «...Ці ўжо вучышся ў сталяра? Пішы ў “Заранку”». І вясковы юнак пісаў. У першым нумары за 1929 год «Заранка» друкуе пераклад Сярожы Пастушка з польскай мовы абразка «Удзячнасць дзікага». Сюжэт абразка вельмі надуманы, але ён цікава чытаецца. Некалі беднай індыянцы адна жанчына ахвяравала залатую манетку. Прайшло шмат гадоў. І сын некалі беднай індыянкі стаў багатым чалавекам. Ён знайшоў тую жанчыну і прынёс ёй у знак падзякі за залатую манетку 25 тысяч франкаў. На дабро адказаў дабром. Вось такі сюжэцік таго абразка, які пераклаў Сярожа Пастушок.



У 1931 годзе вясковы паэт дасылае ў «Заранку» загадкі і круцігалоўкі, якія сам складае і выдумляе. Першы нумар часопіса нават некаторыя з іх апублікаваў.

Але хутка «Заранка» спыняе сваё існаванне. А Сярожа Пастушок (Сяргей Крывец) пераязджае з роднай вёскі Дубна ў Гародню, а потым у Беласток.

## Беларуская Беласточчына на старонках «Нашай справы» (1926–1927)

Газета рэвалюцыйна-дэмакратычнага накірунку «Наша справа» ў Заходняй Беларусі ў 1926–1927 гадах была апошнім афіцыйным перыядычным выданнем Беларускай сялянска-работніцкай Грамады (БСРГ). хадзіла яна два разы на тыдзень на беларускай мове. А выдаваў газету грамадска-палітычны дзеяч Заходняй Беларусі Пятро Мятла (1890–1936).

Газета «Наша справа» сапраўды была дэмакратычнай і смелай. Яна актыўна публікавала розныя звароты, заклікі, пісала пра дзейнасць Грамады ў За-


НАША СПРАВА

Урадавы крызіс у Польшчы.

Да асьветнае працы.

ходняй Беларусі, пра розныя напады і арышты сяброў Грамады. Газета на сваіх старонках давала слова ўсім беларусам, якія шчыра распавядалі пра тое, што адбываецца ў іх вёсцы, мястэчку ці ў горадзе. Адукаваныя вяскоўцы і гараджане маглі выказаць свае аб'ектыўныя і суб'ектыўныя думкі наконт тагачаснай палітыкі Польшчы, адносінаў улады да беларусаў, да сяброў Грамады. «Наша справа» паведамляла таксама пра падзеі і беларускія справы на Беласточчыне.

## Напады на сяброў Грамады

У 1926 годзе «Наша справа» (№ 2) надрукавала аб'яву, што ў нядзелю, 5 снежня, у 10 гадзін раніцы ў вёсцы Беразова Арлянскай гміны ў доме Тодара Трэшчынкі адбудзецца павятовы з'езд сяброў Грамады Бельскага павета.

Прайшло некалькі дзён, і ў сераду, 8 снежня 1926 года газета друкуе артыкул «Бандыцкі напад на павятовы з'езд Беларускай сялянска-работніцкай Грамады». Аказалася, што перад пачаткам з'езда пад'ехаў кардон паліцыі на аўтамабілях. А «цывільныя» асобы затрымлівалі таксама людзей, якія ішлі на з'езд, і пыталі ў іх пашпарты. А ў каго іх не было, затрымлівалі і адбіралі партыйныя білеты, якія адразу перадавалі «мундуровай паліцыі». Але 120 грамадоўцаў усё ж прыйшлі ў памяшканне. Сюды з'явіліся і намеснік старасты з камендантам паліцыі. На самым пачатку з'езда ў дзверы залы пачалі ламіцца тыя самыя людзі ў цывільным, якія адбіралі білеты. Але ахоўнікі з'езда іх не пусцілі. Тады «цывільныя» пачалі праз вокны ўрывацца ў залу. Намеснік старасты і камендант паліцыі пакінулі залу. Калі «цывільныя» лезлі праз вокны ў залу, іх пачалі не пускаць грамадоўцы. Як пісала газета, «трашчалі вокны і сцены, ламіліся калы, дручкі і прыклады стрэльбаў. Рабілася нешта немагчымае».



У гэтай мітусні прымала ўдзел і «мундуровая паліцыя», якая праз чорны ход таксама ўварвалася ў залу і пачала біць людзей, выганяць іх на вуліцу, дзе грамадоўцаў таксама білі, усюды было шмат крыві, ляжалі параненыя і непрытомныя вяскоўцы.

Людзей выгналі з залы, дзе засталіся толькі паслы. Аднак праз некалькі хвілін бандыты вярнуліся і напалі на паслоў. А паліцыя стаяла за вокнамі. Тады пасол Пётр Мятла дастаў рэвальвер і выстраліў у столь. І паліцыя «звярнула ўвагу» і з крыкамі «Kto strzelał?» забегла ў залу. Паслы стаялі акружаныя бандытамі. На вачах паліцыі паслоў Мятлу і Валошына моцна білі. Яны, акрываўленыя, страцілі прытомнасць...

У наступным нумары «Нашай справы» з'явіўся артыкул «Пралітая кроў». Невядомы аўтар паведамляў: «Пішучы ў папярэднім нумары аб выніках змагання адміністрацыі з адзінай масавай арганізацыяй беларускіх сялян і работнікаў — Грамадой, мы сапраўды думалі, што ўсе даступныя адміністрацыйным уладам спосабы барацьбы ўжо вычарпаны. Аднак, як аказалася, мы памыліліся: гэта паказвала крывавая расправа ў Бельскім павеце... Мы не ведаем яшчэ, ці ў Бельшчыне ёсць сярод ахвяр нападу забітыя. Але са слоў паслоў, якія былі збіты да беспрытомнасці, вынікае, што ў зале разгромленага з'езду Грамады былі цэлыя лужы крыві... І гэтая кроў, пэўна, не скора будзе забыта!..»

Далей аўтар палымяна заклікаў беларусаў да згуртавання: «А мы, сяляне і работнікі, не ўпадайма на духу: не бывала таго на свеце ніколі, каб пралітая кроў не давала пладоў! Дык шчыльней гартуйма нашыя рады, ідучы наперад раз абраным шляхам, і не давайма сябе справакаваць на неабдуманыя ўчынкі. Наша сіла — у нашай арганізаванасці, і працу над нашай арганізацыяй мы мусім за ўсякую цану спакойна і абдумана давясці да канца».

Падзеі ў Беразове ўсхвалявалі ўсіх грамадоўцаў Заходняй Беларусі. Сотні лістоў у падтрымку пацярпелых у Бельскім павеце пасыпалася ў рэдакцыю «Нашай справы». Газета нават распачала рубрыку «Водгук крывавае расправы», дзе публікавала лісты-абурэнні чытачоў наконт падзеі ў Беразове. Самкоўскі гурток з Наваградскага павета паведамляў у тэлеграме: «Шлём гарачае прывітанне барацьбітам за вызваленне беларускага народа — паслам Валошыну і Мятле»*. «Ад імя ўсіх сяброў Мядзведзеўскага гуртка Грамады прыношу шчырае і гарачае прывітанне дарагім нашым Павадырам — паслам Мятле і Валошыну, выказваю спогад у іх крывавым змаганні за долю сялян і работнікаў. Заклікаю ўсіх сяброў Грамады ўсяго Заходняга кутка Беларусі ісці за прыкладам нашых паслоў і не баяцца смерці ні вастрогаў, вядучы цеснымі радамі барацьбу за свае правы на адкрытым легальным шляху. Сакратар гуртка С. Родзька»**.

У № 2 за 1927 год «Наша справа» апублікавала «Прывітанні ахвярам пагрому ў Бельшчыне». Гэтыя прывітанні ў пісьмах і тэлеграмах паступалі ў рэдакцыю з Мірскага, Плаўскага, Беражкоўскага, Метлаўскага, Галенчыцкага, Галынскага, Кардзікскага, Нававольскага, Дараглянскага, Жыгынскага, Бандарскага і Навадворскага гурткоў Грамады Заходняй Беларусі. А гурток Грамады з Пясчанікаў Гарадоцкай гміны праз газету паведаміў: «Шлем гарачы прывет нашым выбранцам, сапраўдным барацьбітам, праліўшым кроў сваю ў змаганні за вызваленне Беларускага Народа і за лепшую долю працоўнага люду, — паслам Валошыну і Мятле. Кожная капля пралітае Вамі крыві капнула на сэрца кожнага грамадзіста, і факт на дзеле паказаў,

* Наша справа. 1926. № 8.

** Тамсама.



што толькі ў моцнай арганізацыі мы зможам адбіцца ад усякіх напаснікаў і здабыць сабе лепшую будучыню».

Пачуўшы пра збіццё беларускіх паслоў і сяброў Грамады, у рэдакцыю «Нашай справы» звярнуліся 18 сяброў з польскай Хрысціянскай дэмакратычнай партыі. У адкрытым пісьме яны паведамілі, што «мы, жыхары вёскі Пераходы Гарадоцкай гміны Беластоцкага павета, сябры польскай Хрысціянскай дэмакратычнай партыі, выходзім з гэтае партыі і складаем дэкларацыі для ўступлення ў сялянска-работніцкую Грамаду. Практычная палітыка Ch.-D. паказала нам, што партыяй гэтай бароняцца не сялянска-работніцкія інтарэсы, а абшарніцка-капіталістычныя, — гэтым матывуем свой выхад з Ch.-D. У Грамадзе бачым больш шчырую барацьбітку за правы сялян і работнікаў і таму заклікаем усіх ашуканых выходзіць са здрадніцкіх партый і гуртавацца вакол Грамады»*.

У многіх грамадоўцаў паліцыянты забіралі партыйныя білеты і не вярталі. Напрыклад, газета «Наша справа» паведамляла ў 1927 годзе (№ 2), што партыйны білет № 52679 і білет № 52681 на імя Арцёма Марчука і Івана Качана з вёскі Белая Бельскага павета паліцыянты так і не вярнулі.

Сарваны павятовы з’езд Грамады быў у лістападзе 1926 года і ў Саколцы, хаця на яго правядзенне грамадоўцы мелі дазвол у клубе ўрадоўцаў. І нават заплацілі задатак. Але ім не дазволілі. Тады было вырашана з’езд правесці ў адной з вясковых пуняў. Як пісала «Наша справа» (1926. № 2), калі сабралася ў пуні і каля пуні 120 чалавек, дык «фашыстоўская баёўка, зложаная з польскае моладзі» пачала наступленне. «Дзеля гэтага быў выбраны момант, калі заступнік старосты з 14 паліцыянтамі ўвайшоў у памяшканне з’езда — “правяраць білеты”. Тут баёўка і атакавала з’езд, выламаўшы дзве-

* Наша справа. 1927, № 4.

ры, чаму паліцыя не перашкодзіла. Грамадская міліцыя пачала адбівацца ад напаснікаў. Дык прыгатаваны ў суседнім доме атрад паліцыі выскачыў з засады і пачаў разганяць і біць грамадоўцаў. Некаторых арыштавалі, але праз два дні ўсіх выпусцілі. У самую поўнач нейкая банда акружыла хату, дзе знаходзіўся Валошын, а два ведамыя басякі ўвайшлі ў сярэдзіну і спрабавалі выклікаць пасла на вуліцу — на нейкі “сакрэт”. Пад крыжавымі пытаннямі пасла і прысутных асоб, яны прызналіся, што ім сулілі па 150 злотых кожнаму за набіццё або забойства пасла Валошына...» — пісала «Наша справа».

Нягледзячы на ўсе пагрозы, перашкоды і катаванні, беларускія паслы Пётра Мятла і Павел Валошын працягвалі сустракацца з сябрамі Грамады. 29 лістапада 1926 года Павел Валошын правёў мітынг у мястэчку Кляшчэлі Бельскага павета. Народу тады сабралася каля 2 тысяч чалавек, каб паслухаць свайго пасла, якога шчыра віталі. Але адміністрацыя так напалохана была Валошыным, што ў Кляшчэлі хуткім цягнікам выслала на падмогу мясцовай паліцыі 15 паліцыянтаў з Бельска. Але мітынг адбыўся, ён закончыўся прыняццем шэрагу рэзалюцый з патрабаваннем належных правоў для беларусаў і людскіх варункаў жыцця. Аб гэтым таксама паведамляла «Наша справа».

### З жыцця сялян

Шмат на сваіх старонках газета пісала пра нялёгкае жыццё і клопаты беларусаў у першай палове XX стагоддзя на Беласточчыне. У 1926 годзе ў № 1 была апублікавана невялікая інфармацыя пра тое, як у тартаку Стачэк у Белавежскай пушчы страшэнна эксплуатуюць сялян. За 8 гадзін працы мужчыну плацілі 1 зл. 55 гр., жанчыне — 1 зл. 20 гр., машыністу — 2 зл. 50 гр. А ў бараках, дзе начавалі рабочыя, вельмі шмат было



блашчыц, блох і вошаў. З-за цяжкіх бытавых умоваў і нізкага заробку рабочыя вырашылі праз Грамаду дабівацца паляпшэння свайго быту і заробку.

1 кастрычніка 1926 года войт з пісарам вёскі Меляшкі Гарадоцкай гміны за падаткі паапісваў жыта ў снапах. А ў беднай і кульгавай удавы Мар’яны Супрановіч яны апісалі двое апошніх парасят, што яна ўзяла на адробак. «Наша справа» паведаміла, што сяляне хлеб маюць толькі да Калядаў, а тут і апошняе забралі. А пан Томчынскі з двара Малынка Заблудаўскай гміны, нібы для дабра сялян і парабкаў сваіх, прымушаў іх жыць у страшэнных варунках.

У вёсцы Завадах Харошчанскай гміны да Першай сусветнай вайны яе жыхар Васілеўскі вывучыўся на інжынера. Аб’ехаў свет, многа бачыў і чуў, шмат мог дапамагчы свайму народу, але ён, як піша газета, «купікі рубае па “маштабу”, нікому ніколі ніводнага разумнага слова не скажа». Марнаваўся чалавек за нішто.

У Міхалоўскай гміне 24 лістапада 1926 года войт пазабіраў у сялян квіткі, што плацілі падатак у 1924 і 1925 гадах. Забраў, маўляў, каб сяляне другі раз падатак не плацілі. Але прыехалі секвестатары — і ў сялянаў пачалі другі раз браць падатак, ды яшчэ з працэнтамі. Бо яны не мелі квіткоў, што плацілі раней.

Настаўнік Матусевіч з вёскі Яраўляны Сакольскага павета адабраў ад свае сястры 5 злотых, якія даваў раней. Адабраў таму, што даведаўся, што сястра хоча грошы перадаць сыну, які сядзіць у астрозе. «Ганьба такому брату-вырадку!» — пісала газета «Наша справа»...

Пра ўсё гэта ў 1926–1927 гадах маглі даведацца чытачы Беласточчыны і іншых рэгіёнаў Заходняй Беларусі з газеты Беларускай сялянска-работніцкай Грамады. Многія з іх і самі дасылалі туды розныя свае допісы пра людзей і пра тыя падзеі, якія тады адбываліся.

## Згадка пра Яўгена Хлябцэвіча



• *Анатоль Крывенка. Яўген Хлябцэвіч. Алей. 1994 г.*

Летам 1946 года ў Маскве, у доме № 6 па Срэценскім бульвары раздаўся званок. У гэтым доме тады жыў вучоны сакратар бібліятэчнага інстытута Яўген Хлябцэвіч. У госці да яго з Мінска прыехаў гісторык, кандыдат сельскагаспадарчых навук Фёдар Дамінікоўскі (1905–1949). Той Фёдар Дамінікоўскі, які працаваў у Цэнтры хімічнай лабараторыі Беларускага НДІ сельскай і лясной гаспадаркі, а са жніўня 1943 года быў загадчыкам кафедры геалогіі і глебазнаўства БДУ, вучоным сакратаром савета ўніверсітэта, які даследаваў гісторыю навукі і культуры Беларусі, з'яўляўся аўтарам больш як 200 артыкулаў біябібліяграфічнага слоўніка «Выдатныя дзеячы беларускай зямлі» (1945–1947 гадоў) (рукапіс захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. — *С. Ч.*).

Яўген Хлябцэвіч шчыра сустрэў земляка. І Фёдар Дамінікоўскі папрасіў гаспадара падзяліцца ўспамінамі аб сустрэчах з дзеячамі беларускай культуры. Свае ўспаміны Яўген Хлябцэвіч пачаў так: «Вы хочаце пачуць расказ пра маю маладосць, пра нашу маладосць. То тады, калі я сустракаўся з Коласам, з Купалам, з Цёткай, нам было па 25–30 гадоў. Усё гэта тут у гэтых дакументах, на здымках і пісьмах. Маё дзяцінства прайшло ў канцы мінулага стагоддзя (маецца на ўвазе



ў канцы XIX стагоддзя. — *С. Ч.*) у Жыровічах, што стаяць на беразе Шчары, недалёка ад Слоніма. І да нашых часоў захаваліся там помнікі беларускага дойлідства. У духоўным вучылішчы мой бацька Іван Андрэевіч выкладаў арыфметыку і геаграфію. Але галоўным яго клопатам і заняткам была слынная Жыровіцкая бібліятэка. Там зберагаліся рукапісныя беларускія кнігі з адмысловымі ілюстрацыямі і летапісы. Бацька склаў падрабязны каталог, упарадкаваў і ашчадна захоўваў гэтыя скарбы. Дзе ж яны зараз знаходзяцца? Ці ўцалелі? Я падлеткам часта прыходзіў у бібліятэку і бачыў усё гэта на свае вочы. Бацька вельмі цікавіўся гісторыяй Беларусі, апантана даследаваў жыровіцкія рукапісы. А яшчэ меў і літаратурны талент. У віленскіх часопісах друкаваў артыкулы і гістарычныя нарысы. Сям'я наша была вялікая, шэсць дзяцей. Лёс кожнага склаўся своеасабліва, але ўсіх паклікаў рэвалюцыйны час...»

Спачатку Яўген Хлябцэвіч распавёў Фёдару Дамінікоўскаму пра свайго меншага брата Уладзіміра Хлябцэвіча, які загінуў у лютым 1917 года ў Петраградзе ва ўзросце 22 гадоў, калі ратаваў параненых людзей. Пахавалі Уладзіміра ў Сызрані (Расія), дзе, як бежанцы, жылі яго бацькі. Дарэчы, пасля Жыровічаў сям'я Хлябцэвічаў пераехала ў Кленікі на Беласточчыну. Пра Кленікі перад бежанствам у час Першай сусветнай вайны Уладзімір Хлябцэвіч напісаў артыкул, які быў надрукаваны дзякуючы Віталю Скалабану і Дарафею Фіёніку ў 1995 годзе ў выданні «Białoruskie Zeszyty Historyczne» (№ 2). 25 верасня 1915 года, пасля таго як разам з маці і бацькам Уладзімір Хлябцэвіч падаўся з Кленікаў у бежанства, ён роднаму брату Яўгену пісаў: «Усе вёскі гарэлі пры непрысутнасці нашых людзей. Кнігі (10 скрыняў) закапаны ў вельмі надзейным месцы. Там тваё ўсё. Закапвалі я і Маліш. Твае рукапісы пра беларускіх пісьменнікаў і лісты іх тожа былі сха-

ваныя там, у скрынях. Я ведаю дзе...»* Гэтыя скрыні ў вёсцы Кленікі на Беласточчыне шмат гадоў шукала настаўніца беларускай мовы і літаратуры мясцовай школы Марыя Базылюк (Марыйка, як яе ласкава называлі вяскоўцы і беларускія літаратары ў Польшчы). У гэтых скрынях захоўваецца невядомы літаратурны скарб Хлябцэвічаў. І Марыя Базылюк яго шукала, а таксама сама даследавала творчасць Яўгена Хлябцэвіча. Яна нават напісала, калі была студэнткай, магістарскую дысертацыю на тэму «Жыццё і дзейнасць Яўгена Хлябцэвіча на фоне перыяду "Нашай нівы"», якая была апублікавана ў кнізе яе памяці «Марылька» (Беласток, 2011). Але так склаўся лёс, што гэтыя скрыні Марыі Базылюк знайсці не ўдалося. Яе зламала хвароба ў 1996 годзе ва ўзросце 38 гадоў.

Цікава, якія рукапісы Яўгена Хлябцэвіча ляжаць у тых скрынях? Пісьмы якіх пісьменнікаў захоўвае гэты скарб на Беласточчыне? Можа, там лісты ад Янкі Купалы, Цёткі, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Горкага? Ён шчыра з імі сябраваў, сустракаўся, перапісваўся. Цяпер цяжка сказаць, хто той скарб адшукае. І ці адшукаецца ён наогул. Усё ж прайшло з таго часу 100 гадоў.

Да сённяшніх дзён пад адну вокладку так і не сабрана і не выдадзена спадчына Яўгена Хлябцэвіча. А напісана ім было вельмі шмат. У Коўне ў 1912 годзе выйшла з друку яго першая кніга «Бібліятэка і кааперацыя», дзе аўтар разглядзеў пытанні тэорыі і арганізацыі бібліятэчнай справы. У Пецярбургу свет пабачылі ягоныя працы «Адраджэнне беларускай народніцкай літаратуры» (1914), «Народніцкая паэзія беларусаў» (1917), у якіх малады беларускі крытык прааналізаваў вытокі і характар беларускага мастацкага слова, даў высокую ацэнку творчым пошукам Янкі Купалы, Якуба Коласа

* Białoruskie Zeszyty Historyczne. Беласток, 1995. № 2 (4). С. 135.



і Максіма Багдановіча. А ў маскоўскіх выдавецтвах з'явіліся яго кнігі «Масавы чытач і антырэлігійная прапаганда» (1928), «Масавы чытач і праца з кнігаю» (1936).

Яшчэ ў Пецярбургу Яўген Хлябцэвіч пасябраваў з Янкам Купалам. Песняр часта наведваў не толькі беларускія вечарынкі, але бываў і на розных рэпетыцыях. Ён удзельнічаў у рабоце беларускага студэнцкага навуковага гуртка, слухаў даклады пра Беларусь, часам чытаў свае вершы. Аднойчы Янка Купала перадаў Яўгену Хлябцэвічу верш «Прарок», прысвечаны гэтаму студэнцкаму гуртку.

Вельмі часта наш зямляк і Янка Купала гулялі па ўзбярэжжы Нявы, бывалі адзін у аднаго ў гасцях. Іх апошняя сустрэча адбылася ў 1930 годзе ў Маскве ў Камуністычнай акадэміі, калі адзначаўся юбілей Купалы. Пасля трагічнай смерці народнага песняра Яўген Хлябцэвіч быў адзін з першых, хто прыйшоў на дапамогу Уладзіславе Францаўне Луцэвіч у справе стварэння Літаратурнага музея Янкі Купалы ў Мінску. Ды і пры жыцці Янкі Купалы Яўген Хлябцэвіч рашуча выступаў у абарону песняра ад шматлікіх несправядлівых абвінавачванняў беларускай вульгарна-сацыялагічнай крытыкі 1930-х гадоў.

Пасля вайны ў беларускім друку з'явіліся ўспаміны Яўгена Хлябцэвіча пра беларускага песняра. Найперш гэта артыкулы «Янка Купала ў Пецярбургу» («Беларусь». 1945. № 2), «Янка Купала на пецярбургскіх агульнаадукацыйных курсах А. С. Чарняева» («Беларусь». 1946. № 8), «Янка Купала і Пецярбургскі універсітэт» («Беларусь». 1947. № 9), «Пісьмо Янкі Купалы ў газету "Новая Русь" і ўдзел у ёй Л. М. Талстога» («Полымя». 1953. № 9) і іншыя.

У шчырых адносінах Яўген Хлябцэвіч быў і з Якубам Коласам. Пазнаёміўся ён з ім завочна тады, калі працаваў выкладчыкам бібліятэчнага тэхнікума ў Кі-

раве. Падчас Другой сусветнай вайны Яўген Хлябцэвіч выступаў з лекцыямі ў шпіталях сярод параненых. Воіны-беларусы прасілі пачытаць вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа на беларускай мове. Па дапамогу наш зямляк звярнуўся да Якуба Коласа. Народны паэт хутка адклікнуўся на просьбу Яўгена Хлябцэвіча. Яны сталі перапісвацца, і такое сяброўства працягвалася дзесяць гадоў.

Перапісваўся Яўген Хлябцэвіч і з Максімам Багдановічам. Як сцвярджаў даследчык творчасці Яўгена Хлябцэвіча Віталь Скалабан, «чатыры лісты Багдановіча да Хлябцэвіча захоўваліся напярэдадні вайны ў Акадэміі навук БССР. Мусіць, іх перадаў яшчэ ў 1920-я гады ў Інбелкульт сам адрасат Яўген Хлябцэвіч. Ці пакінуў ён копіі Багдановічавых лістоў у асабістым архіве? Адказаць на гэта пытанне пакуль цяжка...»* А можа, копіі гэтых пісем, а таксама іншыя пісьмы Багдановіча да Хлябцэвіча ляжаць на дне тых 10 скрыняў, што закапаныя на беластоцкай зямлі?..

Яўген Хлябцэвіч нарадзіўся 6 жніўня 1884 года ў вёсцы Жыровічы Слонімскага павета.

У 1897 годзе сям'я Хлябцэвічаў пераехала ў вёску Кленікі Бельскага павета, дзе Іван Хлябцэвіч стаў працаваць свяшчэннікам. Тут ён арганізаваў некалькі пачатковых школ, быў загадчыкам бясплатнай народнай бібліятэкі. А ягоны сын Яўген Хлябцэвіч у 1900 годзе скончыў Жыровіцкае духоўнае вучылішча, а пасля Віленскую праваслаўную духоўную семінарыю. Жывучы ў Вільні, Яўген Хлябцэвіч пазнаёміўся з беларускай інтэлігенцыяй, актыўна ўключыўся ў беларускі нацыянальна-вызвольны рух. Падтрымліваў цесныя сувязі наш зямляк і з рэдакцыямі беларускіх газет «Наша доля» і «Наша ніва», дасылаў свае розныя допісы, многія з іх падпісваў псеўданімам Халімон з-

* Літаратура і мастацтва. 1984. 24 жніўня.



пад пушчы. Найперш гэта была інфармацыя на тэмы культуры і адукацыі. Вось што пісаў Халімон з-пад пушчы ў «Нашай ніве» 1 лютага 1908 года: «У вёсцы Кленікі Бельскага павета 12 студзеня быў тут сельскі сход аб бібліятэцы-чытальні імя Паўленкава. Сход шоў так, што стыд і сорам за яго ўсім мужыкам тутэйшым! I хто мог бы паверыць, што грамада сталых людзей паслухае аднаго п'янага мужыка? А гэта і зрабілася на сходзі, дзе слухалі аднаго п'янага мужыка, што даводзіў: "На што нам бібліятэка? Усе роўна кнігі не мае. Лепш куплю за 5 злотых псалтыр, дык будзе ў мяне назаўсягды!" Бібліятэка-чытальня ледзьве толькі пачала шырыць вакруг свой ясны сьвет, сеяці зерне дабра, праўды і навукі. I вось ужо людзі пачынаюць таптаць гэтую вялікую работу. Выходзіць, што гутарка п'янюгі нашым мужыкам з Клебаноў і Загадзя даражэй за дзетак, каторыя бяруць з бібліятэкі кніжкі. Зразумейце, людцы, што бібліятэка будзе для вас карысна, калі яе будзеце падтрымліваць. Цяпер усяго 500 кніжак, а трэба да іх парабіць акладкі, каб не растрэсліся і не парваліся. Вось жа і сам нябожчык Паўленкаў пакінуў пасля смерці ўсё дабро і кніжкі свае, каб даваць помач народным бібліятэкам, але з тым варункам, каб і самы мужыкі давалі крыху грошай на ўтрыманне бібліятэк. Паўленкаў дае кніг больш як на 100 рублёў, калі дадуць на бібліятэку 50 рублёў самы мужыкі».

У 1906 годзе Яўген Хлябцэвіч стаў студэнтам Юр'еўскага ўніверсітэта, а праз год перавёўся ў Пецярбургскі ўніверсітэт. Тут ён рэдагаваў «Кніжны і бібліятэчны лісток» пецярбургскай газеты «Новая Русь», дзе дапамог на яе старонках друкавацца Янку Купалу.

Будучы студэнтам, Яўген Хлябцэвіч выступаў на Першым Усерасійскім з'ездзе па бібліятэчнай справе з дакладам «Развіццё бібліятэчнай справы на Беларусі». А калі закончыў універсітэт, працаваў інструктарам Беларускага пададдзела аддзела асветы нацыянальных

меншасцей Народнага камісарыята асветы РСФСР у Кіеве.

У 1919 годзе атрымаў новую пасаду — узначаліў бібліятэчнае аддзяленне Палітычнага ўпраўлення Рэўваенсавета РСФСР, а пасля перайшоў у Народны камісарыят асветы.

З 1943 года Яўген Хлябцэвіч працаваў у Маскоўскім бібліятэчным інстытуце, шмат пісаў, абараніў кандыдацкую дысертацыю. У Маскве і пражыў ён свае апошнія гады: яго не стала ў кастрычніку 1953 года. Час прыспешвае выдаць асобнымі кнігамі працы Яўгена Хлябцэвіча па бібліятэказнаўстве, а таксама пакінутыя ім успаміны пра беларускіх пісьменнікаў і палітыкаў, якіх ён ведаў і з якімі сябраваў. І яшчэ. Адна з бібліятэк на Слонімшчыне і Бельшчыне (Беласточчына) павінна насіць імя нашага слыннага беларуса.

## Янка Купала ў Беластоку

Упершыню народны паэт Беларусі Янка Купала наведаў Беласток у кастрычніку–лістападзе 1939 года.

8 кастрычніка 1939 года разам з групай беларускіх пісьменнікаў — Якубам Коласам, Змітраком Бядулем, Міхасём Клімковічам, Янкам Маўрам, Макарам Паслядовічам і іншымі літаратарамі — Янка Купала выехаў з Мінска ў Беласток. Пісьменнікі па дарозе наведалі Стоўбцы і Ваўкавыск. Магчыма, літаратары ехалі на сваіх машынах — Якуб Колас на сваёй, а Янка Купала на ўласным «Шаўрале». З сабой яны везлі і некаторых пісьменнікаў.

Першая літаратурная сустрэча ў Беластоку адбылася ў тэатры «Апалон». На сустрэчы выступілі Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Міхась Клімковіч, а таксама Янка Купала, які прачытаў некалькі вершаў з цыкла «На заходнебеларускія матывы». Пра гэту сустрэчу ў Беларусі пісалі газеты «Звязда», «Савецкая Беларусь»



і «ЛіМ». Тады Янка Купала з радасцю чытаў свае натхнёныя радкі:

Накарміліся панскаю ласкай,
Горкіх слёз напіліся дасыта.
Што здавалася ўчора йшчэ казкай,
Прыйшло сёння у сонцы спавітым.
Расплываліся ў небе туманы,
Разганяў вецер ссохшае лісце.
Салавейка спяваў над курганам,
Неяк быццам спяваў галасісцей.
Ішлі гоманы нівай наспелай,
Гарады адклікаючы й вёскі.
Белавежская пушча шумела,
І шумеў цёмны лес Аўгустоўскі...

Другая сустрэча з жыхарамі Беластока адбылася на сходзе настаўнікаў. Народны паэт цікавіўся жыццём працоўных і інтэлігенцыі Заходняй Беларусі, сам адказваў на розныя пытанні беларускіх настаўнікаў Беласточчыны. А 28–30 кастрычніка Янка Купала, як дэлегат, удзельнічаў у рабоце Народнага сходу Заходняй Беларусі, які прыняў Дэкларацыю аб уключэнні Заходняй Беларусі ў склад БССР. Калі Янка Купала ў зале пасяджэнняў Народнага сходу Заходняй Беларусі з'явіўся перад дэлегатамі, як бацька перад сынамі, прыгадваў Валянцін Таўлай, то доўгі, працяглы гул стаяў у зале. Сапраўды, у 1920–1930-х гадах у кожнай заходнебеларускай вёсцы, горадзе, у кожным гуртку ТБШ, бібліятэцы-чытальні і ў звычайнай сялянскай хаце можна было ўбачыць партрэты Янкі Купалы. Асабліва быў папулярным партрэт Янкі Купалы, выдадзены літаграфаваным спосабам у Вільні ў 1927 годзе, — настолькі, што Максім Танк увёў яго, як пераканаўчую мастацкую дэталь, у верш «Шэрыя хаты, платы і вароты» і ўключыў у зборнік «Журавінавы цвет» (1937). Гэты верш — аб прыгнечанай долі селяніна, пазіраючы на якую, «у рамках сумуе Купала».

Імя Янкі Купалы можна было сустрэць і ў прыватных гутарках, на вечарынках, у палітычных артыкулах і карэспандэнцыях з вёсак. Друк нацыянальна-вызваленчага руху стракацеў радкамі і строфамі Янкі Купалы, асабліва ў допісах з месцаў. Імя Янкі Купалы, як пісаў Валянцін Таўлай у артыкуле «Творчасць Янкі Купалы ў барацьбе за ўз'яднанне беларускага народа», а таксама радкі і асобныя строфы паэта часта з'яўляліся на сценах астрогаў, куды траплялі беларускія хлопцы, якія, кажучы словамі Максіма Танка, «аб'язджалі без білетаў далёкія старонкі». Творы Янкі Купалы, якія ў памяці прыносіліся за краты асуджанымі беларусамі, былі для ўсіх палітзняволеных вялікай маральнай падтрымкай.

І раптам беларусы Заходняй Беларусі ў Беластоку ўбачылі жывога песняра, творы якога дапамагалі ім жыць, змагацца, працаваць. Таму так шчыра, доўга і цёпла віталі яны роднага Купалу.

Перад удзельнікамі сходу Янка Купала прачытаў свой верш «Настаў чарод» з цыкла «На заходнебеларускія матывы». Вось некалькі строф з гэтага верша:

Цябе, мой брат,
Губіў пан-кат,
Скарынцы хлеба ты быў рад,
У світцы з лат
Не ведаў свят
І не мінаў астрожных крат.
Плыве гул-сказ:
— Настаў твой час,
Час кінуць жудкі свой папас!
Быць сярод нас
Між ясных крас
Мы клікалі цябе не раз...

У Беластоку народны паэт Беларусі пазнаёміўся з Максімам Танкам, Міхасём Машарам, Піліпам Пестраком. У блакнот Міхася Машары Янка Купала напісаў



такія радкі: «Дзень добры, таварыш Машара, на вызваленых землях Заходняй Беларусі! Жывіце радасна і шчасліва, як мы, старэйшыя, жывём. Я. Купала. Беласток. 29/X-39 г.».*

Алег Лойка ў рамане-эсэ пра Янку Купалу, згадваючы Народны сход Заходняй Беларусі, пісаў: «Яны, Купала і Колас, на сходзе былі скрозь і ўсюды поруч. Што гаварыў, пісаў аб сходзе Колас, тое было і ў сэрцы Купалы, тое захапляла, уражвала, хвалявала і Купалу. І абодва яны разумелі, адчувалі, што яны — пры вялікай эпічнай тэме народнай героікі, народнай барацьбы і пакуты, мары і надзеі, веры і ўпэўненасці. Іх позіркі ў твары дасюль незнаёмых ім людзей былі пільнымі і любоўнымі. Іх вочы прагна ўбіралі ў сябе, як ужо дапатопнае дзіва, краявіды з незаворанымі межамі, вузкімі палоскамі, з падслепаватымі пад шэрай саломай хатамі і падпертымі каламі гуменцамі і хлеўчукамі... Купала, пэўна, больш Коласа ўсё браў на слых. Ён усё прасіў, каб яму расказвалі пра канцлагер у Бярозе-Картузскай, пра Грамаду, пра страйкі-забастоўкі лесарубаў, пра здзек дэфензівы і асаднікаў, пра расстрэлы дэманстрантаў у Косаве, пакаранні правакатараў у Вільні, Слоніме, Беластоку. Купала адчуваў сябе ў даўгу перад гэтым народам, што сабраўся на свой гістарычны сход... Купала, як толькі першы раз пераехаў былую граніцу, адразу ж зразумеў, што ён не ведаў гэтага жыцця свайго народа — яго складу, яго духу. Праблемы сацыяльнага, нацыянальнага вызвалення тут былі тыпалагічна тыя ж, што ў дарэвалюцыйнай Беларусі, але формы выяўлення падобных жа сацыяльна-палітычных працэсаў былі ўжо іншыя. Спазнаць іх — да апошняй драбніцы! Спазнаць, бо без ведання іх які можна эпас напісаць — эпас вось гэтага народнага жыцця, якое

* Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы. Ф. 1. Воп. 2. Адз. зах. 20.

толькі рэхам радыёхваль адбівалася ў яго мінскай хаце пад таполяй? Купала, Колас ведалі: і жыццё заходніх беларусаў павінна легчы старонкамі мастацкага летапісу беларусаў. Яны паміж сабой аб гэтым не гаварылі, ды кожны з іх аб гэтым напружана думаў, кожны сам па сабе таксама будучы героем легендарных зорных дзён зменлівай гісторыі свайго народа...»*

Пасля вяртання ў Мінск Якуб Колас пісаў рускаму літаратару Сяргею Гарадзецкаму: «Потрясающее, глубоко волнующее впечатление произвело это собрание. Мне никогда еще не случалось видеть такой съезд, такой народный сход, где бы с такой силой изливалась душа народа, его горькая обида, нанесённая подлыми, глупыми, спесивыми угнетателями... Меня также глубоко взволновало и то обстоятельство, что белорусский народ не забыл и своих певцов, меня и Купалу, и выразил нам громко свою признательность»**.

Другі раз Янка Купала наведаў Беласток у кастрычніку 1940 года. Яшчэ ў верасні гэтага года газета «Літаратура і мастацтва» паведамляла, што члены праўлення ССП БССР і група пісьменнікаў — Я. Купала, Я. Колас, М. Лынькоў, П. Броўка, К. Крапіва, П. Глебка, З. Аксельрод, М. Танк, П. Пестрак, Г. Камянецкі, М. Модэль, А. Кучар — на днях выязджаюць у Беласток, дзе будзе працягнута работа праўлення ССП БССР па прыёму лепшых пісьменнікаў заходніх абласцей, якія творча выявілі сябе, у Саюз савецкіх пісьменнікаў БССР. Некаторыя пісьменнікі ў Беласток выехалі на цягніку, а Купала з Коласам паехалі на машыне Коласа. Разам яны прынялі ўдзел і ў пасяджэнні выязной сесіі Акадэміі навук БССР у Беластоку, дзе абмяркоўваліся пытанні і праблемы развіцця культуры і эканомікі заходніх абласцей Беларусі. Пасля сесіі беларускія песняры сустрэліся са студэнтамі і выкладчыкамі Беластоцкага педінстытута. У сваім хатнім архіве знайшоў згадку пра сустрэчу Коласа і Купалы ў Беластоцкім педінстытуце. Гэтую згадку некалі мне даслаў краязнавец і музейшчык з Дзятлава Міхась Петрыкевіч (1913–1999), тады студэнт гэтага інстытута. У пісьме Міхась Фёдаравіч прыгадваў наступнае: «Гэта было 14 кастрычніка 1940 года ў горадзе Беластоку. Я тады вучыўся ў Беластоцкім педінстытуце на літаратурным факультэце. Вялікай падзеяй у жыцці інстытута і маім асабістым жыцці была нечаканая першая сустрэча з народнымі паэтамі Беларусі Янкам Купалам і Якубам Коласам. У Беластоку тады праходзіла выязная сесія АН БССР. На сесіі прысутнічалі і народныя песняры. Калі мы пра гэта даведаліся, то аднадушна вырашылі арганізаваць у інстытуце сустрэчу з паэтамі. Дырэкцыя інстытута падтрымала нашу ініцыятыву. На хуткую руку мы падрыхтавалі невялікі канцэрт, выпусцілі спецыяльны нумар насценнай газеты.

* Алег Лойка. Выбраныя творы: у 2-х т. Мінск, 1992. Т. 1. С. 406–407.
** Якуб Колас. Збор твораў: у 14-ці т. Мінск, 1978. Т. 13. С. 191.



14 кастрычніка пад вечар дэлегацыя студэнтаў, сярод якіх быў і я, адправілася ў памяшканне, дзе праходзіла сесія. Калі літаратарам перадалі нашу просьбу, то яны адразу пагадзіліся з намі сустрэцца. Мы крыху пачакалі. І раптам з прэзідыума выйшлі народныя паэты, ветліва прывіталіся, і мы накіраваліся ў педінстытут. Нашаму шчасцю не было канца. Трэба было ісці не менш кіламетра, і ўвесь гэты час мы маглі свабодна гутарыць з любімымі паэтамі. Вечар быў цёплы і ціхі. Ападала лісце з ліп і каштанаў. Вясёлая грамада абступіла паэтаў, мы ішлі гурбою. Янка Купала ўвесь час жартаваў, а мы смяяліся.

Я ішоў побач з Якубам Коласам. Ён цікавіўся нашым мінулым, пытаўся, адкуль мы родам. Калі даведаўся, што я з Навагрadчыны, то сказаў: “Добра ведаю Наваградчыну. Слаўныя там людзі, прыгожая прырода.

У мяне было многа блізкіх таварышаў з Наваградчыны”.

Актавая зала была ўжо поўнай, калі мы прыйшлі. Паэтаў сустракалі дружнымі і доўгімі апладысментамі. Песняры раскланяліся, распрануліся і селі за стол прэзідыума. Кароткую прамову сказаў супрацоўнік АН БССР Барысенка В. В., які суправаджаў паэтаў. Потым выступілі з чытаннем сваіх вершаў Янка Купала і Якуб Колас. Што яны чыталі — я ўжо не памятаю. Мы як зачараваныя слухалі іх, запаміналі міміку, жэсты. Асабліва запомнілася, што голас Якуба Коласа быў гучны і звонкі.

Паэты падзякавалі за цёплы прыём, пажадалі нам поспехаў у вучобе, напомнілі пра вялікую адказнасць настаўнікаў перад народам, пра тое, што заходнія вобласці чакаюць нас, каб ліквідаваць адсталасць народа, павысіць яго культуру.

У перапынку мы папрасілі падпісаць нам кнігі. Паэты разгубіліся, бо ў іх не было з сабой кніг. Калі ж яны даведаліся, што мы самі купілі іх кнігі, — ахвотна падпісалі на памяць аб сустрэчы некалькі дзясяткаў сваіх кніг. Янка Купала падпісаў мне свой зборнічак “Над ракой Арэсай”, а Якуб Колас — зборнік выбраных твораў.

Калі пачалася вайна, я вырваў тытульныя лісты з аўтографамі і насіў іх з сабой. Але на фронце, дзе я быў, яны згубіліся. Янку Купалу я больш ніколі ў жыцці не бачыў, а Якуба Коласа сустракаў некалькі разоў пасля вайны. Аднак першая сустрэча ў Беластоку была самая яркая, самая хвалюючая і запомнілася мне назаўсёды».

У той вечар Янка Купала чытаў студэнтам свае вершы «Калыханка», «З новай думкай», «Наша моладзь», «Час быў такі». І студэнты з радасцю слухалі Купалавы радкі:



З новай думкай, з новай песняй
Выйдзеш ты на нівы,
Беларусе, напрадвесні,
Браце мой цярплівы.
Засяваці будзеш зернем,
Як бурштын, адборным,
І ніхто цябе не зверне
Са шляхоў прасторных...

На другі дзень, 15 кастрычніка, Янка Купала назаўсёды пакінуў беларускі Беласток, і больш ніколі яму туды завітаць не прыйшлося.

## Артымовічы

Хачу расказаць пра знакамітых беларусаў з Беласточчыны Віктара, Адама і Антона Артымовічаў, якія ў XIX стагоддзі ўнеслі вялікі ўклад у эканамічнае развіццё Расійскай імперыі. На жаль, што не сваёй уласнай Бацькаўшчыны, а менавіта Расійскай імперыі. І гэта не іх віна, а бяда. Бо, як мы ведаем з гісторыі, беларускае гаспадарства было зліквідавана ў канцы XVIII стагоддзя. Да гэтага спрычыніліся нашы як заходнія, гэтак і ўсходнія суседзі.



• *Віктар Артымовіч*

Увесну 1791 года ў часе Вальнага Сойму польскія магнаты і апалячананая беларуская шляхта, імкнучыся ўмацаваць Польшчу, над якой навісла пагроза з боку Аўстрыі, Прусіі і Расіі, заявілі пра неабходнасць увядзення спадчыннай манархіі і зліквідавання адметных дзяржаўных структураў Вялікага Княства. Так здзейснілася шматвяковая мара нашых заходніх

суседзяў. Беларускае гаспадарства з гэтага моманту дэ юрэ ўвайшло ў склад Польшчы. Праўда, ненадоўга. У траўні 1792 года расійская армія пад камандаваннем Крачэтнікава захапіла Вільню і ўсталявала кантроль над нашымі землямі. А ў 1793 годзе Расійская імперыя анексавала цэнтральную частку Беларусі (усходнія землі былі захопленыя яшчэ раней — у 1772 годзе).

У 1795 годзе, калі Расія дарэшты захапіла Беларусь, распараджэннем Кацярыны II нашыя землі ўвайшлі ў тры створаныя тады адміністрацыйныя адзінкі — генерал-губернатарствы: Беларускае (Полацкая і Магілёўская губерні), Літоўскае (Слонімская і Віленская губерні ды дзве вобласці — Ковенская і Гарадзенская) і Падольскае (Менская, Валынская і Падольская губерні).

Такім чынам, аніякага «ўз'яднання» Беларусі з Расіяй, як гэта доўга тэндэнцыйна сцвярджалася ў савецкай гістарычнай літаратуры, ніколі не было. Меў месца гвалтоўны захоп, у выніку якога тэрыторыя Беларусі разам з беларускім народам была далучана да Расіі і наш пакутны народ на дзвесце гадоў трапіў у маскоўскую нядолю.

Такі лёс быў і вельмі адукаваных, разумных і таленавітых беларусаў Віктара, Адама і Антона Артымовічаў. У Расійскай імперыі ў іх нават нацыянальнасць пісалася не беларуская, а польская альбо расійская.

Віктар Антонавіч Артымовіч нарадзіўся ў Беластоку ў 1820 годзе. Пра яго маленства і школьныя гады захавалася мала звестак. Але вядома тое, што бацька Віктара Антон Фёдаравіч Артымовіч (прафесар матэматыкі і астраноміі Віленскага ўніверсітэта) за вельмі кароткі час зрабіў добрую чыноўніцкую кар'еру, атрымаў 2000 дзесяцін зямлі і фальварак. Ён быў на той час даволі багатым чалавекам. Таму меў грошы, каб даць сыну добрую адукацыю. І сын хутка кончыў Імператарскае вучылішча правазнаўства ў Пецярбургу.



А гэта вучылішча на той час рыхтавала дзяржаўных служачых, чыноўнікаў высокага рангу.

З 1842 да 1853 года Віктар Артымовіч служыў у Сенаце — адным з вышэйшых дзяржаўных органаў Расійскай імперыі, галоўнай функцыяй якога ў той час было «блюсти законы», змагацца са злоўжываннем як у цэнтры, так і ў губернях. З гэтай мэтай Сенат адпраўляў туды сенацкія рэвізіі, у якіх малады Артымовіч рэгулярна прымаў удзел, вывучаючы дасканала дзейнасць чыноўнікаў. Ужо тады Віктар Артымовіч займеў рэпутацыю вельмі прынцыповага і сумленнага рэвізора, які наводзіў страх на ўсіх хабарнікаў і казнакрадаў. У Сенаце ён даслужыўся да кіраўніка справамі.

У 1854 годзе Віктар Артымовіч быў прызначаны табольскім губернатарам. За пяць гадоў службы ў Табольску ён не толькі зарэкамендаваў сябе надзвычай дзейным кіраўніком губерні, але і актыўна вёў барацьбу з хабарніцтвам, навёў парадак у службовых месцах, палепшыў становішча ссыльных. Дарэчы, пасля паўстання 1831 года, а таксама пасля таго, як у 1846 годзе 1100 сем'яў аднадворцаў па загаду міністра ўнутраных спраў Расіі гвалтам былі перасцелены з Беларусі на Каўказ і ў многія губерні Расіі, і пасля паўстання 1863 года ссыльных-землякоў Віктара Артымовіча было ў Табольскай губерні шмат. Губернатар іх не крыўдзіў. Знаходзіў жыллё, працу, дапамагаў. Гэтым учынкам хутка зацікавіліся прадстаўнікі расійскага ўрада, і нашага земляка перавялі губернатарам у Калужскую губерню. Але і там ён дапамагаў ссыльным з заходніх рэгіёнаў тагачаснай Расійскай імперыі. За працай і ўчынкамі Віктара Артымовіча вельмі сачылі. А калі ссыльных пасля 1863 года стала ў губернях Расіі павялічвацца, Віктара Артымовіча перавялі на працу ў Варшаву. Тым не менш там ён доўга не затрымаўся, бо па ўласнай заяве яго зноў перавялі ў Сенат, дзе Віктар Антонавіч

пачынаў, там ён адпрацаваў усе астатнія гады свайго жыцця.

Нашага земляка ўсе вельмі паважалі. Ён меў роўны, спакойны характар і дужа паважліва адносіўся да сваіх падначаленых. Нездарма, прызначаючы 34-гадовага Артымовіча губернатарам Табольска, цар Мікалай I, які ўсім «тыцкаў», звяртаўся да яго выключна толькі на «вы».

У 1854 годзе, незадоўга да свайго прызначэння ў Табольскую губерню, Віктар Артымовіч ажаніўся з Ганнай Жамчужнікавай. З дружнай і таленавітай сям'ёй Артымовіч пасябраваў адразу, калі прыехаў з Беластока ў Пецярбург. З братам жонкі Аляксеем ён вучыўся ў адным класе вучылішча правазнаўства. Вельмі любіў бываць у доме Жамчужнікавых. Два браты Жамчужнікавых былі паэты, адзін — мастак, іх кузен — рускі пісьменнік Аляксей Талстой. А бацька Ганны Жамчужнікавай быў сенатарам. Шлюб Віктара Артымовіча і Ганны Жамчужнікавай быў вельмі шчаслівым. Ганна перажыла мужа, але апошнія гады свайго жыцця яна збірала матэрыялы пра яго жыццё і дзейнасць. Віктара Антонавіча Артымовіча не стала ў 1893 годзе.

Выпіска з метрык, пасведчанне аб заканчэнні вучылішча правазнаўства, дыплом на званне правадзейнага члена Рускага геаграфічнага таварыства, біяграфія, некралог, розныя загады, пісьмы, перапіска, радаслоўная Артымовічаў, матэрыялы сям'і Жамчужнікавых і шмат іншых матэрыялаў захоўваюцца сёння ў Інстытуце рускай літаратуры Расійскай акадэміі навук (Ф. 11. Адз. зах. 82).

Родны брат Віктара Артымовіча Адам Артымовіч быў маладзейшы за брата на 8 гадоў. Ён нарадзіўся ў Беластоку ў 1828 годзе. Скончыў Беластоцкую гімназію, а ў 1849 годзе — Пецярбургскае Імператарскае вучылішча правазнаўства. Дзякуючы вучобе ў гэтым вучылішчы Адам Антонавіч атрымаў даволі высокі чын тытульнага



дарадчыка і пачаў службу летам 1849 года ў Першым дэпартаменце Урадавага Сената Расіі.

З 1857 года Адам Артымовіч пачаў працаваць чыноўнікам пры арэнбургскім і самарскім генерал-губернатары. Потым загадваў канцылярыяй губернатарства. На гэтай пасадзе ён зарэкамендаваў сябе вельмі добра пры падрыхтоўцы вызвалення сялян ад прыгоннага права. Прымаў таксама удзел у рэвізіях Заходняй Сібіры. А пасля гэтага Адам Артымовіч стаў працаваць чыноўнікам па важных даручэннях пры арэнбургскім і самарскім генерал-губернатары.

1 студзеня 1861 года наш зямляк быў прызначаны кіраўніком Самарскай губерні Расіі. Як губернатар ён удзельнічаў у рабоце па вызваленні сялян Самарскай губерні ад прыгоннага права па Маніфесце 19 лютага 1861 года. Гэту работу ён выканаў з гонарам, не парушаючы інтарэсаў ні сялян, ні памешчыкаў.

Пры Адаме Артымовічу пачалося фарміраванне ў заволжскіх стэпах Самарскай губерні раёна таварнага земляробства, якое дазволіла забяспечыць рост самой Самары — з 1861 да 1897 гадоў колькасць самарскіх жыхароў павялічылася на 226 %, сярод якіх было шмат беларусаў з Паўночна-Заходняга краю. Дзякуючы Адаму Антонавічу ў Самары былі адкрыты тэлеграфная кантора і гарадскі агульны банк.

У 1861 годзе па загадзе Адама Артымовіча там быў пабудаваны новы кафедральны праваслаўны сабор імя Прасвятой Багародзіцы. Губернатар шчыра заахвочваў будаўніцтва ў горадзе праваслаўных храмаў і камяніц...

17 красавіка 1862 года Адама Артымовіча перавялі на пасаду апекуна Адэскай вучэбнай акругі. Прычынай такога паніжэння ў пасадзе стала тое, што наш зямляк выступаў за аддзяленне Самарскай губерні ад генерал-губернатарства. А таксама тое, што ён разам з братам Віктарам (калужскім губернатарам) падтрымліваў цесныя сувязі з рэвалюцыйнымі польскімі гурткамі. Адам

і Віктар Артымовічы дапамагалі фінансамі будучым паўстанцам на Беларусі пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага...

2 траўня 1962 года Адам Антонавіч наладзіў развітальны абед і разам з жонкай паехаў на новае месца службы ў Адэсу. Пры пераводзе на новае месца працы яго нават узнагародзілі ордэнам Святога Уладзіміра 3-й ступені, а праз тры гады — ордэнам Святога Станіслава 1-й ступені.

У Адэсе наш зямляк працаваў амаль да смерці. Яго не стала 15 студзеня 1893 года.

Антон Артымовіч (1832–1910) быў самым малодшым братам Артымовічаў. Але пра яго звестак пакуль сабраць удалося мала. Ды і не такім вядомым ён быў у Расіі, як Віктар і Адам. Антон нарадзіўся ў Беластоку ў 1832 годзе. Быў правадзейным тайным работнікам, потым сенатарам. Яго жонкай стала Вольга Рымская-Корсакава, чые продкі былі беларусамі і паходзілі з Літвы. У іх нарадзілася шасцёра дзяцей. Сярод якіх — Марыя была «класснай дамой» у ніжагародскім Марыінскім інстытуце шляхетных дзяўчат. Сын Уладзімір служыў у Міністэрстве замежных спраў Расіі. А з 1910 года быў дырэктарам Дэпартамента асабістага складу і гаспадарчых спраў. Яго жонкай была амерыканка Марыяна Гобс...

Каб расказаць пра ўсіх Артымовічаў — беларусаў з Беласточчыны, пра іх дзяцей, унукаў, праўнукаў і прапраўнукаў, неабходна напісаць некалькі тамоў кніг. Тым не менш яны ведаюць і павінны ведаць, хто быў іх далёкі продак з Беластока праваслаўны беларус (ліцвін) Антон Фёдаравіч Артымовіч, яго сыны Віктар, Адам і Антон Артымовічы. Лёс раскінуў беларусаў Артымовічаў па ўсім свеце. Яны сёння жывуць не толькі ў Расіі, але і ў Польшчы, Беларусі, ЗША, Іране, Францыі, Англіі і ў іншых краінах свету. Магчыма, з гэтага роду і слынная наша беларуская паэтка з Беласточчыны



Надзея Артымовіч, якая неяк напісала: «І нават тады, калі пацямнее дарога, а вецер і дождж вырасце сцяной, мы будзем ісці да чыстай вады, да ніў залатых і да нашага блакітнага неба».

## Бежанец Першай сусветнай вайны Уладыслаў Чаржынскі

Пра выдатнага беларускага літаратуразнаўца, крытыка, перакладчыка і педагога з вёскі Стара-Каменная Сакольскага павета Уладыслава Чаржынскага (1897–1974) шмат гадоў шукаю звесткі. Пра яго ўжо апублікаваў некалькі артыкулаў у беластоцкім тыднёвіку «Ніва» (№ 20 ад 14 траўня 2006 года і № 47 ад 19 лістапада 2007 года), а таксама ў сваіх кнігах «З беластоцкай зямлі» (Беласток, 2008), «Беларуская Беласточчына» (Мінск, 2008) і ў іншых выданнях.



• *Малады Уладыслаў Чаржынскі. Здымак з архіўных дакументаў. Друкуецца ўпершыню.*

У апошні час зноў адшукалася шэраг новых звестак пра гэтага таленавітага літаратара, які быў арыштаваны ДПУ БССР 26 чэрвеня 1930 года па справе «Саюза вызвалення Беларусі» і па пастанове Калегіі АДПУ СССР ад 10 красавіка 1931 года высланы ў горад Казань тэрмінам на пяць гадоў, дзе і пражыў да канца сваіх дзён.

Вядома яшчэ, што Уладыслаў Чаржынскі вучыўся ў Гродзенскай гімназіі, уваходзіў у Гродзенскі гурток беларускай моладзі. Але вясной 1914 года сябры гуртка

хуценька раз’ехаліся па хатах, каб болей у Гародню не вяртацца. Пра гэта прыгадвала Зоська Верас у сваіх успамінах «Гродзенскі гурток беларускай моладзі»*. Параз’ехаліся па хатах сябры гуртка таму, што пачыналася Першая сусветная вайна. Вярнуўся ў родную вёску і Уладыслаў Чаржынскі, яму тады было 17 гадоў. Далей па ўсіх дакументах тры гады з жыцця сакольскага юнака кудысьці губляюцца. І толькі ў 1917 годзе Уладыслаў Чаржынскі разам з Генрыкам Матукам з Петраграда прыязджаюць у Менск. Магчыма, Генрык Матук быў земляком Чаржынскага. Яны сябравалі. Генрык Матук (?–1924) быў вельмі актыўным беларускім грамадскім дзеячам у Гародні. Напярэдадні Першай сусветнай вайны ён паехаў у Петраград і стаў студэнтам. З ім перапісваўся Уладыслаў Чаржынскі. Матук запрашаў Чаржынскага ў Петраград, але яму не пашанцавала туды выехаць, бо хутка ўсю сям’ю Чаржынскіх адправілі ў бежанства. Чаму пра бежанства ён нідзе не прыгадваў — цяжка сказаць.

У 1915 годзе сям’я Чаржынскіх апынулася ў мястэчку Крычаў Магілёўскай губерні. Там на пэўны час яна спыніліся. З Крычава Уладыслаў Чаржынскі дабіраецца да Петраграда. Ён ужо, відаць, ведаў з лістоў Генрыка Матука, што ў студзені 1916 года ў Петраградзе стварылася Беларускае таварыства па аказанні дапамогі пацярпелым ад вайны. Заснавальнікамі гэтага таварыства былі Браніслаў Эпімах-Шыпіла, Часлаў Родзевіч, Аляксандр Ярэміч, Уладзімір Міткевіч. Таварыства аказвала дапамогу грашыма і рэчамі, адкрыла інтэрнаты для беларускіх студэнтаў і вучняў, дзіцячы прытулак, кравецкую майстэрню, выдавала лістоўкі з заклікам ахвяраваць грошы для бежанцаў, у тым ліку «пагалелым ад вайны беларусам памажыце!», наладжвала беларускія вечары. А яшчэ

* Зоська Верас. Я помню ўсё. Гародня; Wrocław, 2013. С. 23



Таварыства падтрымлівала сувязі з Мінскім аддзелам Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны, Беларускім нацыянальным камітэтам у Мінску, імкнулася пашырыць уплыў на ўсю тэрыторыю, дзе знаходзіліся бежанцы.

Як апынуўся ў траўні 1916 года ў Петраградзе Уладыслаў Чаржынскі — застаецца загадкай. Альбо яго заклікаў і абяцаў яму там дапамагчы сябра-зямляк Генрык Матук, альбо праз Мінскі аддзел Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны.

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (Ф. 672. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 243) захоўваецца анкета Уладыслава Чаржынскага № 1357 на рускай мове, якую ён запоўніў у 1916 годзе для Беларускага таварыства па аказанні дапамогі пацярпелым ад вайны.

Давайце пачытаем:

«Черժинский Владислав Викентьевич, 19 лет, из крестьян, д. Старо-Каменная, Красностокская волость, Сокольский уезд, римско-котолического вероисповедания, белорус...» І гэтак далей. Працытую ўжо ў перакладзе на беларускую мову: «Род заняткаў: выхавальнік рымска-каталіцкай духоўнай семінарыі. Харчаваўся і жыў на кватэры семінарыі, дапамогу прасіў на падручнікі. А прыехаў у Петраград з мястэчка Крычаў Магілёўскай губерні 15 траўня 1915 года. У Петраградзе жыў на вуліцы Першай роты, 11». Адсюль вынікае, што Уладыслаў Чаржынскі ў траўні 1915 года быў залічаны студэнтам у рымска-каталіцкую духоўную семінарыю. Але чаму пра гэта ён ніколі не згадваў у сваёй біяграфіі, якую я публікаваў раней у сваёй кнізе «З беластоцкай зямлі»: «Пачатковую адукацыю я атрымаў у пачатковым народным вучылішчы, пасля заканчэння якога паступіў у Гродзенскую казённую гімназію, дзе і вучыўся да 1914 года. Матэрыяльную дапамогу атрымліваў ад старэйшага брата, які знаходзіўся на заробках у Амерыцы. У 1915 годзе

мая радзіма была акупаваная нямецкімі войскамі. Я паехаў у Ленінград, дзе працягваў сваю адукацыю. У 1917 годзе я пераехаў у Менск...»*. Не згадвае пра месца вучобы ў Петраградзе Уладыслаў Чаржынскі і ў заяве ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, якая знаходзіцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь: «Мой адукацыйны цэнз: Скончыў у 1918 годзе 7 класаў мужчынскай гімназіі Фальковіча й Зубакіна ў Менску. Мой практычны стаж: У 1918–1919 гадах працаваў як настаўнік у вячэрняй школе для дарослых, якая была арганізавана мною ж у м. Пасадцы Вілейскага павета. Адначасна з гэтым даваў прыватныя лекцыі ў розныя клясы сярэдняе школы...»**.

Прыехаўшы з Петраграда ў Менск у 1917 годзе, Уладыслаў Чаржынскі разам з Генрыкам Матукам жылі ў беларускім інтэрнаце на Маскоўскім завулку, 1. Інтэрнат знаходзіўся над беларускай сталоўкай, якой у той час кіраваў Язэп Лёсік. Пасля ліквідацыі інтэрната, як прыгадвае Зоська Верас, Матук і Чаржынскі жылі на кватэры Змітрака Бядулі. Спалі яны на раскладзеных сенніках, матэрыяльнае становішча іх было даволі цяжкім.

У анкеце № 1/538 стыпендыяльнай камісіі БДУ ад 2 чэрвеня 1925 года (Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь) Уладыслаў Чаржынскі піша:

*Асноўны занятак да вайны 1914 года:* Вучыўся і працаваў на гаспадарцы.

*У час вайны і да рэвалюцыі 1917 года:* Вучыўся.

*Падчас польскай і нямецкай акупацый (падрабязна):* У часе нямецкай акупацыі працаваў у школе,

* Сяргей Чыгрын. З беластоцкай зямлі. Беласток, 2008. С. 278.

** Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 205. Воп. 3. Спр. 8909. Арк. 1 — 1 адв.



Бѣлорусское Общество въ Петроградѣ по оказанію помощи пострадавшимъ отъ войны.

№ 1357 1916 г. Бѣж. Кн. №

РАСПИСКА.

• *Анкета Уладыслава Чаржынскага, 1916 г.*

у часе польскай акупацыі — у Беларускай вайсковай камісіі*.

Як бачыце, пра бежанства і вучобу ў Петраградзе Уладыслаў Чаржынскі зноў нічога не напісаў. Ніколі ён не прыгадваў вучобу ў Петраградзе, бежанства і свой перыяд жыцця з 1915 па 1917 гады і тады, калі жыў і працаваў у Казані.

## Вяртанне спадчыны археолага Сяргея Дубінскага



• *Сяргей Дубінскі*

Даўно я не трымаў у руках такога вялікага і шыкоўнага выдання, як кніга спадчыны «Бібліяграфія па археалогіі Беларусі і сумежных краін» беларускага археолага Сяргея Дубінскага (1884–1937). Памер кнігі — 30×21 см з 340 старонкамі. Яна выйшла ў Беластоку пры падтрымцы Беларускага гістарычнага таварыства ў Польшчы. Фінансавую дапамогу выданню аказалі Маршалкоўскае ўпраўленне Падляшскага ваяводства і Адміністрацыя Прэзідэнта Беластока. Гэта па-першае. Па-другое, над выданнем кнігі дбайна парупіліся гродзенскія гісторыкі Генадзь і Альбіна Семянчукі. Наогул, у апошнія дзесяць гадоў у Беларусі з'явілася вельмі моцная, працаздольная і цікавая школа гродзенскіх гісторыкаў, якія шмат карыснага робяць для беларускай гістарыяграфіі. Гэта найперш Генадзь і Альбіна Семянчукі, Алесь Смалянчук, Ігар Трусаў, Алесь Краўцэвіч, Сяргей Токць, Святлана Куль-Сяльверстава, Вячаслаў Швед, Святлана Марозава, Андрэй Вашкевіч, Андрэй Пачобут, Іна Соркіна, Андрэй Чарнякевіч і іншыя. Няхай мне прабачаць тыя, каго тут не згадаў. Гэтыя хлопцы і дзяўчаты працуюць даволі плённа і шмат. І падобнай сябрынай гісторыкаў на сённяшні дзень не можа пахваліцца ні адзін абласны горад Беларусі. На жаль. Часцей у апошні час у беларускіх, асабліва мінскіх, даследчыкаў гісторыя нашай Бацькаўшчыны чамусьці пачынаецца толькі з нейкай «лініі Сталіна». Але далёка не з Міндоўга, Вітаўта, Альгерда, Скарыны, Гусоўскага...

І па-трэцяе. Вяртанне спадчыны Сяргея Дубінскага яшчэ раз падкрэслівае, што беларуская культура, літаратура і гісторыя — адны з найбагацейшых у свеце. Нам заўсёды было чым ганарыцца і кім ганарыцца. Іншыя справа, што на працягу ўсяго, напрыклад, XX стагоддзя беларусам не давалі «людзьмі звацца», а быць толькі тутэйшымі. Тым не менш гэтыя тутэйшыя стварылі сваю мову, літаратуру, даследавалі гісторыю, геаграфію, архітэктуру, археалогію. На ніве археалогіі плённа працаваў у 1920–1930-х гадах беларускі археолаг, гісторык і бібліёграф з Беласточчыны Сяргей Дубінскі. Ён нарадзіўся 13 кастрычніка 1884 года ў вёсцы Наройкі Сямятыцкага павета. Пасля заканчэння Пецярбургскага ўніверсітэта ў 1914 годзе пэўны час настаўнічаў. У 1925 годзе Сяргей Дубінскі становіцца сябрам Гісторыка-археалагічнай камісіі Акадэміі навук БССР, пасля — навуковым супрацоўнікам Інбелкульта, а з 1931 года — у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук БССР. Адпрацаваўшы два гады ў Інстытуце гісторыі, наш зямляк атрымаў загад тэрмінова пакінуць тэрыторыю Беларусі і выехаць на пастаяннае месца жыхарства ў Ленінград. У 1933 годзе Сяргей Дубінскі назаўсёды пакінуў Беларусь і прыехаў у горад на Няве, дзе ўлад-

* Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 205. Воп. 3. Спр. 8876. Арк. 2 — 2 адв.

каваўся на працу ў Ленінградскую акадэмію гісторыі матэрыяльнай культуры.

За той час, што наш зямляк жыў і працаваў у Беларусі, яму ўдалося зрабіць шмат карыснага для беларускай археалогіі. Ён актыўна даследаваў помнікі ранняга жалезнага веку і эпохі сярэднявечча. Праводзіў разам са сваімі калегамі раскопкі і вывучаў курганныя старажытнасці ў Бельскім павеце, пасля гарадзішчы Бабруйшчыны, Міншчыны, Мазыршчыны, Магілёўшчыны і Віцебшчыны. Па словах даследчыцы беларускай археалогіі Таццяны Каробушкінай, у 1927 годзе Сяргей Дубінскі склаў археалагічную карту Магілёўскай вобласці, якая, на жаль, не захавалася.

Самай грунтоўнай і вялікай працай, якую пакінуў нам беларускі археолаг, з'яўляецца яго «Бібліяграфія па археалогіі Беларусі і сумежных краін», якая пабачыла свет асобнай кнігаю ў Мінску ў 1933 годзе. У ёй наш зямляк пералічыў даследаванні пра дакласавае грамадства, ранні феадалізм, нумізматыку, сфрагістыку, старажытную архітэктуру, абарончыя збудаванні. У 20–30-я гады Сяргей Дубінскі паспеў напісаць і апублікаваць дзясяткі артыкулаў, сярод іх — «Доследы культур жалезнага перыяду па Віцебшчыне, Магілёўшчыне і Міншчыне», «Чаркасоўскае гарадзішча пад Оршай», «Раскопкі Банцараўскага гарадзішча каля Менску ў 1926 годзе», «Археалагічныя працы на Беларусі за 1919–1928 гады», «Гарадзішча каля вёскі Германаў Аршанскай акругі», «Доследы культур жалезнага перыяду на БССР у 1929 годзе» і іншыя.

На вялікі жаль, свае планы і задумкі наш таленавіты зямляк ажыццявіць не змог. Яго расстралялі ва ўзросце 53 гадоў у 1937 годзе. У 1958 годзе ён быў пасмяротна рэабілітаваны.

Пасля таго, як Сяргей Дубінскі быў рэпрэсіраваны і расстраляны НКУС, фактычна рэпрэсіраванай была і яго археалагічная спадчына. Унікальная «Бібліяграфія па археалогіі Беларусі і сумежны краін» археолага,



як піша Генадзь Семянчук у пасляслоўі да кнігі, надоўга была выдалена з актыўнага навуковага звароту. Яе апісання нават няма на старонках энцыклапедыі «Археалогія і нумізматыка Беларусі» (Мінск, 1993), а таксама энцыклапедыі «Археалогія Беларусі» (Мінск, 2009). У навуковых бібліятэках Беларусі і ў прыватных кнігазборах «Бібліяграфія...» Сяргея Дубінскага захоўваецца ў некалькіх экзэмплярах. Таму выданне ў Беластоку спадчыны расстралянага беларускага археолага — гэта даволі значная падзея ў нашай археалогіі і гісторыі.

У беластоцкае выданне «Бібліяграфіі па археалогіі Беларусі і сумежных краін» Сяргея Дубінскага ўвайшлі не толькі сама бібліяграфія, але і асобныя артыкулы і даследаванні археолага, напісаныя ў 1920–1930-х гадах. Гэта тыя артыкулы, якія ўдалося адшукаць Генадзю і Альбіне Семянчукам. Яны прысвечаны археалагічнай працы на Беларусі за 1919–1929 гады, раскопкам курганоў у Бельскім павеце летам 1911 года, а таксама ў Заслаўі, гарадзішчам на Аршаншчыне, каля Мінска ў 1926 годзе, доследы культур жалезнага перыяду па Віцебшчыне, Магілёўшчыне і Міншчыне і іншыя. Але самай унікальнай працай усё ж застаецца «Бібліяграфія...». Дзіву даюся, дзе знаходзіў даследчык час, каб столькі перакапаць, адшукаць, занатаваць, каб пакінуць нашчадкам такі вялікі даследчы скарб. Як піша аўтар кнігі, за першыя трыццаць гадоў XX стагоддзя на Беларусі былі арганізаваны 27 археалагічных экспедыцый і 30 паасобных камандзіровак для археалагічных раскопак. У выніку гэтых прац упершыню былі знойдзены палеалітычныя стаянкі, да 700 стаянак эпохі неаліту і бронзы, да 800 гарадзішчаў, да 3 тысяч курганных груп, у якіх налічвалася звыш 25 тысяч курганоў і шмат іншых археалагічных помнікаў.

У выданне Сяргея Дубінскага складальнікі ўключылі фотаздымкі і малюнкі. На фотаздымках адлюстраваны раскопкі курганоў каля вёсак Цацэлі, Бацікі Далёкія,

Козлікі, Ляхі, Слохі і Клюкава Бельскага павета ў 1911 годзе. А таксама раскопкі каля Драгічына. Ёсць здымак і збіральніка драгічынскіх старажытнасцей Фелікса Каханскага.

Сяргей Дубінскі вельмі добра маляваў. Малюнкі аўтара, якія складальнікі ўключылі ў кнігу, звязаныя з археалагічнымі знаходкамі. Усё разам: і фотаздымкі, і малюнкі, і тэкст — дапаўняе выданне, робіць яго насамрэч грунтоўным і навуковым.

Выданне спадчыны беларускага археолага Сяргея Дубінскага Беларускім гістарычным таварыствам Польшчы, як і самі помнікі археалогіі Беларусі, — гэта каштоўная крыніца звестак аб жыцці нашых далёкіх продкаў, нашай гісторыі, якую калі дасканала і не ведаць, дык трэба хоць заўсёды зберагаць. І памятаць пра тых людзей, якія дбайна працавалі на ніве адраджэння беларускай археалогіі.

## Беларус высокай культуры



• *Станіслаў Казура*

Падчас пошукаў звестак пра беларускага і польскага кампазітара, дырыжора, педагога і публіцыста Станіслава Казуру (1881–1961) звярнуўся да старэйшага беларускага паэта Віктара Шведа, які жыве ў Беластоку. Віктар Швед добра ведаў Казуру, неаднойчы з ім сустракаўся ў Варшаве, гутарыў, разважаў пра лёс беларусаў, пра літаратуру і музыку. Гэтыя сустрэчы адбываліся на Сенатарскай вуліцы ў Варшаве, дзе месцілася Беларускае грамадска-культурнае таварыства, а таксама сустрэчы і гутаркі былі на кватэры Станіслава Казуры на вуліцы Гурнашлёнскай.



### Віктар Швед прыгадвае

***— Спадар Віктар, калі вы апошні раз наведалі прафесара Казуру?***

— Гэта было ў 1961 годзе ў Варшаве. А здаецца, што зусім нядаўна мы з сябрам Пятром Ластаўкам падымаліся па лесвіцы да кватэры Станіслава Казуры. Паважаны ўсімі прафесар, частуючы нас кавай, прасіў наведваць яго часцей. Мы паабяцалі, аднак 30 лістапада 1961 года па радыё мы пачулі сумную вестку аб смерці гэтага выдатнага чалавека.

*— Усё жыццё жывучы ў Варшаве, на якой мове Станіслаў Казура з вамі размаўляў?*

— Прафесар Казура вельмі хваляваўся, калі заглядваў да яго нехта з беларусаў. Ён быў чалавекам надта сардэчным і гаваркім. Жывучы ў Варшаве, у польскім асяроддзі, ён рэдка меў аказію пагутарыць на беларускай мове. Таму беларуская мова, якою ён карыстаўся, была крышачку архаічнай, была гэта мова нашаніўскай пары. Такую мову вынес Станіслаў Казура з бацькоўскай хаты і такую захаваў на ўсё жыццё. Здавалася, што ён нічога больш на свеце не любіў і не хацеў, каб толькі пагутарыць на роднай мове з беларусамі.

*— Аб чым вы гутарылі?*

— Як прафесар музыкі і кампазітар, ён ахвотна разважаў пра беларускі фальклор, пра беларускія народныя песні, якія сам апрацоўваў. Не трэба было яго доўга прасіць, каб засеў за фартэпіяна. З прыемнасцю слухалася і глядзелася на яго далікатныя, васковабледныя пальцы, якія віртуозна дабывалі з клавішаў фартэпіяна меладычныя гукі. Ён да смерці заставаўся верным тым старым беларускім народным песням, якія чуў калісьці і якія глыбока запалі ў яго душу і сэрца, напамінаючы родныя мясціны на Пастаўшчыне...

## З біяграфіі

Станіслаў Казура нарадзіўся ў фальварку Тэкліна-поль былога Свянцянскага павета Віленскай губерні (цяпер Пастаўскі раён Віцебскай вобласці) 2 жніўня 1882 года. Хаця ў польскім выданні «Encyklopedia Muzyczna» паведамляецца, што Станіслаў Казура нарадзіўся 1 жніўня 1881 года. Пачатковую адукацыю ён атрымаў дома, потым працягваў адукацыю ў Вільні, у тым ліку і музычную. Бацькі хацелі, каб сын стаў медыкам, таму адразу накіравалі яго ў Дзвінск вучыцца на ўрача. Але яго цягнула да музыкі. Не закончыўшы вучобы, ён у 1906 годзе арганізаваў з рабочых фабрыкі лакаматываў горада Дзвінска духавы аркестр, а пры парафіі мясцовага касцёла стварыў таварыства спевакоў «Лютня».

У 1907 годзе Станіслава Казуру запрасілі працаваць арганістам у Нясвіж, дзе ён арганізаваў змешаны хор, які вызначаўся высокім прафесіяналізмам, нават выконваў «Латарэю», складаны музычны твор Станіслава Манюшкі. Па пратэкцыі музычнага дзеяча дэкана Дзвінскага касцёла Секлюцкага і пры падтрымцы і апякунстве Радзівілаў у 1907 годзе Станіслаў Казура паступіў у Варшаўскую кансерваторыю. А потым працягвае сваю музычную адукацыю ў Рыме, дзе ў 1914 годзе скончвае Акадэмію Святой Цэцыліі (Accademia Nazionale di Santa Cecilia), а таксама ў Парыжы.

Жывучы ў Варшаве, кампазітар арганізаваў у філармоніі хор, які налічваў дзвесце ўдзельнікаў. Ён выкладаў у Варшаўскай кансерваторыі сальфеджыа, садзейнічаў выданню дзяржаўнага дэкрэта аб абавязковым навучанні музыкі і спеваў у агульнаадукацыйных школах. Пры Варшаўскай кансерваторыі Станіслаў Казура арганізаваў факультэт па вывучэнні музыкі і спеваў у агульнаадукацыйных школах. Для гэтага



факультэта ён напісаў і выдаў дзясяткі дапаможнікаў па спевах.

Кампазітар аднавіў гістарычную капэлу рарытарыстаў, арганізаваў хор «300 дзяцей з Павісля», вялікі хор «Польская народная капэла». Усе гэтыя музычныя калектывы выступілі з сотнямі розных канцэртаў.

Падчас Другой сусветнай вайны ў акупаванай немцамі Варшаве Станіслаў Казура пры апякунскай радзе адкрыў тайную кансерваторыю. У ёй працаваў сам, а таксама яго жонка і іншыя выкладчыкі-патрыёты. У час Варшаўскага паўстання, калі навокал рваліся снарады і бомбы, Казура арганізаваў у кансерваторыі «хвіліны класічнай музыкі», якія падтрымлівалі патрыятычны дух змагароў.

Пасля вайны прафесар Станіслаў Казура першы пачаў адраджаць Варшаўскую кансерваторыю, пазней — Дзяржаўную вышэйшую музычную школу, у якой быў з 1945 па 1951 год рэктарам. Ён — адзін з ініцыятараў стварэння ў 1956 годзе Саюза польскіх кампазітараў.

## Станіслаў Казура і Беларусь

Станіслаў Казура вельмі любіў Беларусь, родныя мясціны, людзей, народныя беларускія песні. Ён ніколі не цураўся свайго беларускага паходжання. Яго жыццё пастаянна было звязана з беларускім рухам, хоць і пражыў большую палову свайго жыцця ў Польшчы. Да Першай сусветнай вайны ён прымаў удзел у Беларускім студэнцкім гуртку ў Пецярбургу. Шмат дапамагаў матэрыяльна студэнтам-беларусам, вучыў іх бясплатна ў Варшаўскай кансерваторыі і ўсюды за іх заступаўся. У 1936 годзе Станіслаў Казура дапамагаў беларусам у Варшаве стварыць Асветнае беларускае таварыства (іншыя яго згадваюць як Беларускае культурнае таварыства ў Варшаве. — *С. Ч.*). Гэтае таварыства было створана восенню 1936 года і праіснавала да пачатку

Другой сусветнай вайны. Станіслаў Казура дапамагаў таварыству матэрыяльна на працягу ўсяго часу яго існавання. І сам вельмі актыўна прымаў удзел у многіх мерапрыемствах беларускай арганізацыі. А ў канцэртных мерапрыемствах Асветнага беларускага таварыства часта гучалі яго песні. Часопіс «Шлях моладзі» пісаў: «8.11.37 г. Станіслаў Казура атрымаў музычную ўзнагароду м. Варшавы за пашырэнне культу народнай песні. Прафесар С. Казура, між іншым, прыгожа згарманізаваў некалькі беларускіх народных песьняў. Жыве прафесар Ст. Казура стала ў Варшаве, там таксама выйшла некалькі ягоных школьных падручнікаў аб спеве. У мінулым годзе праф. Ст. Казура напісаў оперу "Powrót" на аснове беларускіх народных мелодыяў»*. Дарэчы, да оперы «Powrót» («Вяртанне») кампазітар напісаў лібрэта, а ў фінал уключыў беларускую жніўную песню, апісаў некалькі беларускіх танцаў. А Рыгор Шырма ў часопісе «Беларускі летапіс» паведамляў: «Нядаўна артыст Міхал Забэйда-Суміцкі напяяў на грамафонныя пліты дзесяць песень, сярод іх і песьні Ст. Казуры "Зялёны дубочак" і "Чаму ж мне не пець"»**.

У 1930-х гадах славуты кампазітар часта наведваў родную Пастаўшчыну. Ён гасцяваў у сваіх сяброў і сваякоў, хадзіў па вёсках і запісваў народныя песні. Як паведамляе краязнавец Яська Драўніцкі (Westki.info. 27.01.2013), на Пастаўшчыне Станіслаў Казура запісаў шмат беларускіх народных песень, 12 з іх апрацаваў для аматарскага хору і голасу сола. Гэта былі песні «Чырвоная калінанька», «Зялёны дубочак», «Чаму ж мне не пець», «Як памерла матулька» і іншыя. Пры апрацоўцы песень кампазітар змог выявіць народную душу ў песнях, а таксама тонкія і далікатныя перажыванні.

* Шлях моладзі. 1937. № 15. С. 14.

** Беларускі летапіс. 1937. № 5. С. 108.



Дарэчы, «Беларускі каляндар» (Беласток) за 1980 год апублікаваў ноты Станіслава Казуры да беларускіх народных песень «Вярба», «Зязюленька», «Зашумела дубровачка», «Калінанька», «Камар у лазні паліў» і «Чаму не жаніўся». Дарэчы, гэты «Беларускі каляндар» апублікаваў і невялікія ўспаміны пра Станіслава Казуру Віктара Шведа, дзе ён падкрэслівае, што «Станіслаў Казура — гэта быў кампазітар, якога творчасць абапіралася на фальклоры. Ён з'яўляўся прапагандыстам і збіральнікам народных песень з усёй Польшчы, у тым ліку і беларускіх».

У 1956 годзе Станіслаў Казура разам з беларусамі сталіцы Польшчы прымаў актыўны ўдзел у арганізацыйным з'ездзе аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ) у Варшаве. А 18 студзеня 1957 года ён прысутнічаў на першым сходзе Выдавецкага камітэта пры БГКТ. Выступаючы ў дыскусіях, пан Казура тады сказаў, што побач з мастацкай і навуковай літаратурай Камітэт павінен займацца і апрацоўкай, а таксама выданнем беларускага песеннага фальклору. І сам ён тады паабяцаў падрыхтаваць зборнік беларускіх народных песень у сваёй апрацоўцы. Але, на жаль, не паспеў.

## Маргарыта Трамбіні-Казура

Падчас вучобы ў Рыме Станіслаў Казура пазнаёміўся з дачкой італьянскага дырыжора і скрыпача Чэзара Трамбіні (1835–1898) Маргарытай. Маргарыта закахалася ў таленавітага беларуса. Хутка яны пажаніліся і пераехалі ў Варшаву. Маргарыта Трамбіні-Казура вучылася музыцы ў Варшаве, Парыжы, Берліне. У 1911 годзе яна дала першы канцэрт у Рыме. Пазней выступала з канцэртамі ў Італіі, Францыі, Германіі, Фінляндыі, Нарвегіі, Венгрыі. А з 1919 года працавала педагогам Варшаўскай кансерваторыі. Піяністка, клавесіністка, педагог у час нямецкай акупацыі разам з мужам пра-



• *Жонка Станіслава Казуры Маргарыта*

цавала ў падпольнай кансерваторыі. А падчас Варшаўскага паўстання яна, рызыкуючы жыццём, як медсястра аказвала дапамогу раненым.

Маргарыта Трамбіні-Казура моцна кахала свайго мужа, шанавала яго і берагла і дапамагала яму ва ўсім. Яна стала прафесарам Польскай вышэйшай музычнай школы, шмат разоў уваходзіла ў журы Міжнароднага конкурсу піяністаў імя Шапэна, даследавала творчасць Шапэна і Баха. А пасля смерці Станіслава Казуры (памёр 30 лістапада 1961 года) прапагандавала яго музычную і літаратурную творчасць, бо акрамя музычнай дзейнасці спадар Казура займаўся яшчэ мастацкай і краязнаўчай літаратурай, напісаў і выдаў шэраг кніг, сярод якіх — «Фатальны візіт», «Прафесар Зубрэвіч», «Настаўнік з Чаромхі», «Сарбаністы» і іншыя.

Пры жыцці Станіслаў Казура меў шмат розных прэмій і ўзнагарод, сярод якіх быў і Крыж Камандорскі ордэна Адраджэння Польшчы. А ў 1980 годзе пастановай Варшаўскай сталічнай рады нарадовай адна з вуліц квартала Варшавы «Натолін» на Макатове атрымала імя Станіслава Казуры. Вось толькі на роднай Пастаўшчыне імя яго не ўшанавана.



## Анатоль Кунцэвіч сумаваў па Радзіме



• *Анатоль Кунцэвіч, 1947 г.*

У сваёй кнізе «З беластоцкай зямлі» (Беласток, 2008) адзін невялікі раздзел я прысвяціў Анатолю Сумнаму. Пры падрыхтоўцы матэрылу да кнігі мне нават не ўдалося разгадаць, хто хаваўся пад псеўданімам Сумны. Ведаў я толькі тое, што ён нарадзіўся на Беласточчыне, быў прыхільнікам Беларускай Цэнтральнай Рады, падрыхтаваў альманах «Ускалось», які загінуў падчас бамбардзіроўкі ў Германіі, пісаў вершы. Адзін верш «Маліцьба» ўдалося адшукаць у часопісе «Баявая Ускалось» (1970. № 10). Але гэта кволы літаратурны твор-настальгія, твор-просьба, твор — самота па Радзіме. Больш-менш удалай атрымалася першая страфа:

> Маці святая, заступніца шчырая,
> Я Табе душу сваю адчыняю.
> Граець у сэрцы цудоўная ліра,
> З ёй гэту песню я сёння складаю…

Пасля Другой сусветнай вайны сляды Анатоля Сумнага згубіліся дзесьці ў Аўстраліі.

Вось і ўсё, што было мне вядома пра чалавека з псеўданімам Сумны. Тым не менш я пакінуў і гэтыя невялікія звесткі пра яго ў кнізе «З беластоцкай зямлі», а таксама ў «Беларускай Беласточчыне» (Мінск, 2008). Калі даследчык беларускіх псеўданімаў Янка Саламевіч яшчэ пры жыцці прачытаў мае кнігі, дык



• *Коля і Юрык — сыны Анатоля Кунцэвіча*

адразу сказаў, што пад псеўданімам Анатоль Сумны хаваецца не хто іншы, як праваслаўны святар Анатоль Кунцэвіч.

Пачаліся новыя пошукі. І за гэты час ужо сёе-тое ўдалося знайсці пра Кунцэвіча-Сумнага. Сабранае па крупінцы дае ўяўленне пра лёс гэтага незвычайнага чалавека і шчырага беларуса.

Анатоль Кунцэвіч нарадзіўся 14 красавіка 1912 года на Беласточчыне, магчыма ў вёсцы Ялоўка. Па іншых звестках, ён нарадзіўся 14 чэрвеня ў Пінску. Але гэта малаверагодна, бо ў паваенных дакументах ён сам указваў, што нарадзіўся на Беласточчыне. Бацька яго ў Ялоўцы быў святаром. Там, у Ялоўцы, Анатоль у 1923 годзе скончыў два курсы «учыцельскай прэпаранлы». І ў 1924 годзе паступіў у Віленскую духоўную семінарыю. А пасля семінарыі скончыў яшчэ факультэт праваслаўнага багаслоўя Варшаўскага ўніверсітэта. Як бачыце, Анатоль Кунцэвіч у маладосці атрымаў вельмі добрую адукацыю.

У 1926 годзе юнака забралі на вайсковую службу. Служыў ён у 81-м палку пяхоты ў Брэсце. А пасля службы вярнуўся дамоў і прыняў духоўны сан. Пасвяціў яго ў духоўны сан пазнейшы мітрапаліт Аляксандр Іназемцаў у Пінску.

У 1942 годзе Анатоль Кунцэвіч выехаў у Германію. Разам з ім выехалі жонка і двое іх сыноў — Мікола і Юрык, яго брат Мікалай з жонкай, а таксама маці з бацькам. Спадар Анатоль працаваў настаяцелем праваслаўнай царквы ў Нортгайме. Адтуль ён звяртаецца з прашэннем да епіскапа Беларускай аўтакефальнай



праваслаўнай царквы Сяргея Ахатэнкі, каб прыняў яго пад ягоную юрысдыкцыю і прызначыў настаяцелем праваслаўнай парафіі пры лагеры ў Гановеры. Хутка яго просьбу задаволілі. І Кунцэвіч быў прызначаны настаяцелем праваслаўнага прыхода БАПЦ у лагеры ДП у Гановеры.

Святарскія абавязкі Анатоль Кунцэвіч выконваў шчыра і аддана. Па хадайніцтву епархіяльнага эканома і сакратара Міколы Дзямідава пастановай кіраўніцтва БАПЦ ад 2 студзеня 1949 года за вельмі карысную і паспяховую дзейнасць і за арганізацыю царкоўнаприходскага жыцця сярод праваслаўных беларусаў протаіерэю Анатолю Кунцэвічу была выказана падзяка і просьба да Уладыкі Сяргея Ахатэнкі ўзнагародзіць яго чарговай протаіерэйскай узнагародай. А таксама прызначыць Анатоля Кунцэвіча благачынным прыходаў БАПЦ на англійскую зону і даручыць яму далейшую арганізацыю новых прыходаў і часовае адміністрацыйнае кіраўніцтва імі ў англійскай зоне да прызначэння адпаведных настаяцеляў. Гэта была для Кунцэвіча прыемная навіна. І ён з новай сілай узяўся за працу.

Але хутка Уладыка Сяргей пакінуў Германію і выехаў у Аўстралію ў Сідней. За ім выехаў і Анатоль Кунцэвіч. У 1952 годзе ў Сіднеі ўжо дзейнічала парафія БАПЦ, у якой Божыя службы праводзіў святар Зялінскі, да якога далучыўся і протаіерэй Анатоль Кунцэвіч. Там наш зямляк таксама прымаў удзел у працы Беларускага аб'яднання ў Новым Паўднёвым Уэльсе, дапамагаў беларусам богаслужбамі. Але, як і большасць святароў БАПЦ, Анатоль Кунцэвіч мусіў працаваць і яшчэ ў іншым месцы, відаць, займаўся фізічнай працай. А калі ў 1957 годзе Уладыка Сяргей пераехаў у Пэрт, то Кунцэвіч адышоў ад грамадскай беларускай справы і ад царкоўнай.

У пошуках звестак пра Анатоля Кунцэвіча я звярнуўся да свайго земляка спадара Барыса Данілюка

(1923–2011) з пытаннем, што ён ведае пра яго. Спадар Данілюк некалі сказаў, што чуў пра святара Анатоля, але як склаўся ягоны лёс — ён не ведае. І параіў звярнуцца да яшчэ аднаго земляка Анатоля Хрэноўскага, які жыве ў Канадзе. Што я хутка і зрабіў. На пытанне, ці ведаў ён Анатоля Кунцэвіча, спадар Хрэноўскі адказаў:

— Я вельмі ўзрадаваўся, што ёсць яшчэ людзі на зямлі, якія цікавяцца лёсам нашых патрыётаў. Айцец Анатоль Кунцэвіч быў пракрокам-прапаведнікам. Гэтага вялікага, мудрага і шчырага чалавека я буду памятаць да самай смерці.

— *І якім ён вам запомніўся?*

— Успамінаецца нямецкі горад Нортгайм, англійская зона. Я, мае бацька і маці жылі ва ўкраінскім лагеры. Жылі мы там доўгі час. Аднойчы нам паведамілі, што ўкраінцы павінны пакінуць гэты лагер, бо сюды прыязджаюць вайскоўцы-палякі з арміі Андэрса. Але мы засталіся, бо бацька наш быў брыгадзірам у брыгадзе, якая пілавала лес амерыканцам. Яму сказалі заставацца і нас ніхто тут чапаць не будзе. Бацька пагадзіўся, і мы засталіся. Праз пэўны час сапраўды прыехалі палякі, а з імі і айцец Анатоль Кунцэвіч з жонкай і са сваімі сыночкамі. Мы пазнаёміліся. Аказалася, што спадар Анатоль быў святаром у арміі Андэрса. З ім разам прыехала і шмат беларусаў. Тут мой бацька, айцец Анатоль і іншыя беларусы адкрылі царкоўны прыход БАПЦ. Разам мы святкавалі ўсе царкоўныя праваслаўныя і беларускія нацыянальныя святы. Жылі дружна і весела, спадзяваліся, што хутка вернемся на Бацькаўшчыну.

Сам Анатоль Кунцэвіч быў сапраўдным беларускім праваслаўным хрысціянінам. Трэба было бачыць і чуць, як выдатна ён праводзіў богаслужэнні. А калі казаў пропаведзі — мурашкі бегалі па целе. Гэта было незвычайна. Можа, з-за таго, што ён служыў святаром у войску. Крыж ён трымаў высока і моцна прапаведаваў. Бацька яго быў старастам і спяваў у хоры, маці таксама спявала ў хоры. Сам Анатоль ведаў шмат беларускіх песень, умеў добра таньчыць, разбіраўся ў танцах, складаў вершы, добра маляваў, пісаў іконы алейнай фарбай. Ён быў вельмі таленавітым чалавекам. Я яму падчас службаў падаваў кадзіла. Ён мяне навучыў з воску рабіць свечкі. Я за яго быў маладзейшы на 22 гады і шмат чаму добраму ў яго вучыўся.

— *Але ж па волі лёсу на Бацькаўшчыну вярнуцца ніхто тады не змог. Вы паехалі з сям'ёй у Канаду, а Анатоль Кунцэвіч застаўся. Ці так гэта было?*

— У 1949 годзе мы выехалі ў Канаду. Праз некалькі гадоў я даведаўся, што Анатоль Кунцэвіч жыве ў Аўстраліі. У Аўстраліі жыў і Аляксей Васіленя са Слоніма, з якім я перапісваўся. Неяк я ў Васілені спытаўся, што ён ведае пра Кунцэвіча. Спадар Васіленя адказаў, што Кунцэвіч пачаў моцна піць. Я планаваў забраць яго з сям'ёй у Канаду, але ўжо было позна, яго не стала. Мне вельмі шкада Анатоля, ён быў душа нашага народа...

Да ўсяго сказанага вышэй хочацца дадаць, што Анатоль Кунцэвіч вельмі сумаваў па Радзіме, па роднай Беласточчыне. У пісьмах да сваіх сяброў, з якімі перапісваўся, заўсёды пісаў, што сумуе па Бацькаўшчыне, нават псеўданім сабе ўзяў Анатоль Сумны. Гэтая настальгія, незваротны жыццёвы адчай дачасна загналі яго магілу дзесьці ў 1960-х гадах. Пра лёс ягоных жонкі і сыноў звестак знайсці пакуль не ўдалося.

# Біяфізік, паэт і мастак Аляксандр Чыжэўскі



• *Аляксандр Чыжэўскі*

У лютым 2010 года ў расійскім горадзе Калуга ўрачыста быў адкрыты першы Дом-музей Аляксандра Чыжэўскага — вялікага савецкага вучонага-біяфізіка, заснавальніка аэраіаніфікацыі, геліябіялогіі і электрагематалогіі, паэта і мастака. З 1913 да 1929 года ў тым доме жыла сям'я Чыжэўскіх.

Але радзіма Аляксандра Чыжэўскага зусім не Калуга і Расія, а беластоцкая беларуская зямля, дзе ў мястэчку Цеханавец ён нарадзіўся 8 лютага 1897 года ў праваслаўнай сям'і вайскоўца-беларуса.

Бацька Аляксандра Чыжэўскага — Леанід Васільевіч у свой час скончыў Аляксандраўскае вучылішча, стаў вайскоўцам. А ў 1916 годзе нават атрымаў генеральскае званне. Калі быў паручыкам, вынайшаў вугламер для стральбы артылерыі па нябачных цэлях з закрытых пазіцый, а таксама ўсё жыццё займаўся ракетнай зброяй.

Маці Надзея Аляксандраўна рана памерла ад сухотаў, пахавана на могілках у Ментане (Італія). Сыну Аляксандру не было яшчэ і годзіка. Выхаваннем хлопчыка займалася сястра бацькі Вольга, а таксама маці бацькі Лізавета Сямёнаўна. Дарэчы, бабуля была даволі адукаваным чалавекам. І пра гэта ведалі жыхары Цеханаўца, бо часта да яе звярталіся па парады, рэкамендацыі, з просьбамі. Бабуля Ліза валодала французскай, англійскай, нямецкай, рускай і тутэйшай (беларускай) мовамі, выдатна чытала на італьянскай і шведскай мовах, добра ведала гісторыю.



Аляксандр часта хварэў, і гэта хвалявала бацьку. Таму ён сына разам з сястрой і маці вельмі часта адпраўляў на лячэнне і адпачынак у Італію, Францыю, Грэцыю, Егіпет. Грошы ў іх былі.

Спачатку маленькага Сашу вучыў хатні настаўнік у Цеханаўцы. Адначасова і бабуля давала шмат ведаў. Таму ўжо ў чатыры гады Саша Чыжэўскі мог расказваць на памяць вершы рускіх, нямецкіх і французскіх паэтаў.

Першыя дзесяць гадоў жыцця Аляксандра Чыжэўскага прайшлі на Беласточчыне. Але потым сям'я пераехала ў горад Белу Сядлецкай губерні. Праўда, Саша з цёткай і бабуляй часта прыязджалі ў Цеханавец, дзе ў іх заставаліся сваякі і сябры. І толькі перад пачаткам Першай сусветнай вайны сям'я Чыжэўскіх пераехала ў Калугу, таму што туды накіравалі на службу яго бацьку.

У Калузе Аляксандр Чыжэўскі паступіў у прыватнае рэальнае вучылішча Шахмагонава. Тут пачаў цікавіцца астраноміяй і летам 1914 года пазнаёміўся з Канстанцінам Цыялкоўскім, з якім потым сябраваў усё жыццё.

Пасля заканчэння вучылішча наш зямляк вырашыў працягваць вучобу ў Маскве. Акрамя астраноміі юнака вельмі цікавіла літаратура. У 1915 годзе ён выдае першы свой паэтычны зборнік «Стихотворения».

У Маскве Аляксандр Чыжэўскі для вучобы выбраў два інстытуты — камерцыйны і археалагічны. Калі ў камерцыйным інстытуце існавала класічная схема заняткаў, то ў археалагічным, куды ён паступіў вольным слухачом, прафесары з першых дзён вучобы далучалі студэнтаў да навуковай дзейнасці. Вядома, Аляксандр прапанаваў зрабіць даклад пра вынікі сваіх назіранняў за сонцам. Свае думкі пра сувязь сонечнай актыўнасці і працэсаў на Зямлі Чыжэўскі выказаў у адным з першых

сваіх выступленняў, якое называлася «Уздзеянне пертурбацый у электрычным рэжыме сонца на біялагічныя з'явы». Тады даклад выклікаў розныя спрэчкі сярод студэнтаў і выкладчыкаў.

Будучы студэнтам Маскоўскага археалагічнага інстытута, Аляксандр Чыжэўскі зімой 1915/1916 года наведваў маскоўскія літаратурныя вечары і гурткі, дзе пазнаёміўся з рускімі літаратарамі Іванам Буніным і Валерыем Брусавым.

У сакавіку 1918 года былі арганізаваны Калужскія пяхотныя камандныя курсы па падрыхтоўцы каманднага складу Чырвонай Арміі. Бацька Аляксандра Чыжэўскага быў прызначаны начальнікам гэтых курсаў. А рускую мову там выкладаў сам Аляксандр Чыжэўскі. У 1918 годзе, у сувязі з пераходам на новую арфаграфію, Аляксандр склаў падручнік рускай мовы згодна з новымі правіламі. А праз год ён выдае другі зборнік вершаў «Тетрадь стихотворений», куды ўвайшло 300 твораў.

Пасля заканчэння археалагічнага інстытута наш зямляк абараніў дысертацыю на тэму «Руская лірыка XVIII стагоддзя». А ў Маскоўскім універсітэце абараніў доктарскую дысертацыю на тэму «Аб перыядычнасці сусветна-гістарычнага працэсу». Па просьбе таго ж Цыялкоўскага Аляксандр Чыжэўскі ў 1926 годзе ўпершыню ў свеце правёў першы эксперымент па касмічнай біялогіі. Там, у Калузе, у доме бацькі на працягу некалькі гадоў малады вучоны праводзіў шэраг іншых эксперыментальных даследаванняў у галіне аэраіанізацыі. Доследы далі канкрэтны вынік: адмоўныя зараджаныя іоны паветра дабратворна дзейнічаюць на жывыя арганізмы, станоўча зараджаныя аказваюць процілеглая дзеянне. Пазней Чыжэўскі атрымае аўтарскае пасведчанне на прыладу для іанізацыі газаў і вадкасцей.



Разам з правядзеннем розных доследаў і эксперыментаў Аляксандр Чыжэўскі працягвае атрымліваць адукацыю ў маскоўскіх навучальных установах. У 1915–1919 гадах ён вучыцца на фізіка-матэматычным факультэце Маскоўскага ўніверсітэта, а ў 1919–1922 гадах — на медыцынскім факультэце. З 1923 года Чыжэўскі актыўна праводзіць доследы па ўздзеянню іанізаванага паветра на экзатычных жывёл — малпаў, сланоў, бегемотаў і г. д. — у Практычнай лабараторыі зоапсіхалогіі ў Кутку Дурава (вядомыя артысты цырка, якія працуюць з жывёламі. — *С. Ч.*). Вучоны распрацоўвае аэраіянізатар для атрымання лёгкіх аэраіонаў, вядомы сёння як люстра Чыжэўскага. Яго працам у галіне аэраіанізацыі і геліябіялогіі надаюць вялікае значэнне за мяжой.

У 1931 годзе выйшла Пастанова Саўнаркама СССР аб рабоце прафесара А. Л. Чыжэўскага, яго ўзнагароджваюць прэміяй Саўнаркама СССР і прэміяй Наркамзема СССР. Чыжэўскі атрымлівае трохпакаёвую кватэру на Цвярскім бульвары ў цэнтры Масквы. Адначасова з гэтай пастановай засноўваецца Цэнтральная навукова-даследчая лабараторыя з шэрагам філіялаў і даследчых станцый. Дырэктарам яе быў прызначаны Аляксандр Чыжэўскі. Але праз пяць гадоў лабараторыя спыніла сваё існаванне. У гэтым немалую ролю сыгралі ворагі Чыжэўскага. Напраклад, у газеце «Правда» ў 1935 годзе нехта Завадоўскі апублікаваў артыкул пад загалоўкам «Враг под маской ученого», у якім ён абвінаваціў Чыжэўскага ў контррэвалюцыі. І толькі ў 1938 годзе Аляксандра Чыжэўскага зноў запрасілі на працу ў якасці навуковага кіраўніка па аэраіаніфікацыі Палаца Саветаў. У верасні 1939 года ў Нью-Ёрку адбыўся Першы Міжнародны кангрэс па біялагічнай фізіцы і касметычнай біялогіі, на якім Чыжэўскі быў выбраны ганаровым прэзідэнтам. Ён зноў неўзабаве запрашаецца ў Амерыку, але на гэты раз саветы яго не пускаюць.

Праз пэўны час над нашым земляком згушчаюцца хмары. А 21 студзеня 1942 года яго арыштоўваюць органы НКУС. Чыжэўскага асуджаюць на восем гадоў і адпраўляюць у Свярдлоўскую вобласць, а потым у Казахстан. Пасля ссылкі ў Маскву яму вярнуцца не дазволілі, таму яшчэ восем гадоў ён жыве ў Карагандзе. І толькі ў 1962 годзе Чыжэўскага поўнасцю рэабілітуюць.

Але і ў ссылцы Аляксандр Чыжэўскі заставаўся вучоным і паэтам, а таксама займаўся жывапісам, бо меў талент і да мастацтва. Дарэчы, жывапісу ён вучыўся ў Парыжы ў мастака Надзье — вучня вядомага імпрэсіяніста Дэга. У Карагандзе спадар Чыжэўскі робіць адкрыцці ў галіне гематалогіі. Упершыню ў гісторыі медыцыны дзякуючы даследаванням Чыжэўскага кроў стала ўспрымацца як адзіная дынамічная сістэма. Працы Чыжэўскага па электрагемадынаміцы адкрывалі новыя магчымасці для выяўлення больш дакладных дыягназаў многіх захворванняў і для пошукаў новых тэрапеўтычных метадаў.

Пасля сталінскіх лагераў Аляксандр Чыжэўскі вярнуўся ў Маскву. Там ён зноў арганізаваў лабараторыю іаніфікацыі ў трэсце «Саюзсантэхніка» пры Дзяржплане СССР і стаў яе навуковым кіраўніком…

20 снежня 1964 года Аляксандра Чыжэўскага не стала. Яго пахавалі ў Маскве на Пятніцкіх могілках. У адным са сваіх вершаў вучоны і паэт пісаў: «Я да вас прыйду, калі здзейсняцца тэрміны…». Сапраўды, толькі пасля ягонай смерці ў Расіі ацанілі працы беларуса Аляксандра Чыжэўскага ў галіне біяфізікі, медыцыны, літаратуры і мастацтва. У гонар яго адкрылі музей, праводзяцца навуковыя канферэнцыі, пішуцца і выдаюцца кнігі.



## «Ён беларус сярод узбекаў…»

Здымак, які сёння публікуецца, я з беларускім журналістам з Беластока Віталем Лубам адшукаў у фотаархіве беларускага тыднёвіка «Ніва». Хутчэй за ўсё яго ў 1970-х гадах прыслаў у тыднёвік з Ташкента беларус Іосіф Грыцук, які быў родам з вёскі Валілы, што на Беласточчыне.



• *Сцяпан Ліхадзіеўскі і Іосіф Грыцук*

Здымак быў зроблены ў Ташкенце (Узбекістан) у 1970-х гадах. На ім сфатаграфаваны два беларусы з нялёгкім лёсам — вышэйназваны Іосіф Грыцук з Беласточчыны і паэт, доктар філалагічных навук, прафесар са Случчыны Сцяпан Ліхадзіеўскі.

У сакавіку 1970 года «Ніва» надрукавала ліст з Ташкента. Аўтарам гэта ліста быў Іосіф Грыцук. У ім наш зямляк расказаў пра свой жыццёвы лёс і пра тое, як ён трапіў у сталіцу Узбекістана. Аказалася, што ў пошуках свабоды і хлеба наш суайчыннік спачатку ў 1929 годзе выехаў у Аргенціну. Там пражыў да 1955 года. У тым годзе пачалася рээміграцыя, і беларусы пачалі масава вяртацца на радзіму. Праз тры гады вярнуўся дамоў і валілаўскі юнак. Але яму дазволілі прыехаць не на Беларусь, а ў Ташкент. Там ажаніўся і па спецыяльнасці працаваў на мэблевай фабрыцы.

Упершыню Іосіф Грыцук з жонкай наведаў свае Валілы і Беласточчыну ў 1968 годзе. Трыццаць гадоў не быў на бацькаўшчыне. «Калі мне ўдалося за 30 гадоў разлукі з радзімай пабываць у роднай вёсцы, то я лёг на зямлю і цалаваў, як родную маці. Кожнае дрэва ў вёсцы, што запамятаў у маленстве, было мне мілае сэрцу. Усюды хацелася пабываць, усё паглядзець. Пайшоў да рэчкі. Супрасль акультурылі. Стала ручайком, няма ні рыбы, ні ракаў, бо дзе ж ім жыць? І дзецям няма дзе плаваць. Шкада, перастараліся меліяратары. Пачуўся скрып у паветры. Я ўзняў вочы ў неба: сумна скрыпелі жураўлі — ляцелі ў цёплы край. Пакідалі свой кут на паўгода, і то сумавалі. Можа, таму, што не ведалі, ці вернуцца. Мне жураўлі нагадвалі срып колаў воза майго дзядзькі з Падзалук, які вёз нашу сям'ю ў 1929 годзе на беластоцкі вакзал. Мы тады не ведалі, што нас чакае ў Аргенціне: уцякалі, як жураўлі, у цёплы край. Праводзіў я вачыма жураўлёў і думаў: я шчаслівы, бо вярнуўся на сваю радзіму, хоць на кароткі час...»* — прыгадваў Іосіф Грыцук. Завітаў наш зямляк у рэдакцыю беларускага тыднёвіка «Ніва» ў Беластоку. Тадышні рэдактар тыднёвіка Георгій Валкавыцкі спытаў у яго: «Чаму пасля Аргенціны не прыехалі на Беласточчыну?» Іосіф Грыцук уздыхнуў: «Даражэнькі, з гэтай марай я і баразніў акіян, але ж завезлі ў Ташкент. А калі я пачаў прасіцца на “родину”, адказалі: “Здесь тоже родина”, жыві, маўляў, і не рыпайся. І жыў...»

Пасля 30-гадовай ростані Іосіф Грыцук сустрэў у родных Валілах свайго школьнага сябра Юльяна Дзярманскага. На бацькаўшчыне выпісаў два экзэмпляры беларускай «Нівы» — адзін сабе ў Ташкент, другі — сваякам у Нясвіж. А калі вярнуўся ва Узбекістан, дасылаў невялікія допісы ў «Ніву», распавядаў на чужыне ўсім пра сваю Радзіму.

---

* Георгій Валкавыцкі. Віры. Беласток, 1991. С. 125.



У Ташкенце Іосіф Грыцук пазнаёміўся з многімі землякамі, якія там жылі. Асабліва шчыра беларус з Беласточчыны сябраваў са Сцяпанам Ліхадзіеўскім — беларускім пісьменнікам, лёс якога таксама быў няпростым.

Сцяпан Ліхадзіеўскі нарадзіўся на Случчыне ў беднай сялянскай сям'і. Са школы дасылаў невялікія допісы ў часопіс «Малады араты». У 1926 годзе паступіў у Белпедтэхнікум. Пасля тэхнікума вучыўся ў Белдзяржуніверсітэце і ў Мінскім вышэйшым педагагічным інстытуце. Як малады літаратар, нават атрымліваў персанальную стыпендыю ад Наркамасветы.

У 1928 годзе Сцяпан Ліхадзіеўскі ўступіў у літаратурнае аб'яднанне «Маладняк», быў сябрам БелАПП. Выдаў зборнікі вершаў «Рокаты дальняй прыстані» (1931), «Чырванеюць вішні» (1931), «Крывавыя знічкі на снезе» (1932), «Мы — маладая гвардыя» (1932).

Першае спачуванне малады літаратар заслужыў за тое, што па даручэнню калгацэнтра ў самым пачатку 1930-х гадоў праводзіў калектывізацыю ў беларускіх вёсках, у тым ліку і ў роднай вёсцы Баслаўцы на Случчыне. Другое спачуванне ён заслужыў за тое, што ў 1933 годзе беспадстаўна быў асуджаны на тры гады высылкі ў Казахстан. І трэцяе спачуванне ён заслужыў, што на Беларусь ужо ніколі не вярнуўся. Але Сцяпан Ліхадзіеўскі ці не адзіны з выпускнікоў Белпедтэхнікума, хто з «ворагаў народа» стаў прафесарам і доктарам навук.

Пасля адбыцця трохгадовага тэрміну Сцяпан Ліхадзіеўскі дамоў вяртацца пабаяўся, а прыехаў у Ташкент і быў залічаны на трэці курс мясцовага пединстытута. Адначасова ў 1937–1939 гадах працаваў выкладчыкам рускай мовы і літаратуры ў школах Ташкента і Томска. Скончыў Томскі пединстытут і аспірантуру Ташкенцкага інстытута. З цягам часу беларус абараніў кандыдацкую, а потым доктарскую дысертацыі па твор-

часці Анатоля Франса, стаў прафесарам Ташкенцкага ўніверсітэта, загадваў кафедрай замежнай літаратуры. Ён паспяхова спалучаў педагагічную дзейнасць з літаратурнай. Падрыхтаваў да выдання і выпусціў у свет у Мінску зборнікі вершаў і перакладаў «Берасцянка жывых трывог» (1962) і «Вянкі камунарам» (1974). Актыўна перакладаў на беларускую мову вершы ўзбекскіх паэтаў, творы французскіх і нямецкіх пісьменнікаў. Апублікаваў шэраг прац пра спадчыну Анатоля Франца, матэрыялы па ўзбекскай літаратуры, яе сувязі з беларускай літаратурай. Пісьменнік заўсёды сумаваў па Беларусі. А аднойчы, па незразумелай прычыне ад другой асобы, ён напісаў такія радкі:

Жыве ў Ташкенце чвэртку веку,
Не знае, дзе закончыць век.
Ён беларус сярод узбекаў,
Між беларусаў ён узбек.

Беларусы сярод узбекаў так і засталіся на далёкай зямлі Сярэдняй Азіі. А гэты фотаздымак сёння проста нагадаў пра іх.

## Гісторык Аляксандра Бергман

У 1990-х гадах, у пошуках слядоў пра дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі Максіма Бурсевіча, я пазнаёміўся з беларускім гісторыкам з Варшавы Аляксандрай Рыгораўнай Бергман. Максім Бурсевіч — мой зямляк, якога 9 кастрычніка 1937 года тройкай УНКУС асудзілі да вышэйшай меры пакарання. А гісторык Аляксандра Бергман усё сваё жыццё даследавала дзейнасць дзеячаў КПЗБ і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, у тым ліку Максіма Бурсевіча, Браніслава Тарашкевіча, Антона Луцкевіча, Ігната Дварчаніна, Веры Харужай, Сымона Рак-Міхайлоўскага, Паўла Валошына, Леапольда





• *Аляксандра Бергман (справа) з Янінай Юзэфовіч — роднай сястрой Леапольда Родзевіча, 1977 г.*

Родзевіча і іншых асоб. Таму я звярнуўся да Аляксандры Бергман дапамагчы мне ў пошуках звестах пра майго земляка Максіма Бурсевіча. Яна не любіла пісаць вялікіх пісем, як, напрыклад, Зоська Верас ці Ларыса Геніюш. Аляксандра Рыгораўна пісала мала, але канкрэтна і ясна. Ды й аўтографы на яе кнігах складаліся з некалькіх слоў. На кнізе «Ігнат Дварчанін — беларускі палітык і вучоны», якую напісалі сумесна Аляксандр Баршчэўскі, Ежы Тамашэўскі і Аляксандра Бергман і якую яна мне даслала з Варшавы, гісторык падпісала проста: «Сяргею Чыгрыну — А. Бергман. Warszawa, 24.09.1992». А яе асабістую кнігу на польскай мове «Справы беларускія ў II Рэчы Паспалітай» (Варшава, 1984) мне ў 1992 годзе падаравала гродзенская паэтка Данута Бічэль. «Я табе, Сяргей, хачу падараваць адну добрую кнігу. У цябе такой няма. Ды і гэта твая тэма...» — сказала Данута Янаўна і ўручыла мне кнігу Аляксандры Бергман. А вось яшчэ адно выданне слаў-

нага гісторыка пра Браніслава Тарашкевіча — «Слова пра Браніслава Тарашкевіча» — мне набыць так і не ўдалося. Яна выйшла на польскай мове ў Варшаве ў 1977 годзе і па-беларуску ў Мінску ў 1996 годзе.

Пішучы пра дзеячаў Заходняй Беларусі, Аляксандра Бергман шукала ў Беларусі, Літве і Польшчы сваякоў іх, ездзіла да іх, перапісвалася з імі. Нядаўна ўнучка Максіма Бурсевіча — Таццяна Ігараўна Бурсевіч з Магілёва — перадала мне некалькі пісем Аляксандры Бергман да яе бацькі Ігара Максімавіча Бурсевіча. Чытаючы гэтыя лісты, заўважаеш, як Аляксандру Рыгораўну да драбніц усё цікавіла, кожны год жыцця дзеяча Беларускай сялянска-рабочай Грамады Максіма Бурсевіча, кожны месяц яго жыцця, дзейнасці: дзе ён быў, што рабіў, чаму ён там быў, калі вярнуўся, навошта туды паехаў, што там рабіў і г. д. Дарэчы, пра Максіма Бурсевіча Аляксандра Бергман напісала два артыкулы: адзін апублікавала ў беластоцкім «Беларускім календары», другі — у тыднёвіку беларусаў Польшчы «Ніва». Вялікі артыкул пра Максіма Бурсевіча яна ўключыла і ў сваю кнігу «Справы беларускія ў II Рэчы Паспалітай». Дарэчы, у гэтую кнігу ўвайшлі і яе даследаванні пра жыццё і дзейнасць не толькі Максіма Бурсевіча, але і пра Браніслава Тарашкевіча, Антона Луцкевіча, Леапольда Родзевіча, Ігната Дварчаніна, Сымона Рак-Міхайлоўскага, Паўла Валошына, а таксама артыкулы пра кампартыю Заходняй Беларусі, пра дзейнасць Беларускай сялянска-работніцкай Грамады і іншыя. Распавядаючы, напрыклад, пра Ігната Дварчаніна, Аляксандра Бергман параўноўвала яго з Браніславам Тарашкевічам. Гісторык пісала: «Абодва яны надта хацелі здабыць грунтоўную адукацыю. Ці гэтае імкненне паходзіла са свядомасці недахопу ўласнай беларускай інтэлігенцыі, ці з уласцівасцей характараў — прагі ведаў: у аднаго і другога гэтае імкненне было магутнае, і яны паддаваліся яму з захапленнем.



Абодва паходзілі з вёскі, з сялянскіх сем’яў. Абодва прыйшлі ў рэвалюцыйны рух у сталым узросце, з вышэйшай адукацыяй, прыйшлі з нацыянальнага лагера і перажывалі працяглую эвалюцыю светапогляду. Абодва дружылі. Хоць, праўду кажучы, Тарашкевіч быў асобай больш выдатнай і таленавітай. Час спрыяў болей Тарашкевічу. Ён пачаў сваю сеймавую кар’еру тады, калі быў сам сабе і рулём, і ветразем. Эвалюцыя яго палітычных поглядаў праходзіла на вачах соцень людзей. І калі б пасля яго нічога іншага не засталося, апрача адных сеймавых прамоў і іншых тагачасных сеймавых дакументаў, можна было б поўнасцю аднавіць яго постаць як грамадска-палітычнага дзеяча. Дварчанін у адрозненне ад Тарашкевіча прайшоў сваю эвалюцыю на чужыне, у асяроддзі малой групы беларускіх пісьменнікаў у чэшскай Празе (Ігнат Дварчанін у 1921–1925 гадах вучыўся ў Карлавым універсітэце ў Празе. — *С. Ч.*). Таму, відаць, выказванні тых, хто яшчэ памятаў Тарашкевіча, былі адназначныя, адносна ж Дварчаніна — не такія адназначныя: адны казалі — ён быў камуністам, другія — народнікам, а яшчэ іншыя — заўсёды быў нацыяналістам...».

Гісторык Аляксандра Бергман, як прыгадвае доктар філалагічных навук Арсень Ліс, дакументальна сведчыць, што якраз у адзіночцы № 45 гродзенскай турмы, куды Браніслаў Тарашкевіч быў у свой час перавезены з варшаўскай цытадэлі ў красавіку 1931 года, ён скончыў да студзеня 1932 года пераклад шэдэўра Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш» і прыступіў да напісання гістарычнай граматыкі беларускай мовы. Дарэчы, Арсень Ліс таксама быў знаёмы з Аляксандрай Бергман. Нядаўна я запытаўся ў Арсеня Сяргеевіча, як і калі яны пазнаёміліся. «Як гісторык, сумленны і ўнікнёны даследчык беларушчыны, Аляксандра Бергман заслугоўвае ўдзячнай памяці. Шкадую толькі, што, уводзячы Аляксандру Бергман у “Энцыклапедыю гісторыі Беларусі”, назваў у асноўным галоўныя яе працы, абмінуў публікацыі

ёю беларускіх персаналіяў у паважных польскіх перыядычных выданнях. Што да нашых узаемадачыненняў з паважаным гістарыёграфам, то былі яны працяглыя і насілі пераважна характар ліставання, хоць былі і асабістыя сустрэчы ў Мінску і ў Варшаве. Першай зачапіла мяне сама пані Аляксандра пасля маіх публікацый пра Тарашкевіча. Я выказаў меркаванне, што Б. Традыцыя — гэта псеўданім Тарашкевіча, за што быў рэзкавата пакрытыкаваны дасведчанай у гісторыі КПЗБ і ў цэлым вызваленчым руху беларусаў даследчыцай. Задаваных мне пытанняў, на жаль, не помню. Трэба было б добра пакорпацца ў сотні, не меней, адрасаваных мне яе лістоў. Не маю, выбачай, такой змогі. Моцна стаптаўся напрыканцы 8-га дзясятка. Помніцца яшчэ, Аляксандра Рыгораўна не верыла, што зусім страчаны беларускі пераклад “Іліяды” Гамера, падштурхоўвала і мяне шукаць яго. Але ж ты ведаеш, што інквізітарскія кастры XX стагоддзя былі значна большыя за сярэднявечныя. Маштабы іх не паддаюцца вымярэнню. Помню, што навёў паважаную пані даследчыцу на ўзнаўленне памяці Уладзіміра Самойлы. Напісала досыць паважны пра яго нарыс. Вельмі сімпатычным быў, дарэчы, і яе муж пан Стэфан. Не памятаю ўжо ў якім польскім часопісе апублікаваў ён “Пастулаты беларускія” Браніслава Тарашкевіча, якія я не здолеў даць пры выданні выбранага з твораў нашага славутага палітыка і вучонага. Да выдання манаграфіі А. Бергман на беларускую мову я напісаў прадмову...» — расказаў Арсень Ліс.

Сапраўды, пра даследаванні Арсенем Лісам жыцця і творчасці Браніслава Тарашкевіча, маецца на ўвазе яго кніга «Браніслаў Тарашкевіч» (Мінск, 1966), Аляксандра Бергман напісала цэлы артыкул, які так і называўся «Арсень Ліс аб Браніславу Тарашкевічу» і апублікавала ў беларускім беластоцкім тыднёвіку «Ніва» 19 снежня 1966 года. У ім гісторык выказала свае пэўныя суб’ектыўныя і аб’ектыўныя заўвагі па кнізе тады яшчэ маладога 32-гадовага даследчыка Заходняй Беларусі.



А цяпер некалькі біяграфічных звестак пра Аляксандру Бергман (дзявочае прозвішча Кучкоўская). Нарадзілася яна 1 мая 1906 года ў Гродне ў сям’і мяшчан. Вучылася ў Гродзенскай прыватнай гімназіі Вальдмана, дзе далучылася да камуністычнага руху. У 1923 годзе пачала працу ў кравецкай майстэрні. У 1924 годзе была абрана ў Гродзенскі акружны камітэт камуністычнага саюза моладзі. Але за тое, што не здолела справіцца з раскольніцкімі плынямі «Сэцэсіі» ў мясцовай камсамольскай арганізацыі, была знята з пасады сакратара загадам ЦК КСМ Заходняй Беларусі. У 1925 годзе, як інструктар камсамола Заходняй Беларусі, выязджала з Гродна ў Вільню, затым у Брэст, Баранавічы.

У 1927 годзе будучы гісторык вучылася ў партшколе КПЗБ у Мінску. У 1928 годзе была ўдзельніцай першага з’езда КПЗБ. У 1929–1931 гадах у Маскве працавала на электразаводзе і вучылася ў Міжнароднай ленінскай школе, потым у партшколе КПЗБ у Мінску.

У канцы 1935 года Аляксандра Бергман была рэпрэсавана савецкімі ўладамі. Знаходзілася ў канцлагерах у Кіраве, Комі АССР, Кемераўскай вобласці. Беларуска-польскі гісторык Алена Глагоўская на гэты конт выказвае сваю думку: «Яўрэям у мінулым стагоддзі прыйшлося перажыць халакост — амаль татальнае знішчэнне нацыі. Аляксандры і Стэфану Бергманам ды іхняй дачушцы Зосі шчаслівы, можна сказаць, лёс падараваў жыццё, хаця не ў райскім шчасці, толькі ў разлуцы. Калі сёння чытаю пра кашмар лагернага жыцця сталінскіх часоў і генацыд яўрэяў падчас Другой сусветнай вайны, міжволі думаю: дзе тады лепш было быць яўрэю? Аляксандра Бергман у той час была ў сібірскіх лагерах. Так, яўрэйка ды камуністка была арыштавана ў Гомелі ў снежні 1935 года. Раней, напярэдадні ўгодкаў кастрычніцкай рэвалюцыі, быў арыштаваны яе муж — Стэфан, таксама камуніст.

Ніхто на зважаў на тое, што ў іх было маленькае дзіця — Зося, якой у ліпені гэтага ж года споўніўся ўсяго годзік. З верай у камуністычныя ідэалы абое трапілі ў «рай». Іхнія біяграфіі — доказ таго, што і яўрэі камуністычных поглядаў не пазбеглі сталінскіх лагераў». Гэта так. Вызвалілі Аляксандру Бергман у 1943 годзе, а ў 1945 годзе яна выехала ў Польшчу.

У 1945–1948 гадах мужная жанчына працавала на паліграфічным камбінаце ў Лодзі, а потым пераехала ў Варшаву. Там пэўны час працавала рэферэнткай, потым — кіраўніком аддзела просьбаў, прашэнняў, памілаванняў і датэрміновых вызваленняў у выканаўчым бюро Спецыяльнай камісіі змагання са злоўжываннямі і завочна закончыла Партыйную школу пры ЦК ПАРП.

У 1956–1957 гадах гісторык працавала ў рэдакцыі часопіса «Życie partyi». А калі перайшла на пенсію, то пачала самастойна займацца навукова-даследчыцкай дзейнасцю.

Пражыла Аляксандра Рыгораўна Бергман амаль сто гадоў, яна памерла ў 2005 годзе, пакінуўшы нам у спадчыну звыш 40 артыкулаў і дзве фундаментальныя манаграфіі — пра беларускія справы Рэчы Паспалітай і пра Браніслава Тарашкевіча. Усё напісанае ёй пра Беларусь і яе славутых сыноў даўно просіцца пад адну вокладку самастойнага выдання.

## Верш пра вёску Козлікі

Шукаючы творы старэйшага беларускага паэта Анатоля Іверса (1912–1999) для ягонай кнігі паэтычнай спадчыны «Аўсяныя росы», я перагартаў падшыўкі Слонімскай раённай газеты за 1960–1970 гады. У адным з нумароў газеты за 1977 год натрапіў на падборку вершаў паэта, прысвечаных Польшчы. Якраз тады Анатоль Іверс наведаў суседнюю дзяржаву. Ён пабываў у Плоцку, дзе ў 1930-х гадах служыў у поль-



скай кавалерыі. Наведаў паэт і Беласточчыну, праязджаў праз вёску Козлікі, у якой нарадзіўся Герой Савецкага Саюза, Маршал Савецкага Саюза беларус Васіль Сакалоўскі (1897–1968).



• *Анатоль Іверс*

Пасля вяртання з Польшчы Анатоль Іверс напісаў цыкл вершаў, прысвечаных дзяржаве-суседцы: «Працуе Вісла», «Зацесна Нарве ў берагах», «У Плоцку», «Над Віслай». Яны былі надрукаваны не толькі ў слонімскай раённай газеце, але і ў беластоцкім тыднёвіку «Ніва». У слонімскай падборцы быў яшчэ адзін верш, які называецца «Вёска Козлікі», а ў тыднёвіку «Ніва» я яго не знайшоў. Вось гэты верш.

Ад Беластока ехалі мы ў Бельск,
І справа вёска Козлікі мільгнула.
Цвілі сады, і яблынева бель
Маё дзяцінства моцна закранула.
Сяло заўсёды мілае. А тут
Радзіўся слаўны маршал Сакалоўскі.
Здаецца, дрэвы тут бялей цвітуць
І сыплюць квецень у другія вёскі.
О, колькі вёсак, дальніх берагоў
Сустрэлі шчасце — свята Перамогі.
Цяжэй было б, напэўна, без яго
Разбіць фашызм, прыйсці ў свае парогі...
Святыя месцы, будзьце на зямлі,
Каб мы маглі прыехаць і наведаць,
Дарогі тыя ўспомніць, што прайшлі,
І болей — радасцяў, і меней — бедаў.

*Анатоль Іверс, 1977 г.*

## Аляксей Пысін і Беласточчына

Жыццё і творчасць беларускага паэта Аляксея Пысіна (1920–1981) былі звязаны з Беласточчынай, хаця сам паэт нарадзіўся і жыў далёка ад беластоцкай зямлі — на Магілёўшчыне. Беласточчыну ён палюбіў, відаць, тады, калі 19-гадовага юнака ў 1939 годзе накіравалі ў Бельск. А было гэта якраз пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР. Аляксей Пысін у той час вучыўся на другім курсе Мінскага камуністычнага інстытута журналістыкі. Студэнта Пысіна датэрмінова і накіроўваюць на працу ў Бельскую раённую газету на пасаду літсупрацоўніка. Там ён вучыўся пісаць, сустракаўся з беларусамі Бельшчыны, гутарыў пра жыццё, заводзіў першыя знаёмствы. Калі б не вайна, Аляксей Пысін мог застацца на Беласточчыне назаўсёды. Але юнака забралі на фронт. Хутка пачалося адступленне аж да Гомеля, потым эвакуацыя на Урал, у запасны полк, а далей шляхі вялі на фронт...

Вайну прайшоў сувязістам, двойчы быў паранены. Дамоў Аляксей Пысін дэмабілізаваўся ў 1946 годзе. Але лёс яго больш не закінуў у Бельск, бо Беласточчына ўжо стала польскай тэрыторыяй. Праўда, Аляксей Пысін заўсёды адсочваў падзеі, якія адбываліся на Беласточчыне. У 1965 годзе, калі ў Гарадку пачалі будаваць Дом культуры, дзе было месца і для бібліятэкі, ён напісаў ліст у рэдакцыю беларускага тыднёвіка «Ніва» ў Беласток: «Дарагія сябры! Прашу неяк пераслаць маю кніжку Дому культуры ў Гарадку. Аляксей Пысін. Магілёў, 14 жніўня (1965)»*. Гэта быў зборнік вершаў Аляксея Пысіна «Мае мерыдыяны».

Рэдакцыя беларускага тыднёвіка «Ніва», вядома ж, перадала кнігу Гарадоцкаму Дому культуры. А рэдактар тыднёвіка Георгій Валкавыцкі даслаў у Магілёў

* Георгій Валкавыцкі. Віры. Беласток, 1991. С. 83.



Аляксею Пысіну «Ніву», «Беларускі каляндар» і літаратурны альманах «Белавежа». Аляксей Пысін, калі атрымаў бандэроль, вельмі ўзрадаваўся, расхваляваўся. Ён адразу напісаў пісьмо: «Паважаны таварыш Валкавыцкі! Сардэчна ўдзячны за "Ніву", "Беларускі каляндар", "Белавежу" і тое задавальненне, якое атрымліваю ад чытання твораў беластоцкіх журналістаў і пісьменнікаў. У мяне даўняя мара: наведаць Бельск, у гэтым горадзе застала мяне мінулая вайна. На нашым з'ездзе (у красавіку) буду размаўляць на гэту тэму ў Саюзе пісьменнікаў. Дасылаю новыя вершы. Прывітанне ўсім вашым супрацоўнікам. З глыбокай павагай А. Пысін. Магілёў, 13.02.1966 г.»*

Рэдактар адразу аддаў вершы ў друк. А 20 сакавіка 1966 года тыднёвік «Ніва» на першай старонцы друкуе сем новых вершаў паэта. Пазней гэтыя вершы Аляксея Пысіна ўвойдуць у яго кнігу паэзіі «Твае далоні» (1967), за якую ён у 1968 годзе атрымае Дзяржаўную прэмію Беларусі імя Янкі Купалы.

Аляксей Пысін вельмі любіў чытаць беларускі тыднёвік «Ніва». Калі ён яго атрымліваў, то чытаў усё да драбніц. А потым аб прачытаным расказваў іншым магілёўскім літаратарам. Ці часам і ім даваў пачытаць «Ніву». 16 лістапада 1966 года ён піша Георгію Валкавыцкаму ліст, у якім просіць аформіць падпіску «Нівы» на 1967 год для сябе, а таксама для свайго сябра — магілёўскага пісьменніка-сатырыка Івана Аношкіна. Магчыма, рэдакцыя ім выпісала «Ніву» і яны шмат гадоў яе чыталі. А 23 кастрычніка 1966 года «Ніва» на першай старонцы апублікавала яшчэ тры вершы Аляксея Пысіна: «Агонь ці кроў сцякае на дубровах...», «Рэдка бачым мы птушак сваіх...», «Не ўсе лясы мае згарэлі...», якія таксама ўвайшлі ў кнігу паэта «Твае далоні».

* Георгій Валкавыцкі. Віры. Беласток, 1991. С. 95.

Вершы Аляксея Пысіна друкаваліся і пазней у тыднёвіку «Ніва». Але самым шчаслівым для паэта быў 1980 год. У студзені ў «Ніве» былі змешчаны тры вершы паэта, а 19 і 20 чэрвеня паэт сам прыехаў на Беласточчыну. Прыехаў з пісьменнікам Аляксеем Гардзіцкім. Паездка была для Аляксея Пысіна вяртаннем у маладосць. Госці з Беларусі ў той час цікавіліся жыццём беларусаў на Беласточчыне, найперш іх культурнай і літаратурнай творчасцю. Аляксей Пысін з Аляксеем Гардзіцкім пабывалі ў рэдакцыі «Нівы», пазнаёміліся з яе супрацоўнікамі, вялі гутаркі пра ўзнікненне пры Беларускім грамадска-культурным таварыстве і «Ніве» літаратурнага асяродку, пра яго дзейнасць. Беларускія пісьменнікі расказалі пра літаратурныя справы ў Беларусі, пра культуру і гісторыю. Затым іх знаёмілі з Беластокам.

Візіт Аляксея Пысіна і Аляксея Гардзіцкага ў «Ніве» асвятлялі гісторык і журналіст Мікола Гайдук, паэт і журналіст Міхась Шаховіч. Першы пісаў, другі фатаграфаваў. «Аляксей Пысін, — паведамляў Мікола Гайдук 13 ліпеня 1980 года, — зачараваў дэкламацыяй сваіх вершаў з розных гадоў — і тых, што паўсталі яшчэ ў школьныя гады, і тых, якія нарадзіліся ў апошнія дні. Уражвала глыбіня думак і пачуццяў гэтай самабытнай лірыкі. Яна перапляталася ў нейкае лагічнае цэлае з успамінамі паэта пра яго змаганне на розных франтах вайны, працу ў мірны час, бо з гэтага і бярэцца яе радавод».

На другі дзень беларускія літаратары наведалі Бельск і Белавежу. У Бельскім беларускім ліцэі госці сустракаліся з ліцэістамі і настаўнікамі, наведалі спецыяльны кабінет-музей, прысвечаны Беларускай сялянска-работніцкай Грамадзе і яе заснавальніку і кіраўніку Браніславу Тарашкевічу, імя якое нададзена ліцэю. Потым госці наведалі Бельскі Дом культуры, дзе сустрэліся з групай маладых мясцовых літаратараў.



Падчас візіту ў Бельск Аляксей Пысін наведаў і брацкую магілу ў Пiліцкім лесе, дзе пахаваны яго сябры і проста знаёмыя, якіх да вайны ведаў паэт. Усе яны загінулі ў гады Другой сусветнай вайны. І як пісаў журналіст Мікола Гайдук, «балючае было вяртанне ў маладосць для Аляксея Пысіна. І хіба толькі пошум Белавежы змог суцішыць боль у душы паэта».

Калі Аляксей Пысін наведаў рэдакцыю «Нівы», ён абяцаў рэдактару Георгію Валкавыцкаму, што напіша ўспаміны з бельскай маладосці. Але гэтыя ўспаміны Аляксей Васільевіч так і не напісаў. А ў «Ніву» прыслаў толькі тры свае вершы: «Балада сагнутых бабуль», «Даль вечнасці без берагоў…» і «Заспявай, мой дружа, заспявай…». Яны былі апублікаваны на першай старонцы «Нівы» 18 студзеня 1981 года. У адным з гэтых вершаў вялікі беларускі паэт пісаў:

> Даль вечнасці без берагоў,
> Ды час мы адлічваць павінны…

У «даль вечнасці» Аляксей Пысін адышоў 27 жніўня 1981 года. Ён памёр у Магілёве і пахаваны там на Польскіх (якое супадзенне!) могілках на вуліцы Лазарэнкі.

*2013*

## Трагічны лёс святара з Новай Волі

Мікалай Нядзведскі нарадзіўся 8 мая 1890 года ў вёсцы Новая Воля Беластоцкага павета ў сям'і беларускага святара Іаана Нядзведскага (1856–1925). Сям'я святара была даволі вялікая — ажно дзесяць дзяцей. Але ніхто з іх не звязаў свой лёс са служэннем Богу, толькі адзін Мікалай. Ён скончыў духоўную семінарыю і быў пасвячоны ў святары.

Айцец Мікалай пасля семінарыі ажаніўся з сваёй зямлячкай Верай. Дзяўчына скончыла Пецярбургскі



• *Мікалай Нядзведскі, 1930-я гг.*

Смольны інстытут, працавала рэгентам, мела добрыя музычныя здольнасці і прыгожы голас. А яшчэ яна ў інстытуце атрымала і выдатныя медыцынскія веды. Добра разбіралася ў лекавых травах, заўсёды дапамагала землякам, лячыла іх, давала парады. Людзі шчыра да яе адносіліся, любілі яе, паважалі, звярталіся па дапамогу.

Вера і Мікалай Нядзведскія ў Новай Волі адкрылі прыватную школу. Там яны бясплатна вучылі мясцовых хлопчыкаў і дзяўчынак. А самых бедных вясковых дзяцей Нядзведскія кармілі і дапамагалі адзеннем. Дзяцей у іх не было, таму на выхаванне яны ўзялі дзяўчынку-сірату Лаліту, якую гадавалі і шчыра любілі.

У 1921 годзе святар Мікалай Нядзведскі з сям'ёй пакінуў Новую Волю і пераехаў на Наваградчыну ў вёску Ваўкавічы. На той час вёска была даволі вялікая, у ёй заставалася шмат моладзі.

На ўзгорку стаяла царква. Драўляная, вялікая, пабудаваная была ў гонар перамогі рускіх у вайне 1812 года над Напалеонам. Вось там і служыў айцец Мікалай.

Каля царквы былі могілкі. Іх айцец Мікалай часта асвячаў, маліўся, хрэсныя ходы наладжваў вакол храма. Людзей у царкву прыходзіла шмат. Акрамя ваўкавіцкіх вернікаў сюды наведваліся праваслаўныя з суседніх вёсак Наваградчыны. А на Пакровы Прасвятой Багародзіцы адбываўся фэст, наладжваліся розныя кірмашы, збіраліся людзі, сустракаліся, вялі гутаркі пра жыццё-быццё, якое ішло сваёй калейкай.



У канцы 1930-х гадоў людзей у Ваўкавічах нібы падмянілі. Ды яны іншымі сталі па ўсёй Заходняй Беларусі. Многія трымалі ў хатах зброю, нават святары, каб у любы момант абараніць сябе ад розных бандытаў ці рабаўнікоў. Але ў айца Мікалая Нядзведскага зброі не было ніколі. Яго зброяй былі малітвы і спадзяванні на волю Божую. Ён памятаў словы Пісання пра тое, што без волі гэтай і волас з галавы не ўпадзе і што кожнаму Гасподзь прызначыў свой шлях да ратавання.

У верасні 1939 года, калі вёска Ваўкавічы трапіла ў паласу безуладдзя, бо польская ўлада знікла, а савецкая не ўсталёўвалася, пад раніцу да хаты святара прыйшлі некалькі чалавек. Гэта былі жыхары вёскі Ваўкавічы і суседніх вёсак, чалавек 5–7. Яны з'яўляліся мясцовымі актывістамі, членамі падпольнай партыйнай ячэйкі. Хата святара знаходзілася насупраць царквы.

Бандыты пастукалі ў дзверы, а потым у вокны. Бацюшка прачнуўся, адчыніў дзверы і пусціў «гасцей» у хату. Рабаўнікі адразу пачалі шукаць залаты крыж, срэбнае царкоўнае начынне, іншыя каштоўнасці, але нічога не знайшлі, бо ўсяго гэтага ў Мікалая Нядзведскага не было. Па іх паводзінах айцец Мікалай адразу здагадаўся, што нязваныя госці на гэтым не спыняцца, і папрасіў толькі, каб яны не чапалі Веру і Лаліту. Але бандыты пачалі іх біць, а потым забралі святара і вывелі на вуліцу.

Бацюшку павялі праз вёску. І не проста вялі, а па дарозе збівалі, вырывалі бараду і вусы, білі жалезным прутам па баках, ламаючы рэбры. Калі праходзілі праз вёску Амневічы, айца Мікалая прымусілі паўзці на карачках, а адзін з катаў сеў на яго верхам. Мясцовыя жыхары ўсё бачылі, назіралі з-за фіранак, але абараніць свайго бацюшку ніхто не выйшаў, бо баяліся за сябе і за сваю сям'ю. Ніхто не абараніў чалавека, які хрысціў іх дзяцей, вянчаў, хаваў памерлых, які быў блізкім

чалавекам у кожным доме, у кожнай сям'і. Толькі некаторыя падумалі: чаму ён не супраціўляецца? Святар быў фізічна моцны, здаровы, ён мог бы іх усіх раскідаць у розныя бакі. Але святар гэтага не зрабіў. Ён толькі пытаўся: «Браткі, за што ж вы мяне?» Шчыра маліўся і казаў: «Даруй ім, Госпадзі, бо не ведаюць, што яны робяць...»

Потым бандыты пайшлі на хутар, дзе скалечанага святара на два дні закрылі ў склепе. А на трэці дзень яго павялі далей у лес каля вёскі Сянежыцы. Спачатку прымусілі яго капаць сабе магілу. Потым адрэзалі вушы, выкалалі вочы, вырвалі язык... Абвязалі вяроўкай ногі, перакінулі цела праз сук ды апусцілі ў магілу...

Некалькі дзён матушка Вера шукала айца Мікалая. Яна ведала ў твар забойцаў, ведала іх прозвішчы, але маўчала. Падчас вайны да Веры Нядзведскай прыходзілі хлопцы з атрада Барыса Рагулі і прасілі, каб яна сказала, хто закатаваў айца Мікалая. Але жанчына, уздыхнуўшы, казала: «Я яго ўжо не падыму, таму, хто забіраў яго з хаты і катаваў, я нікому нічога не скажу».

Месца, дзе закатавалі святара Мікалая Нядзведскага, на Наваградчыне называюць людзі Наваградскай Галгофай. А лёс тых, хто гэта злачынства здзейсніў, быў трагічным. Адзін з бандытаў патануў у возеры, двое павесіліся, чацвёртага п'янага задушыў возам конь, іншыя — звар'яцелі.

Вера Нядзведская ў апошнія гады свайго жыцця жыла пры Свята-Духавым манастыры ў Вільні. Пасля смерці мужа яна заўсёды апраналася толькі ў чорную вопратку. Дачка Лаліта скончыла гімназію і выйшла замуж за лётчыка. У 1965 годзе яна з сям'ёй пераехала жыць у Вільню. Далейшы лёс яе невядомы.

8 кастрычніка 2009 года ў вёсцы Ваўкавічы на Наваградчыне архіепіскапам Наваградскім і Лідскім Гурыем была асвечана царква. Штогод 9 кастрычніка ад царквы ідзе хрэсны ход на Наваградскую Галгофу, дзе закатавалі айца Мікалая.



Рэжысёр Святлана Дзёмчанка пра трагічны лёс святара з Новай Волі і з Ваўкавічаў Мікалая Нядзведскага зняла дакументальны фільм, які так і называецца «Наваградская Галгофа».

## Праваслаўны святар Павел Лысуха

Праваслаўны святар протаіерэй Павел Лысуха (1892–1954) 27 гадоў адслужыў у Свята-Мікалаеўскім праваслаўным кафедральным саборы ў Беластоку.



• *Павел Лысуха, 1950 г.*

Напісаць пра Паўла Лысуху прапаноўваў мне беларускі праваслаўны дзеяч на эміграцыі Барыс Данілюк (1923–2011). У адным са сваіх лістоў Барыс Данілюк паведамляў, што Павел Лысуха меў братоў Мікалая, Серафіма, Аркадзя і сястру Тэклю. «Тэкля была замужам за маім дзядзькам Пракопам з вёскі Сурынка Слонімскага павета. Наймалодшы брат Аркадзь быў кульгавы, але падвучыўся царкоўным спевам і ў 1930-х гадах аж да вайны быў дзякам ва ўніяцкай місіі ў Альбярціне пад Слонімам. Жонка айца Паўла паходзіла, здаецца, з Жыровічаў. У 1930 годзе, калі мы жылі ў вёсцы Шчара на Слонімшчыне, яны прыязджалі нас адведваць. Пра лёс іншых братоў Паўла Лысухі і іх сем'і нічога не ведаю», — пісаў Барыс Данілюк.

І я пачаў пошукі. Спачатку завітаў на радзіму Паўла Лысухі — у вёску Сурынка Слонімскага раёна. Звярнуўся да настаяцеля храма святога прарока Іллі ў вёсцы

Сурынка айца Генадзя Логіна. Айцец Генадзь паабяцаў дапамагчы, бо ён чуў пра Паўла Лысуху, а ў вёсцы Сурынка амаль палова яе жыхароў маюць прозвішча Лысуха. І праўда, праз некалькі дзён айцец Генадзь мне патэлефанаваў і сказаў, што ў вёсцы жыве пляменнік Паўла Лысухі Уладзімір.

Спадар Уладзімір Лысуха жыве адзін. Жонка памерла пяць гадоў таму. Прыгадваючы яе, стары чалавек заплакаў. Але потым супакоіўся і пачаў распавядаць пра айца Паўла Лысуху. «Павел Лысуха — мой родны дзядзька, бацькаў родны брат. Я трохі памятаю яго. Ён жыў і служыў у Беластоку, да нас у Сурынку прыязджаў рэдка. Але калі гасцяваў на бацькаўшчыне, то любіў пасядзець у агародзе каля жыта. Ён садзіўся на табурэтку і доўга глядзеў, як каласуе жыта. І ўсё нешта думаў. У мяне ў памяці гэта засталося на ўсё жыццё», — пачаў распавядаць Уладзімір Лысуха.

— А вы чый сын? — пытаюся ў спадара Уладзіміра.

— Я сын Мікалая Лысухі, роднага брата Паўла. Іх была чацвёра сыноў. Павел быў старэйшым. Зямлі было мала, таму, каб не дзяліцца з братамі і не спрачацца з-за зямлі, Павел пакінуў вёску і паехаў у Беласток. Ажаніўся. У іх была дачка Раіса. Але яна ўжо таксама памерла ў Беластоку.

— А вы ў царкву ходзіце?

— Вядома ж. Мне і бацюшка наш паведаміў, што вы шукаеце сваякоў Паўла Лысухі.

— Якім яшчэ вам запомніўся дзядзька Павел?

— Я памятаю мала, бо бачыў яго рэдка. Але ведаю, што ён яшчэ добра іграў на скрыпцы. Наогул, дзядзька Павел быў вельмі таленавітым чалавекам.

З Сурынкі — роднай вёскі Паўла Лысухі, мой шлях ляжаў у Слонім да ўнучкі Уладзіміра і праўнучкі Паўла Лысухаў — Наталлі. Спадарыня Наталля захавала некалькі здымкаў Паўла Лысухі. Яна ведала, што яе



прадзед быў вядомым у Беластоку святаром, але больш пра яго нічога не чула.

Павел Лысуха нарадзіўся ў вёсцы Сурынка Слонімскага павета ў звычайнай беларускай сялянскай сям'і. Сям'я была бедная, таму пра вучобу хлопчыка і размовы быць не магло. Але Паўлік хацеў вучыцца ў Жыровіцкім духоўным вучылішчы. Толькі ў Жыровічы, якія знаходзіліся недалёка ад яго роднай вёскі, паступіць не атрымалася. Тады хлопец паступае ў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. Праўда, там правучыўся толькі два гады і пакінуў вучобу. Ён становіцца слухачом пеўча-рэгентскіх курсаў у Гродне, якія скончыў у 1912 годзе.

Пасля заканчэння курсаў у Гродне Павел Лысуха працуе псаломшчыкам-рэгентам у прыходзе вёскі Востраў Сакольскага благачыння. Але працаваць доўга не давялося, бо пачалася Першая сусветная вайна. Малады святар вяртаецца на радзіму. І толькі пасля вайны атрымлівае пасаду псаломшчыка-рэгента ў прыходзе Старадзявяткавічы Слонімскага павета. У 1923 годзе Паўла Лысуху пасвячаюць у сан дыякана, і ён прызначаецца для служэння ў царкве ў мястэчку Рось (цяпер Ваўкавыскі раён. — *С. Ч.*).

Праз чатыры гады айцец Павел па запрашэнню настаяцеля Свята-Мікалаеўскага праваслаўнага кафедральнага сабора пераязджае на дыяканскую службу ў Беласток. У 1940 годзе протадыякан Павел Лысуха прыязджае ў Жыровічы. Там яго архіепіскап Пантеляймон Ражноўскі асвячае ў сан прэсвітара і прызначае вікарным святаром Свята-Мікалаеўскага праваслаўнага кафедральнага сабора ў Беластоку.

27 гадоў служыў айцец Павел Лысуха ў саборы. Вернікі вельмі паважалі і любілі айца Паўла за яго ціхі, спакойны характар, за цеплыню сэрца, за набожнае і пранікнёнае правядзенне царкоўных службаў. Ён даслужыўся ў Беластоку да протаіерэя.

Але жыццё протаіерэя Паўла Лысухі было нядоўгім — ён пражыў няпоўныя 62 гады. Яго не стала 5 мая 1954 года. Протаіерэй В. Рафальскі ў «Церковном вестнике» пісаў, што тры дні праваслаўныя вернікі Беласточчыны развітваліся з Паўлам Лысухам. На паховінах яго, пісаў протаіерэй Рафальскі, было «много венков, утопающий в цветах катафалк, сонм духовенства во главе с Высокопреосвященным архиепископом Тимофеем и множество народа — это редкая и поучительная была картина».

Гэтая невялікая зацемка няхай будзе данінай светлай памяці праваслаўнага беларуса Паўла Лысухі.

## З роду праваслаўных святароў Пракаповічаў



• *Кірыл Пракаповіч*

У пошуках звестак пра дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі ў першай палове XX стагоддзя Максіма Бурсевіча (1890–1937) са Слонімшчыны сляды прывялі мяне да праваслаўных святароў Пракаповічаў з Беласточчыны.

Максім Бурсевіч пасля заканчэння Жыровіцкай семінарыі, а гэта было ў 1910 годзе, паехаў па вопыт да свайго старэйшага брата-настаўніка Андрэя, які працаваў ў вёсцы Нязбодзічы-Дабровая на Беласточчыне, цяпер гэта Свіслацкі раён. Гасцюючы ў брата, Максім выпадкова сустрэў побач з Нязбодзічамі на хутары Тарасаўка 18-гадовую дзяўчыну Апалінарыю Мацвееву. Па кнізе





• *Кацярына Мацвеева, жонка Кірыла Пракаповіча*

землеўладанняў Гродзенскай губерні, выдадзенай у 1890 годзе Гродзенскім губернскім камітэтам, хутар называўся Рыкава-Тарасаўка. Але людзі называлі яго проста Тарасаўка. У пачатку XX стагоддзя там было толькі два маёнткі. Ва ўласнасці Мацвеевых знаходзіўся вялікі драўляны дом і 15 дзесяцін зямлі. Побач праходзіла чыгунка Свіслач–Нарва і далей. Да бліжэйшай Ялоўкі было 8 кіламетраў, да Свіслачы — 11. Побач працякала рыбная рачулка Калонка, якая ўпадала ў Нарву. Сёння яе ўжо няма. Прырода там — даволі прыгожая: вакол лясы, звяры і птушкі.

Гэты хутар, паводле кнігі землеўладанняў, належаў некалі Кірылу Пракаповічу — праваслаўнаму святару. Кірыл, Марцін і Канстанцін Пракаповічы былі блізкімі сваякамі Апалінарыі Мацвеевай, праваслаўнымі святарамі. Таму ў параўнанні з Максімам Бурсевічам, які быў родам з беднай сялянскай сям'і з вёскі Чамяры Слонімскага павета, дзяўчына з хутара Тарасаўка Апалінарыя Мацвеева, была даволі багатай дзяўчынай. Тым не менш у 1910 годзе яны павянчаліся, і Апалінарыя да канца жыцця заставалася вернай жонкай і сябрам палітыка Максіма Бурсевіча. У іх нарадзілася шасцёра дзяцей. Але лёс Максіма склаўся трагічна. Яго рэпрэсавалі і ў 1937 годзе тройкай УНКУС па Ленінградскай вобласці асудзілі да вышэйшай меры пакарання.

Цяпер вернемся да лёсу праваслаўных святароў Пракаповічаў. Айцец Марцін Восіпавіч Пракаповіч нарадзіўся ў Мінскай губерні. Пасля заканчэння Літоўскай духоўнай семінарыі ў 1857 годзе з атэстатам

другога разраду служыў святаром у Навадворскай царкве. А ў 1867 годзе яго, па ўласнай просьбе, перавялі ў Ялоўскую царкву. Памёр ва ўзросце 38 гадоў у 1871 годзе. Двума гадамі раней памерла яго жонка. Сіротамі засталіся трое дзяцей. Пасля смерці Марціна Пракаповіча «Литовские Епархиальные Ведомости» апублікавалі некралог. У ім згадваецца, што Марцін Пракаповіч быў узнагароджаны медалём у знак памяці ўціхамірвання «польского мятежа 1863»*.

Трагічны лёс быў яшчэ ў аднаго праваслаўнага святара Канстанціна Пракаповіча, які быў 13 гадоў настаяцелем царквы ў Суражы — з 1850 да 1963 года. Нарадзіўся Канстанцін Пракаповіч у 1918 годзе. Пасля заканчэння курсаў Жыровіцкай духоўнай семінарыі ў 1841 годзе (у 1845 годзе духоўная семінарыя з Жыровічаў была пераведзена ў Вільню), працаваў святаром на Кобрыншчыне. У 1850-х гадах Канстанціна Пракаповіча перавялі ў Свята-Праабражэнскую царкву ў Сураж. Ён быў, як пісала тагачасная рэлігійная прэса, «добрым пастарам і верным сынам святой Русі». Святар быў небагатым чалавекам, але заўсёды дапамагаў простым людзям. Меў нават нядрэнныя веды ў медыцыне, таму часам бясплатна лячыў тых, хто да яго звяртаўся па дапамогу. Яго паважалі не толькі праваслаўныя прыхаджане, але і рыма-каталікі, яўрэі.

Падчас паўстання 1863 года рота рускіх салдат разбіла атрад паўстанцаў пад кіраўніцтвам Юліяна і Мікалая Канонінскіх каля фальварка Рыншчызны. Пасля бою рускія вайскоўцы зайшлі ў царкву да айца Пракаповіча, які іх шчыра прыняў і пачаставаў. Гэта не спадабалася некаторым мясцовым жыхарам, асабліва тым, хто падтрымліваў паўстанцаў. Францішак Сінкевіч з вёскі Данілава з паўстанцамі ноччу з 22 на 23 мая 1863 года акружылі дом святара Пракаповіча.

* Литовские Епархиальные Ведомости.1872. № 1.



Спачатку яны пабілі дубінамі і прыкладамі жонку, а потым 17-гадовую дачку і 16-гадовага сына Льва, які вучыўся ў Літоўскай духоўнай семінарыі. Сына пагражалі павесіць. Спалоханы юнак з вяроўкай на шыі пачаў крычаць: «Божа мой! Божа мой!» Але з яго пачалі здзекавацца: «Які твой Бог? Якая твая вера? Твая вера — сабачая...» і г. д. Калі паўстанцы знайшлі святара, яго выцягнулі на вуліцу і сталі рваць на галаве валасы, біць яго нагамі, а потым павесілі айца Канстанціна на таполі ў пяці кроках ад яго дома.

Пасля гэтага паўстанцы кінуліся да хаты псаломшчыка Іосіфа Сасноўскага, каб і яго таксама пакараць. Але ён, пачуўшы крыкі і выстралы, паспеў уцячы ў лес. Сын айца Канстанціна Леў Пракаповіч у тым жа 1863 годзе пісаў да свайго сябра-семінарыста, што ў смерці бацькі больш за ўсё вінаваты ксёндз Мараўскі, які жыў у Турасле Касцельнай.

Айцец Канстанцін быў пахаваны не ў Суражы, а пры царкве ў Завыках, гэта 4 кіламетры ад Суража. На надмагільным помніку людзі напісалі на рускай мове: «Здесь покоится прах священника м. Суража отца Константина Прокоповича, который варварски был замучен польскими мятежниками в 1863 году 23 мая и в эту ночь был повешен против дома на дереве тополе. Сей памятник соорудил зять неоценимого страдальца в 1868 году 25 мая, пристав с участка города Гродно Иван Фёдорович Маковеевски». Пры асвячэнні помніка выступіў праваслаўны святар айцец Цімафей Савіцкі. Яго выступленне надрукавалі «Литовские Епархиальные Ведомости» ў № 34 за 1895 год. Айцец Савіцкі тады сказаў: «Як любячыя дзеці збіраюцца на магілу свайго бацькі, так сёння сабраліся і мы на гэта свяшчэннае месца, дзе нявінна скончыў жыццё сваё служыцель алтара Гасподняга айцец Канстанцін Пракаповіч. Пралітая тут яго кроў да сённяшняга часу не

знікла з гэтага месца, а нібы дыміцца, прыводзячы ў жах кожнага, хто сюды прыходзіць...»

Краязнавец і гісторык з Бельска Дарафей Фіёнік лёс Канстанціна Пракаповіча пракаментаваў так: «Айцец Канстанцін загінуў толькі за тое, што быў праваслаўным святаром. Ён — мучанік за веру, а здзейсненае над ім можна назваць толькі зверствам. Ён у свой час стаў ахвярай польскага шавінізму. Нянавісць да праваслаўя з боку некаторых колаў паўстанцаў была відавочная. Хопіць пачытаць “Мужыцкую праўду”...»

Пасля Першай сусветнай вайны храм у Завыках занялі рыма-каталікі. А праз пэўны час цела праваслаўнага святара разам з помнікам перанеслі ў Беласток на праваслаўныя могілкі на Выгодзе.

Тым не менш гібель Канстанціна Пракаповіча марна не прайшла. Неўзабаве ў Суражы была пабудавана новая мураваная царква, якую чакалі праваслаўныя вернікі. Але радаваліся ёй толькі два пакаленні прыхаджан. У міжваенны час Петрапаўлаўскі храм поўнасцю разабралі. А рыма-каталікі занялі царкву святой Тройцы ў Завыках, шырока вядомую цудатворнай Барунскай іконай Багародзіцы. Сёння ў Суражы, па словах Дарафея Фіёніка, на жаль, няма ніводнай праваслаўнай сям’і.

* * *

Пасля публікацыі артыкула «З роду праваслаўных святароў Пракаповічаў» у Беларусі адгукнуліся ўнукі, праўнукі і прапраўнукі Пракаповічаў. Аказалася, што айцец Марцін Пракаповіч вельмі хацеў, каб сын яго Кірыл таксама стаў святаром. Але хлопчык застаўся без бацькоў, яго выхоўвалі і гадавалі суседзі. А калі ён стаў дарослым, пайшоў вучыцца на машыніста паравоза. Вывучыўся, а потым ездзіў па ўсёй Расійскай імперыі. Аднойчы беларускі юнак сустрэў у адным з



рускіх гарадоў Кацярыну Мацвееву, якая была ўжо замужам. Але Кацярына і Кірыл моцна пакахалі адно аднаго, і дзяўчына, пакінуўшы мужа, на паравозе ўцякла з Пракаповічам на Беларусь. Кірыл кінуў працу машыніста і пасяліўся з Кацярынай на хутары Рыкава-Тарасаўка. Стаў праваслаўным святаром і з сям’ёй жыў у Тарасаўцы. Магчыма, Апалінарыя Мацвеева — гэта дачка Кацярыны Мацвеевай ад першага мужа. Там, у Тарасаўцы, з Апалінарыяй і пазнаёміўся дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі ў першай палове XX стагоддзя Максім Бурсевіч.

Шукаючы сляды праваслаўных святароў Пракаповічаў, дайшоў я ажно ў Магілёў. У горадзе на Дняпры жывуць праўнукі Пракаповічаў. Адна з іх — праўнучка Таццяна Адзярыха нядаўна даслала мне невядомыя раней і неапублікаваныя фотаздымкі Кірыла Пракаповіча, Кацярыны Мацвеевай, сям’і Максіма Бурсевіча пачатку XX стагоддзя і фотаздымак нагруднага крыжа, якім быў узнагароджаны нехта са святароў Пракаповічаў за ўдзел у Крымскай вайне.

## Прафесар і герой Пятро Буйко

Доктар медыцынскіх навук, прафесар, Герой Савецкага Саюза Пятро Буйко пахаваны ў вёсцы Тамашоўка Фастаўскага раёна Кіеўскай вобласці. На магіле ўстаноўлены помнік. Яго імя носіць Тамашоўская сярэдняя школа і адна з вуліц у Кіеве. Імя прафесара было нададзена і Кіеўскаму інстытуту акушэрства і гінекалогіі, але пасля развалу Савецкага Саюза гэты інстытут «згубіў» яго імя, а мемарыяльная шыльда з фасада будынка кудысьці знікла...

Тым не менш памяць пра Пятра Буйко на Украіне жыве. Кожны год у кастрычніку студэнты і выкладчыкі Нацыянальнага ўкраінскага медыцынскага ўніверсітэта імя Багамольца выязджаюць на Фастаўшчыну, каб

прыбраць магілу нашага земляка і прынесці кветкі. Уступныя лекцыі на некаторых кафедрах акушэрства і гінекалогіі ў медыцынскіх вышэйшых навучальных установах Украіны традыцыйна пачынаюцца з расказу пра Пятра Буйко. Некалі нават у тэатры імя Івана Франко з вялікім поспехам ішла п'еса Я. Баша «Прафесар Буйко»...

Буйко нарадзіўся 31 кастрычніка 1895 года ў беларускай сям'і ў Бельску-Падляшскім Падляшскага ваяводства. У гады Першай сусветнай вайны быў прызваны на фронт у якасці ваенфельчара. Потым удзельнічаў у грамадзянскай вайне. А калі адбыў свой воінскі доўг, паступіў у Кіеўскі медыцынскі інстытут, які скончыў у 1922 годзе, атрымаўшы спецыяльнасць «Акушэр-гінеколаг».

З 1933 года наш зямляк узначаліў Кіеўскі інстытут аховы мацярынства і дзяцінства (цяпер ён называецца Інстытут педыятрыі, акушэрства і гінекалогіі Акадэміі медыцынскіх навук Украіны). У 1939 годзе Пятро Буйко абараняе доктарскую дысертацыю і становіцца прафесарам кафедры акушэрства і гінекалогіі № 2 гэтага медыцынскага інстытута. У сваіх працах ён разглядае пытанні прафілактыкі і тэрапіі разрываў прамежнасці пры родах (1938), а таксама займаецца лячэннем пухірна-пахвенных свішчаў (1940). Прафесар Буйко, напрыклад, прапанаваў метад фістулаграфіі пры гэтай складанай паталогіі з гаматрансплантацыяй плацэнты на ўшыты дэфект мачавога пухіра. Але паспяховую практыку акушэра, вучонага, хірурга ў галіне родадапамогі спыніла Другая сусветная вайна.

У чэрвені 1941 года Пятро Буйко добраахвотнікам пайшоў на фронт вядучым хірургам медсанбата. Але праз некалькі месяцаў пад Уманню трапіў у палон. У час перагону яму, цяжка параненаму, удалося ўцячы ад калоны палонных. Яго хавалі і лячылі мясцовыя жыхары-ўкраінцы. А калі трохі ачуняў, Пятро стаў



працаваць доктарам ў Фастаўскім шпіталі, але аб тым, што ён доктар медыцынскіх навук і прафесар, ніхто не ведаў. У шпіталі наш зямляк лячыў мясцовых жыхароў, а таксама немцаў. Ён вельмі хутка заваяваў давер і сярод украінскага насельніцтва, і сярод гітлераўцаў.

Працуючы доктарам у шпіталі, Буйко пачаў супрацоўнічаць з мясцовымі партызанамі, даваў ім інфармацыю, атрыманую ад немцаў, якія там лячыліся. Адначасова Пятро Буйко многім украінцам «рабіў хваробы», дзеля таго, каб іх не вывозілі на працу ў Нямеччыну. Але ў пачатку 1943 года гестапа прасачыла і раскрыла ўсю яго працу на карысць і мясцовых жыхароў, і партызанаў. Праўда, прафесару ўдалося ўцячы. Ён узяў каня з возам, наклаў у воз лекаў, хірургічных інструментаў і знік у лесе.

Аднойчы Пятра Буйко вяскоўцы паклікалі на аперацыю ў Тамашоўку. Ён пагадзіўся і прыехаў дапамагчы. Але нехта выдаў прафесара: падчас аперацыі ў хату ўварваліся гітлераўцы і арыштавалі доктара. Яго доўга дапытвалі, а пасля кінулі ў хлеў, куды былі сагнаныя вяскоўцы, якія падазраваліся ў сувязі з партызанамі. У хляве затрыманыя людзі зрабілі вялікую шчыліну і прапанавалі прафесару ўцячы. Але ён адмовіўся, бо немцы папярэдзілі: калі хто ўцячэ, спаляць усю вёску. Тады гітлераўцы побач з хлявом запалілі адну хату, куды і кінулі звязанага доктара. Здарылася гэта 15 кастрычніка 1943 года.

У 1944 годзе Пятру Буйко было пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Гэта быў першы Указ, падпісаны старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Міхаілам Калініным, у якім узвышаўся подзвіг абаронцы Айчыны на часова захопленай германскімі войскамі зямлі. Калінін тады сказаў, што наш народ ніколі не забудзе імя гэтага слаўнага прадстаўніка савецкай інтэлігенцыі, які знайшоў мужнасць і сілу, каб стаць у рады супраціўлення, нягледзячы на штодзённую небяспеку быць захопленым ворагам.

## Герой працы з Макаўлянаў

Не кожнаму ў савецкі час давалі званне Героя Сацыялістычнай Працы. Антону Гічану са Шчучыншчыны такое званне прысвоілі ў 1966 годзе.

Антон Гічан быў простым вясковым чалавекам, працаваў з ранку да вечара ў калгасе «1 Мая» Шчучынскага раёна. Спачатку яго прызначылі брыгадзірам, потым — загадчыкам вытворчага ўчастка, а затым — загадчыкам жывёлагадоўчай фермы.

Родам Антон Гічан быў з вёскі Макаўляны, што на Беласточчыне. Але пасля вайны разам з бацькамі пераехаў на Гродзеншчыну. Тут працаваў, заслужыў нават ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга і бронзавы медаль ВДНГ СССР.

У пошуках звестках пра Антона Гічана ўсё ж удалося мне знайсці на Шчучыншчыне яго сваякоў. Найперш я трапіў на сына Анатоля. Сын жыве з сям'ёй у вёсцы Тур'я недалёка ад Шчучына. Ён з вялікай ахвотай расказваў мне пра бацьку і яго лёс. Дарэчы, Анатоль вельмі добра размаўляе па-беларуску, чалавек дэмакратычных поглядаў. З ім можна размаўляць доўга на самыя розныя тэмы. Але сёння мы гутарылі толькі пра ягонага бацьку Героя Сацыялістычнай Працы Антона Уладзіміравіча Гічана.

*— Спадар Анатоль, ці жыве ваш бацька?*

— Не, яго не стала ў 1987 годзе. Ён пражыў усяго 58 гадоў. Пахаваны на Шчучынскіх могілках. А мама яшчэ жыве.

*— А ці быў пасля Другой сусветнай вайны ваш тата ў родных Макаўлянах?*

— Калі пачалася Другая сусветная вайна, мой тата са сваімі бацькамі быў вывезены ў Нямеччыну. Там яны працавалі ў аднаго баўэра. Пасля вайны дамоў у Макаўляны яны не вярнуліся. Не ведаю толькі чаму. А прыехалі на Шчучыншчыну да сваякоў. Так там і засталіся. На Шчучыншчыне ён ажаніўся. У мяне яшчэ ёсць брат і дзве сястры. Здаецца, на Беласточчыне тата пасля вайны быў толькі адзін раз. Я ў Польшчы ніколі не быў, але вельмі хочацца пабываць на радзіме таты. Гічаноў там жыве шмат.



*— Дык у чым справа?*

— Магчыма, я і сам вінаваты, бо вельмі шмат спраў. Але гэтыя справы ніколі не скончацца. А цяпер у вёсцы Тур'я вырашыў пабудаваць для сям'і вялікі дом. Таксама часу не стае. Так і бягуць гады. І ўсё ж я абавязкова пабываю на радзіме таты.

*— А ці захаваліся ў вас старыя фотаздымкі з Макаўлянаў?*

— На вялікі жаль, не. Упершыню тата сфатаграфаваўся ў 1950-х гадах.

*— Якой веры быў ваш тата?*

— Ён быў праваслаўны, а мама — каталічка. Тата заўсёды святкаў усе святы: і праваслаўныя, і каталіцкія. Але ў царкву тады, у савецкі час, хадзіў рэдка.

*— Як ушаноўваецца памяць пра Героя Сацыялістычнай Працы сёння? Усё ж не кожнаму тады давалі такое званне.*

— Трохі памятаюць пра яго. У мясцовым райвыканкаме на стэндзе «Знакамітыя людзі Шчучынскага раёна» ёсць і яго імя. У раённай кнізе «Памяць. Шчучынскі раён» таксама тата згадваецца. Маме на вялікае свята адзін раз у год даюць за бацьку нейкую невялікую фінансавую дапамогу, але яна і гэтым задаволена. Вось і ўсе згадкі.

## Доктар медыцынскіх навук



• *Пятро Шыманскі*

У архіве асабістых спраў Гродзенскага медыцынскага ўніверсітэта за 1971 год ёсць звесткі пра Пятра Іванавіча Шыманскага — кандыдата медыцынскіх навук. Гэта пазней ён стане доктарам медыцынскіх навук, прафесарам. Аказалася, што Пётр Шыманскі нарадзіўся 7 лютага 1928 года ў Беластоку. У 1953 годзе ён скончыў Брэсцкую фельчарска-акушэрскую школу, а ў 1959 годзе — Мінскі медыцынскі інстытут.

Пасля заканчэння інстытута, Пятра Шыманскага накіравалі на працу ў Гродзенскі медінстытут. Спачатку ён працаваў аспірантам, а потым асістэнтам кафедры нармальнай фізіялогіі гэтага інстытута. У 1967 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму «Аб асаблівасцях самарэгуляцыі сардэчна-сасудзістай сістэмы ў здаровых сабак і пры эксперыментальнай пітуітрынавай гіпертэнзіі».

У 1971 годзе Пятра Шыманскага запрасілі ў Другі Маскоўскі медыцынскі інстытут (цяпер Расійскі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт), і ён пагадзіўся. Там наш зямляк абараніў доктарскую дысертацыю, стаў прафесарам. Апублікаваў дзясяткі матэрыялаў на розныя медыцынскія тэмы, напісаў некалькі кніг, манаграфій. Калі пералічваць назвы гэтых публікацый і кніг, то простаму чалавеку, далёкаму ад медыцыны, яны нічога не скажуць. Ну, напрыклад, «Ангіятэнзіятанаграфія ў эксперыменце і клініцы», «Хранатропны і інатропны кампаненты кардыяльных рэфлексаў у коткі» і іншыя.



У Расійскі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт мне ўдалося датэлефанавацца і запытаць у рэктараце ўніверсітэта пра Пятра Іванавіча Шыманскага. На жаль, яго хатні тэлефон і адрас мне там не далі, але сказалі, што прафесар, нягледзячы на свой паважны ўзрост, яшчэ чытае лекцыі студэнтам і вельмі паважаны там чалавек.

## Прафесар мінералогіі

Радзіма расійскага геолага, горнага інжынера, прафесара мінералогіі Екацярынаслаўскага вышэйшага горнага вучылішча Леанарда (Леаніда) Антонавіча Ячэўскага (1858–1916) — Беласточчына (канкрэтнае месца нараджэння пакуль даведацца не ўдалося). Тут прайшлі яго дзіцячыя і юнацкія гады.

У 1883 годзе наш зямляк скончыў Пецярбургскі горны інстытут. Пасля заканчэння інстытута Леанард Ячэўскі праводзіў геалагічныя даследаванні ў Забайкальскай вобласці Расіі. Затым шукаў залатыя промыслы па прытоках ракі Анота і Урыка ў Іркуцкай вобласці. Актыўна займаўся пошукамі каменнавугольных радовішчаў у стэпах Кіргізіі.

Калі пачалося будаўніцтва Сібірскай чыгункі, Леанард Ячэўскі ўваходзіў у склад геалагічнай партыі, якая праводзіла даследчыя работы вакол сярэднесібірскага і байкальскага ўчасткаў Сібірскай магістралі.

У 1896 і ў 1897 гадах наш зямляк адкрыў вялікія мясцовыя радовішчы нефрыту ў басейне рэк Анота і Урыка Іркуцкай вобласці.

У канцы 1890-х гадоў у сувязі з жаданнем вырабіць саркафаг для рускага цара Аляксандра III, Леанард Ячэўскі паехаў у камандзіроўку на Саяны і шукаў спецыяльны камень для саркафага. Ён знайшоў такі камень, але ён не задаволіў царскіх чыноўнікаў і быў забракаваны. Засмучаны такім вынікам, спадар Янчэўскі пакінуў пошукі і стаў працаваць у Екацяры-

наслаўскім вышэйшым горным вучылішчы. Там стаў прафесарам мінералогіі, апублікаваў некалькі сваіх прац. Сярод іх — «Геалагічны нарыс залатых промыслаў каля зліцця рэк Аноты і Інгоды», «Алібераўскае месцазнаходжанне графіту», «Геатэрмічныя назіранні ў Сібіры» і іншыя.

У. Вярнадскі, сучаснік Ячэўскага, пісаў, што для Леанарда Ячэўскага «не было мяжы паміж практыкай і тэорыяй. Ён да пытанняў практыкі падыходзіў з навуковым метадам і браў адтуль пытанні, якія цікавілі жыццё, але ў той жа час і для навукі ставіў новыя задачы. Ён шмат зрабіў для пошукаў і вывучэння карысных выкапняў Сібіры, у прыватнасці золата».

## У вянок Міколу Гайдуку

### Ён ратаваўся беларускасцю



• *Мікола Гайдук і Вольга Іпатава ў Беластоку, 1992 г.*

Цудоўную кнігу трымаю ў руках. Яна прысвечана памяці выдатнага беларускага празаіка, паэта, публіцыста, перакладчыка, фалькларыста, журналіста з Беласточчыны Міколы Гайдука (1931–1998). Таго самага Гайдука, які ведаў увесь беларускі свет Польшчы. А кніга гэта мае назву «У беларускасці наш ратунак» (Беласток, 2014). Добрая назва кнігі. Бо Мікола Гайдук заўсёды ратаваўся і жыў беларускасцю. Так павінны рабіць сёння і мы, бо іншага ратавання ў беларусаў не існуе і ніколі не будзе. Мы павінны ратавацца менавіта беларускасцю.



Гэта дзякуючы руплівіцы Лене Глагоўскай, слаўнаму Янку Купалу Беласточчыны — Віктару Шведу, як называе яго ва ўспамінах Мікалай Панфілюк (я далучаюся да яго слоў), і апантанай у беларускасць і нашу роднасць Валянціне Швед кніга ўспамінаў пра Міколу Гайдука пабачыла свет. Прачытаўшы яе, я падумаў, які ўсё ж таленавіты і працавіты быў гэты Мікола Гайдук! Магчыма, з яго трэба пачаць выдаваць поўны збор твораў. І тады Мікола Гайдук стане першым беларускім літаратарам Польшчы, спадчыну якога ў поўным аб'ёме мы збяром і ў некалькіх тамах выдадзім. Бо зроблена Міколам Гайдуком ашаламляльна шмат.

Вельмі цікавай і даволі разнастайнай атрымалася і кніга ўспамінаў пра яго. Пра Міколу Гайдука і Падляшша напісалі Дарафей Фіёнік, Анджэліка Масальская, Славамір Іванюк і іншыя аўтары. Яўген Вапа распавёў пра Міколу Гайдука як журналіста тыднёвіка «Ніва», а Юрка Хмялеўскі — пра творчую сувязь Міколы Гайдука з «Czasopisam», Яўген Чыквін — пра супрацоўніцтва яго з асяроддзем штомесячніка «Przegląd Prawosławny». Анна Саковіч у артыкуле «Аўтабіяграфічная проза Міколы Гайдука» разважае, што пісьменнік з дзяцінства быў даволі дасціпным хлопчыкам, талент і зацікаўленне ён меў з маленства, бо, як успамінае Гайдук, у яго, пяцігадовага хлапчука, быў вельмі дапытлівы розум, што калі дзядзькі Міхал і Антон хацелі набыць шнур сенакосу, то ён бясконца надакучаў бацьку рознымі пытаннямі. І толькі тады, калі бацьку надакучылі розныя пытанні, то ён пагрозліва сказаў: «Зараз як гэтым шнуром намераю табе па мяккім месцы, тады зразумееш і адчэпішся!» Вядома, тады маленькі Міколка адчапіўся ад бацькі, але ж зацікаўленне не пераставала яго хваляваць усё жыццё. Гэта яно з маленства і зрабі-

ла маленькага Міколку з Кабылянак вялікім Міколам Гайдуком, пра якога ведае ўвесь беларускі свет.

Другі раздзел кнігі «У беларускасці наш паратунак» прысвечаны ўспамінам. Хто толькі светлымі і разнастайнымі ўспамінамі не прыгадвае Міколу Гайдука! Віктар Швед распавядае пра апошні дзень жыцця Міколы, той дзень, калі ён памёр у лесе з поўным кошыкам грыбоў. А Янка Целушэцкі ўспамінае, як стукнуўся вечарам Мікола на сваім самаходзе ў паліцэйскую машыну ў той час, калі паліцыянты мянялі колы. Васіль Петручук прыгадаў, як ён з Міколам Гайдуком пасварыўся ў «Ніве». А Міра Лукша прызнаецца, што «з яго падручнікаў вучыліся мы, якія сталі яго калегамі, хоць крышачку набраўшыся ў яго імпэту і пільнасці». Мікалай Панфілюк узгадаў буквар Міколы і Лідзіі Гайдукоў, які «пахне роднай Беласточчынай, мовай, зямелькай, нівамі і праўдай і ў ім няма праяў штучнасці». А Надзя Запруднік успомніла той час, калі яна была ў Беластоку і гасцявала ў доме Гайдукоў, а Мікола ёй падараваў клубок нітак «на свэтар ад сваіх авечак»... І такіх розных і цікавых эпізодаў ад сустрэч і сяброўства з Міколам Гайдуком ва ўспамінах даволі шмат. Яны з захапленнем чытаюцца і запамінаюцца, бо даволі шчырыя і адкрытыя.

Трэці раздзел у кнізе — раздзел прысвячэнняў Міколу Гайдуку. Хачу адзначыць, што ён самы слабы з ўсіх раздзелаў кнігі. Творы, найперш вершы, прысвечаныя Міколу ці яго памяці, даволі кволыя. За выключэннем хіба двух вершаў Віктара Шведа і верша Сяргея Панізьніка з нагоды выхаду кнігі Міколы «Паратунак» у мінскім выдавецтве «Юнацтва» (1993):

Вяртаем з падзякай, віншуем з нагоды!
Няхай Вам спрыяюць змужэлыя годы!
На новы мацунак, на новы гадунак —
Юнацкі ўручаем мы Вам «Паратунак»!



Прыгадваю я выхад кнігі «Паратунак» Міколы Гайдука 21 год таму. Кніга накладам 12 тысяч асобнікаў у Беларусі разышлася імгненна. Яна, як пісаў у прадмове да выдання Вячаслаў Чамярыцкі, была напісана даволі цікава, добрай беларускай мовай, своеасаблівым стылем. Кніга дапамагала нам тады і, вядома ж, цяпер, азірнуўшыся ў смугу стагоддзяў, убачыць свой самабытны беларускі шлях і больш упэўнена глядзець наперад і настойлівей змагацца за сваю будучыню, за сваё нацыянальнае Адраджэнне, неадлучнае ад еўрапейскай культуры.

Раздзел «З эпісталярнай спадчыны» пачынаецца лістамі Валянціны Трыгубовіч і Валянціны Пашкевіч. Валянціна Трыгубовіч у сваім лісце, датаваным 30 лістапада 1980 года, распавядае пра юбілейную вечарыну Уладзіміра Караткевіча ў мінскім Доме літаратара. Я, студэнт-першакурснік, таксама прысутнічаў на гэтым мерапрыемстве, таму, прачытаўшы грунтоўны ліст Валянціны Трыгубовіч да Міколы Гайдука, нібы зноў пабываў на тым незвычайным і гістарычным вечары Уладзіміра Караткевіча з нагоды яго 50-годдзя.

Валянціна Пашкевіч у сваім пісьме паведамляе Міколу пра прыезд у канцы 1980-х гадоў у Мінск спевака Данчыка, пра выхад часопіса «Спадчына», пра сварку Міколы Шаляговіча з Іванам Чыгрынавым, пра Чарнобыльскі шлях, калона якога была ад Палаца прафсаюзаў да плошчы Перамогі ў Мінску.

У пісьме з Нямеччыны ў 1983 годзе Юрый Попка (1912–1990) паведамляў пра свае справы, пра тое, як збірае экспанаты для свайго Беларускага музея Інстытута беларусаведы ў Ляймане (Германія). Ён радаваўся кожнаму беларускаму экспанату. Але ў яго лістах прысутнічаў і адчай: «На вялікі жаль, з беларусаў і беларусак, што жывуць у Нямеччыне, яшчэ ніхто не адведаў ані музею, ані памятніка, хоць я іх запрашаў.

Адзін толькі прафесар Барыс Кіт наведвае і дапамагае мне».

24 лістапада 1985 года Мікога Гайдук адказвае Юрыю Попку, дзе з вялікай горыччу паведамляе пра смерць Юркі Геніюша і адначасова выказвае свае думкі-расследаванні наконт яго смерці: «...Некалькімі днямі перад смерцю ён зайшоў у “Ніву” і падчас звычайнай сяброўскай размовы таямніча мне шапнуў: “У мяне былі госці. Узламалі дзверы. Атруцілі сабаку. Ператрэслі ўсё ў хаце, грэбліся ў паперах. Шукалі невядома чаго. На шчасце я застаў. Яны ўцяклі...” Калі гэта звычайныя госці, то не мусілі доўга капацца, бо ў кватэры Геніюшаў каштоўнасці ўсе на сценах: цаннейшыя зборы старажытных іконаў, якім вартасці няма, ды іншыя каштоўныя старажытнасці ўверсе. Чаму смерць Юркі наступіла ў некалькі дзён пасля гэтага рабункавага нападу?..»

У кнізе апублікаваны і пісьмы Юркі Рапецкага, Міхася Раецкага, Янкі Мойсіка, Надзі Кудасавай, Пётры Кажуры, Мацея Канапацкага, Уладзіміра Гайдука, Зоські Верас, Лявона Луцкевіча. Усе лісты вельмі багатыя на факты, на падзеі, на развагі. Наогул, Мікола Гайдук шмат перапісваўся. Таму патрэбна падрыхтаваць яго эпісталярную спадчыну асобным выданнем, так, як маем асобнымі кнігамі лісты Ларысы Геніюш, Зоські Верас, Мар’яна Пецюкевіча. Эпісталярная спадчына Міколы Гайдука — гэта сапраўдныя гістарычныя дакументы. Таму нельга, каб яны зніклі бясследна.

Пяты раздзел кнігі «З рукапіснай і машынапіснай спадчыны» складаецца з чатырох твораў Міколы Гайдука. Найбольш цікавымі з’яўляюцца пра мітрапаліта Васіля Дарашкевіча і прамова на Першым з’ездзе беларускіх студэнтаў у Польшчы ў 1987 годзе. Мітрапаліт Васіль заснаваў Варшаўскую праваслаўную семінарыю і вучыў у ёй на беларускай мове, захапляўся беларускай паэзіяй, а «Новую зямлю» Якуба Коласа ведаў на памяць. Ён аднаўляў і адбудоўваў праваслаўныя храмы ў Польшчы. А на з’ездзе студэнтаў Мікола Гайдук казаў пра тыднёвік «Ніва», прапагандаваў яго, адзначаючы, што «Нівы» ўжо выйшла 1611 нумароў (на канец сакавіка 1987 года), значыць, на кожнага беларуса на свеце тады прыпадала па аднаму асобніку.



У апошні раздзел пад назвай «Альбом» кнігі «У беларускасці наш паратунак» увайшлі здымкі Міколы Гайдука ад маленства да апошніх дзён.

Некалі амерыканскі прадпрымальнік Стыў Джобс сказаў: «Мая праца — не палягчаць жыццё людзям. Мая праца — рабіць людзей лепшымі». Лепшымі людзьмі стараўся рабіць вандроўнік і збіральнік беларускасці Падляшша Мікола Гайдук. Памяць пра яго, у вянок яму — і новае выданне, пра якое можна разважаць бясконца.

## Песні Міколы Гайдука

Ніхто так з беларусаў Беласточчыны не любіў беларускі фальклор, як Мікола Гайдук. Вынікам гэтай любові, напрыклад, да народнай беларускай песні стаў выдатны дыск песень Беласточчыны, які выйшаў у Крынках. На дыску з назвай «Песні мае, песні...» запісана 22 народныя песні ў выкананні дуэта «Зараніца» ў складзе Іаанны Чабан і Галены Пухальскай.

Калі мая 83-гадовая маці праслухала гэты дыск, сказала: «Уключы яшчэ раз паслухаць “Зялёны дубочак”, “Рабіначку” і “Пасеяла агурочкі” — гэта песні маёй маладосці». І я зноў уключаў ёй дыск, а мама ўважліва слухала галасістых салістак, якія прыгожа спявалі песні Міколы Гайдука, і нібыта сама падпявала. Мама слухала — і на вачах у яе блішчалі слёзы...

Толькі за запісы беларускага фальклору на Беласточчыне, за прапаганду яго ў друку Міколу Гайдуку трэба было пры жыцці даваць званне народнага пісьменніка

Беларусі. Дзіву даюся, калі ён паспяваў усё рабіць: збіраць, запісваць, апрацоўваць, друкавацца. Пагартайце тыднёвік «Ніва» за 1960–1980-я гады ці «Беларускі каляндар» за той жа перыяд — і вы ўпэўніцеся ў тым, як працаваў Мікола Гайдук і як трэба нам працаваць сёння на ніве беларускага фальклору, тым больш што яшчэ жывуць беларусы канца 1920-х — пачатку 1930-х гадоў нараджэння, якія ведаюць народныя песні, прымаўкі, загадкі, легенды, паданні, казкі. Гэта мы цяпер мала ведаем і рэдка спяваем нашы народныя беларускія песні. А Мікола Гайдук іх ведаў шмат. Ён апублікаваў больш за 700 сваіх запісаў беларускіх народных песень з нотамі (іх расшыфроўвалі Людміла Панько, Сяргей Лукашук, Эдуард Гойлік, Ян Бондар і іншыя кампазітары). Ён сабраў і апрацаваў зборнік казак і легенд «Аб чым шуміць Белавежская пушча» (Беласток, 1982). На польскай мове выдаў «Белавежскія паданні» (Беласток, 1990), на беларускай мове — кніжку легенд і паданняў «Белавежскія былі і небыліцы» (Мінск, 1996). Са сваіх запісаў Мікола Гайдук уклаў том беларускай народнай творчасці (больш за 600 тэкстаў) «Песні Беласточчыны» (Мінск, 1997), іх сістэматызаваў, напісаў уступны тэкст і каментар. У той том увайшлі песні калядныя, шчадроўкі, юраўскія, траецкія, купальскія, пятроўскія, жніўныя, восеньскія, хрэсьбінныя, застольныя, жартоўныя, вясельныя (сватанне, запоіны, каравай, дзявочы вечар, пасад, сірочыя, прыпеўкі, пярэзвы) і іншыя. Змешчаны там таксама песні рэкруцкія, казацкія, чумацкія, любоўныя, сямейна-бытавыя, балады, гістарычныя і іншыя. Да шматлікіх тэкстаў дадаюцца ноты. Фальклорныя запісы Міколы Гайдука ўвайшлі таксама ў тамы беларускай народнай творчасці «Балады» (Мінск, 1977–1978), «Легенды і паданні» (Мінск, 1983), «Вяселле. Песні» (Мінск, 1986–1988).

Гартаю тыднёвік «Ніва» і чытаю даследчыя артыкулы Міколы Гайдука, прысвечаныя беларускім



народным песням: «Вясна ў беларускіх народных песнях Беласточчыны» (1963, 4 красавіка), «Каляды ў народных песнях Беласточчыны» (1965, 7 студзеня), «Дажынкі ў фальклоры» (1971, 15 жніўня) і г. д. А ў «Беларускім календары» — артыкулы за артыкуламі па даследаванні беларускіх народных песень. У «Беларускім календары» за 1987 год чытаю артыкул «Песні тых часоў» пра Веру і Уладзіміра Хомікаў са Слоі, пра іх лёс і любоў да народнай песні. Ад Уладзіміра Хоміка Мікола Гайдук запісвае песні, з якімі той «ідзе праз усё працавітае і руплівае жыццё». А мелодыі песень расшыфроўвае былы дырэктар Бельскага Дома культуры Сяргей Лукашук. Вось як гучыць першая страфа з песні «Велікодная»:

Вясёлы дзень паном настаў —  
Піраг з гусём з пячы дастаў,  
Вясёлы дзень,  
Вясёлы дзень!..

А ў «Беларускім календары — 1981» Мікола Гайдук у матэрыяле «Поколь сонце зыйдэ...» распавядае пра дзвюх жанчын з вёскі Мікулічы, што ў Мілейчыцкай гміне, — пра Ніну Такаюк і Яўгенню Вішэнка. Ад іх фальклáрыст запісвае ў 1979 годзе вязанку песень. А мелодыю рысшыфроўвае Ян Бондар. Гэта некалькі балад, жартоўных, вясельных, жніўных песень. Адна з балад пачынаецца жартаўліва:

— Ой, умру я, умру та й буду дывытысь,  
Чы будэ мой мілы по мніе шчэ й журытысь.  
Мілы зажурыўся — шчэ й сіеў, подголіўся:  
— Коб тую сховаты, хутчэй бы жыныўся!..

І калі Міколам Гайдуком пры жыцці было запісана больш за 700 беларускіх народных песень з нотамі, а на дыску «Песні мае, песні...» змешчана толькі 22, то неабходна яшчэ выпускаць каля 30–35 дыскаў з пес-

нямі Міколы Гайдука. А гэта будзе цэлая фанатэка і адначасова памяць пра беларуса з Беласточчыны. Тым больш, што добры пачатак ужо зроблены.

*2014, сакавік*

## Гаворкай роднай заліваў тугу




Дастаю з паліцы кнігу «Беларуская Беласточчына» (Мінск, 1973) і на старонцы 49 чытаю: «Бела. Бела. Бела і пуста. Вялізная спакуса. Дзе ж мае фарбікі? Ану, мазнем чырвонай. Гу!..» Гэта пісаў сорак гадоў таму Юрка Геніюш. Слаўны, таленавіты, мужны Юрка Геніюш — адзіны сын у бацькоў. Але ў якіх бацькоў!!! Маці Ларыса Геніюш — найвялікшая паэтка Беларусі, патрыётка, змагарка, вязень сталінскіх ГУЛАГаў. Бацька Янка Геніюш — доктар, выпускнік Пражскага ўніверсітэта, беларускі патрыёт, бібліяфіл, вязень сталінскіх лагераў.

Мужнасці ён вучыўся ў мамы і таты, прафесію выбраў бацькаву, а творчы талент пісаць узяў ад маці. Георгій Валкавыцкі ў сваіх «Вірах» (Беласток, 1991), прыгадваючы 1973 год, піша: «Пасля Новага года аднавіў я шыльду сваёй рубрыкі (Задрыпанка ў сонечных праменнях) і, запрыкмеціўшы ў Юркі Геніюша шчадрынаўскі дух, угаварыў доктара на арэнду суседняй дзялянкі. Канкурэнт пачаўназіраць “З маёй званіцы” пад фірмай “Ларс”. І тут ажыў праўдзівы Гарадок (Працаваў Юрка ў Гарадку)».



Ажывалі і сябры, калі з’яўляўся Юрка Геніюш, ажывалі выданні, дзе ён друкаваўся, ажываў і беларускі Беласток. Хаця лёс, сапраўды, Юркі Геніюша быў далёка не белым. І маюць рацыю Уладзімір Арлоў (кніга «Імёны свабоды» (Радыё Свабода, 2007. С. 434)) і Міра Лукша (верш «Юрка Геніюш»), калі прыгадалі яго радкі: «Чаму я чорны, чаму я чорны, мамо — Хоць белы маю твар? Чаму мне вецер заўсёды ў вочы дзьме?» Чорны вецер і вецер халодны часта дзьмулі ў твары Геніюшаў. Але яны выстаялі, не скарыліся, не паддаліся, не здаліся. Хаця ўсё ж скразной лініяй праз усю творчасць Юркі Геніюша праходзіць белы колер. Давайце прачытаем яго творы:

Зацвіла калінай родная зямля.
Белай, белай, белай — сувой палатна...

*(Верш «Зацвіла калінай родная зямля...»)*

Белай плямай вабіць-вабіць
Картка на стале.
*(Верш «Да свету»)*

Здаецца, сёння белае ўсё. Па белым свеце белыя дарогі... Белы-белы настане дзень... Ды толькі словам белабела беларускім прагна чакаеш, каб адгукнуўся хто...

*(Абразок «Чорным па белым»)*

І абразок «Запавет» таксама пачынаецца з белага колеру: «І падаў снег. І белым вершам астры ўпісалі памяць жывых над прахам небыцця...» Здаецца, і тут пра белы колер, але ён вельмі самотны, тужлівы, балючы.

Усе гэтыя разважанні прыйшлі да мяне, калі я чытаў новую кнігу ў чорнай вокладцы «Смыком па сэрцы» Юркі Геніюша. Кніга выйшла з друку дзякуючы прыватным фінансавым ахвяраваннем і беларускай Інтэрнэт-бібліятэцы Kamunikat.org. Зборнік добра ўклала і

напісала сціплую прадмову Міра Лукша, а рэдагаваў выданне Віталь Луба.

Здаецца, пералічыў усіх, хто шчыра працаваў над тым, каб літаратурная спадчына Юркі Геніюша з'явілася на свет. А гэта найбольш поўнае выданне яго разнастайных па жанру твораў. Тут і проза, і паэзія, і драматургія, а таксама шмат цікавых і рэдкіх фотаздымкаў.

У першым раздзеле «У Гарадку і наваколлі» распавядаецца якраз пра тое, аб чым некалі прасіў пісаць Юрку Геніюша Георгій Валкавыцкі. Складальніца кнігі Міра Лукша вырашыла пачаць выданне менавіта з культурнага і працоўнага жыцця Гарадка і вёсак вакол яго, якія апісваў аўтар. Цікава чытаецца тое, аб чым аўтар паведамляў некалькі дзясяткаў гадоў таму. З кнігі мы даведваемся пра трыкатажны завод (1959–1995), пра дзяржаўнае агенцтва «Эстрада», пра фармоўшчыка Гогаля, млынара Лапіча, пра крамы Гарадка, куды па тавары прыязджалі нават гараджане з Беластока, і шмат пра што іншае. Аўтар апісваў усё даволі цікава, шчыра, нават з нейкім светлым гумарам. Калі б і сёння падобныя нататкі з глыбінкі Беласточчыны хтось дасылаў, то рэдактар «Нівы» Яўген Вапа іх абавязкова друкаваў бы. Яны чытэльныя, лёгкія і невялікіх памераў. А сённяшнія чытачы не вельмі любяць чытаць вялікія тэксты, асабліва калі яны яшчэ без фотаздымкаў.

Чытаючы кнігу Юркі Геніюша «Смыком па сэрцы», прыхільнікі яго творчасці пабываюць і даведаюцца, як жылі і чым жылі беластоцкія вёскі 30–70 гадоў таму. Аўтар у свой час пісаў пра дзеда Няўдалага з вёскі Скупавічы, які некалі пырнуў віламі нямецкага жаўнера. З кнігі мы даведаемся і пра тое, што некалі ў вёсцы Случанка вельмі дружна жылі вяскоўцы, а ў Меляшках раней смачны пяклі каравай, а ў Падазеры пачаў курсіраваць аўтобус...



Мне падабаецца, што ў кнігу Юркі Геніюша Міра Лукша ўключыла і пяць ягоных п'ес: «Хто — каго?», «Прыгоды Белага Грыба», «Зямля», «Вываражыла», «Дзіўны горад». Некалі пад адной вокладкай выходзілі п'есы Сакрата Яновіча і Юркі Геніюша. Кніга мела назву «Зборнік сцэнічных твораў» (Беласток, 1976). Я пытаўся пры жыцці ў Сакрата Яновіча, чаму ён не працягвае пісаць п'ес, на што ён адказаў, што ніколі не збіраўся быць драматургам, а на напісанне п'ес яго натхніў і накіраваў Юрка Геніюш, таму і напісалася іх некалькі.

Друкавалася п'еса Юркі Геніюша і ў «Зборніку сцэнічных твораў» (Беласток, 1969). Гэта была бытавая камедыя «Вываражыла», якая тады нават атрымала ўзнагароду ў конкурсе БГКТ.

Што датычыць паэзіі Юркі Геніюша, дык яна своеасаблівая, далёка не падобная на паэзію яго маці Ларысы Геніюш. Але сын вучыўся ў маці, спрабаваў, як казаў Ян Чыквін, удыхнуць дух аптымізму, творчую энергію, прывіць імунітэт непадатлівасці на чужыя вірусы, папярэджваў аб устойлівай палітыцы дэнацыяналізацыі розных «дабрадзеяў» з усходу і захаду:

Пасля ночы будзе, будзе колісь дзень.
Мы не можам жыць без свету...

Юрка Геніюш быў чалавек кампанейскі, меў шмат сяброў, у яго хапала энергіі і сіл на знаёмствы і сустрэчы, меў добрую памяць, шмат ведаў вершаў, анекдотаў, любіў іх распавядаць. Ён быў казачнік-выдумшчык і літаратар з гумарам. Мне вельмі падабаецца яго апавед «Як чэрці свіней у балота зацягнулі». Нагадаю чытачам сюжэт. Прасілі дзеці дзядзьку Рыгора расказаць пра гэта. І ён расказаў. Аднойчы пасвіў у пана свіней, але пан мала плаціў, а малады Рыгор некалі задумаў ажаніцца з прыгожай дзяўчынай. Тады ён вырашыў прадаць свіней пана гандлярам, але паадрэзваў у свіней

хвасты. А потым гэтыя хвасты пазасоўваў у балота. А пану сказаў, што чэрці свіней пазавалакалі ў балота, толькі хвасты відаць. Пабег пан глядзець, схапіў за хвасты і «адарваў» іх. А Рыгора выгнаў з працы. Але за грошы Рыгор хутка ажаніўся з прыгожай Алесяй... Найцікавейшая рэч. Вельмі добра чытаецца, проста не адарвацца. І такіх твораў у Юркі Геніюша шмат. Па іх можна нават вясёлыя мультфільмы і фільмы здымаць.

А цяпер пра ліст да Віктара Шведа. Я думаю, што вядомы беларускі паэт з Беластока Віктар Швед заўсёды памятаў і памятае тое, што некалі яму пісаў і казаў Юрка Геніюш. А казаў ён вось што: «І памятай, што хай цябе там нават клічуць Шведам — для нас ты быў і будзеш беларус».

І апошняе з нагоды выхаду кнігі «Смыком па сэрцы». Ці ведаеце вы, шаноўныя сябры, чым пры жыцці Юрка Геніюш заліваў тугу? А заліваў ён яе — гаворкай роднаю. Дык давайце і мы далучымся да Юркі Геніюша і будзем яшчэ мацней любіць наша беларускае Слова. Памятаеце, ён пісаў: «Бойцеся Слова! Прад ім трапячыце. У ім ваша смерць, нягоднікі ды злыдні...» Няхай ворагі баяцца наша Слова, а мы будзем жыць доўга: «Бела. Бела. Бела і пуста. Вялізная спакуса. Дзе ж мае фарбікі? Ану, мазнем чырвонай...»

*2014*

## Аб гэтым казаў мне Сакрат

З беларускім пісьменнікам з Беласточчыны Сакратам Яновічам я пазнаёміўся 22 красавіка 1989 года ў Слоніме, хаця яго творы ў беларускім беластоцкім тыднёвіку «Ніва» чытаў даўно. Тады ён з групай гарадзенскіх літаратараў наведаў Слонім, пабываў у рэдакцыі раённай газеты, дзе адбылася творчая гутарка пра сучасны стан беларускай літаратуры, пра ўзаемаадносіны літаратур



краін-суседзяў. У канцы сустрэчы Сакрат дастаў з партфеля сваю кнігу на польскай мове «Belarus, Belarus» і хуценька паставіў аўтограф: «Паважанаму Сяргею Чыгрыну на памятку. Сакрат Яновіч. 22.04.1989. Слонім».



• *Сакрат Яновіч*

У другой палове 2000-х гадоў сустракаўся з ім часцей. Ён любіў гутарыць з тымі, хто прыязджаў з Беларусі, асабліва з тымі, хто жыў не ў Мінску, а ў беларускай правінцыі, як, напрыклад, я. Хаця, і мы ўсе гэта добра ведаем, з Сакратам Яновічам размаўляць любілі многія, і ён любіў і паважаў усіх. Праўда, з ім не так і проста было размаўляць, асабліва ў апошнія гады яго жыцця. Ён быў шмат чым незадаволены і пра гэта адкрыта казаў. Але спадар Сакрат быў шчаслівы і радаваўся таму, чым ён займаўся, радаваўся сустрэчам, радаваўся БЕЛАРУСКАСЦІ, якою жыў. Ён заўсёды быў адкрыты, як дзверы ў бацькоўскую хату. Не ведаю, можа, толькі з асобнымі людзьмі ён мог адкрыта гутарыць, разважаць, казаць праўду-матку. Вядома, ён быў і застаўся сучасным чалавекам у літаратуры і жыцці. Іншая рэч, што ён, як старэйшы па гадах, любіў свой час, сваё пакаленне. Але Сакрат Яновіч любіў і нас, хаця прэтэнзій да маладых, і не толькі да творчых, людзей у яго было нямала. Неяк сядзім з ім, гутарым, а ён кажа: «Вось унучка ў мяне, калі ёй трэба злотыя і хоча, каб я ёй даў, размаўляе са мной і просіць іх у мяне па-беларуску. А калі злотыя ёсць, дык тады па-польску». — «І вы, вядома ж, адразу ёй даяце злотыя?» — кажу. «Даю, бо на роднай мове ласкава пытае. Як тут не даць!» — адказвае Сакрат.

Сакрат Яновіч, мне здаецца, сам сабе пярэчыў. І гэтае пярэчанне прысутнічала ў яго пастаянна. Прыгадваецца яго герой Сцяпан Кішкель з кнігі «Хатняе стагод-

дзе» (Крынкі, 2008). Памятаеце: «Выклікае злосць у Сцяпана непашана да бацькоўскіх пажыткаў, заядлае выкідванне маладымі ў ямы шафаў, сталоў, табурэтак, крэдэнсаў, перагародак. Фанатычнае змаганне моладзі мець грошы на ўсенька навюткае, моднае. Што — магчымае, вынішчаючы датла вёску. Выводзячы з яе апошнія капіталы. Абсцябаўшы бацькоў. Без пагібелі вёскі гарадскі дабрабыт дзяцей застаўся б утопіяй. Цікава, на чым будзе грунтавацца раскошны быт унукаў? Без вёскі ўжо. Урослай тым часам лесам. Без вёскі не было б горада. Але той жа горад, разрастаючыся, глынае вёску. У прыродзе гатунак паядае гатунак. Беларушчына — гэта падла расейцам і палякам?..» І ў той жа час, калі я з ім рабіў інтэрв'ю ў 2008 годзе, у гутарцы Сакрат Яновіч казаў: «Крынкі — гэта мой свет... Крынкі для мяне — адкрыццё... Што Крынкі, што Варшава — усюды можна выдаваць добрыя кнігі...» Вядома ж, Сцяпан Кішкель у «Хатнім стагоддзі» казаў вуснамі Сакрата. І казаў тое, што тады думаў аўтар, што думаў наогул пры жыцці.

Я ў Сакрата пытаўся:

*— А чаму вашыя бацькі далі вам такое рэдкае імя — Сакрат? Можа, гэта ў гонар старажытнагрэчаскага філосафа Сакрата? Ці ведалі вашы бацькі пра грэчаскую філасофію?*

— Гэта мяне маці так назвала. Яна была ў бежанстве ў Расіі за Самараю. Там пэўны час хадзіла ў расійскую школу. І аднойчы яе настаўніца пасадзіла са сваім сынам за адну парту. А таго сына звалі Сакрат. Мама дрэнна вымаўляла словы па-расійску, дык ёй заўсёды дапамагаў сын настаўніцы. І калі мае бацькі вярнуліся з тае няшчаснае Расіі на радзіму, і калі мама выйшла замуж і нарадзіўся я, то яна заўпарцілася і ахрысціла мяне Сакратам. Хаця яна зусім не разумела і не ведала пра Сакрата нічога. Але ў яе памяці заўсёды быў той расійскі хлопчык Сакрат.



*— А бацька не быў супраць, каб яго сын насіў такое імя?*

— А бацька ўвогуле не ведаў, у чым справа. Ды яго гэта мала цікавіла. Як назвала жонка — так і добра.

*— А ў школе з вас не смяяліся?*

— Спачатку смяяліся, бо не разумелі майго імя. Называлі мяне — крот. Але аднойчы святар Антон Савіч у сваёй пропаведзі згадаў, што быў такі грэчаскі філосаф, які пацвердзіў, што чалавек мае душу, што мудрасць — аснова высокамаральных учынкаў. Тады ўсе ад мяне адсталі.

*— А цяпер вы, мабыць, з гонарам носіце імя Сакрата? Дый гучыць — Сакрат Яновіч! А не Юрка Яновіч ці Міхась Яновіч...*

— Пэўна так! Бо гэта імя не штодзённае. Дый Юркаў і Міхасёў цэлыя копы, а Сакрат у Беларусі адзін...

Сакрат Яновіч напісаў шмат добрых кніг. Я неяк у яго спытаў:

*— А які ўплыў на вашую творчасць аказала літаб'яднанне «Белавежа», што існуе ў Беластоку? І наогул, што дала вам «Белавежа»?*

— «Белавежа» дала мне шмат, дзякуючы першаму рэдактару беларускага тыднёвіка «Ніва» Георгію Валкавыцкаму, першаму кіраўніку. Ён на пачатку існавання аб'яднання быў адзіным чалавекам, які добра арыентаваўся ў літаратуры. А я меў тэхнічную адукацыю, я — электратэхнік. Але дзякуючы Валкавыцкаму і майму швагру, які некалі прывёз кніжку Бабеля на польскай мове, я стаў пісьменнікам. Я прачытаў кнігу Бабеля з цікавасцю. Валкавыцкі даў паняцце, што такое літаратура, а Бабель паказаў мне, што можна пісаць не пад Пушкіна, не пад Міцкевіча, а пад маё мястэчка Крынкі, што на Беласточчыне, — адказаў тады спадар Яновіч.

Падчас сустрэч з Сакратам Яновічам я стараўся запытацца ў яго пра ўсіх, хто быў родам з яго Крынак. Пытаўся і пра Янку Генюша з Ларысай Генюш.

Неяк не вельмі ахвотна іх успамінаў ён, але ж, калі я спытаўся, то шаноўны Сакрат павінен быў адказаць. Ён казаў, што з Ларысай Геніюш двойчы сустракаўся. Першы раз дзякуючы Аляксею Карпюку з Гродна, калі наведалі ў Зэльве Ларысу і Янку Геніюшаў. А пасля яна была ў Беластоку ў сына, дзе яны таксама мелі сустрэчу. Гутарка тады была трагічная. Бо яе жыццё было трагічным. «У Беласток паэтка прывезла мне стэнаграму выступлення Аляксея Карпюка на V з'ездзе Саюза пісьменнікаў БССР у Мінску 13 мая 1966 года. Яна была ўзрушана гэтым выступленнем. І я напісаў ліст Аляксею, выказаў сваю згоду з яго меркаваннямі і падтрымку. Але ж Аляксей Карпюк быў наіўным чалавекам і пачаў гэтым пісьмом хваліцца, што, маўляў, малады аўтар з Беласточчыны падтрымлівае яго. І тады зацікавілася мною савецкае КДБ. І я з-за гэтага страціў працу, быў беспрацоўным. Але мне шмат дапамагалі палякі, — адкрывае мне тайну Сакрат Яновіч. — З палякамі лёгка гутарыць, дамовіцца пра канкрэтную справу, а вось з беларусамі — цяжка. Палякі цяпер выдаюць цэлую бібліятэку беларускай літаратуры, а з боку ўладна-савецкай Беларусі ідзе толькі хамства...»

Пытаўся ў яго я і пра Юрку Геніюша. І вось што ён прыгадаў: «Юрка Геніюш у Беластоку жыў са мною побач. А я ў Беластоку пражыў 50 гадоў. Пазнаёміліся мы праз тыднёвік "Ніва", я працаваў журналістам, а ён туды часта заходзіў. Мы разам нават выдалі адну кнігу п'ес пад загалоўкам "Зборнік сцэнічных твораў" (Беласток, 1976)». Я пытаўся пры жыцці ў Сакрата Яновіча, чаму ён не працягвае пісаць п'ес, на што ён адказаў, што ніколі не збіраўся быць драматургам, а на напісанне п'ес яго натхніў і накіраваў Юрка Геніюш, таму і напісалася некалькі п'ес.

У Крынках Сакрат Яновіч пісаў найчасцей прозу і вёў свае дзённікі, бо заўважыў, што дзённікаў ніхто не пісаў. Пісаў ён у апошні час вельмі марудна. Ды, як



ён казаў, наша сялянскае асяроддзе не любіць пісаць дзённікаў. Ён запісваў факты, якія адбываліся і якія хутка знікнуць, і пра іх ніхто не будзе нічога ведаць. А для нашчадкаў жыццёвыя факты трэба захаваць. І ён занатоўваў іх.

У апошні час Сакрат Яновіч часта мне казаў, што беларускую літаратуру, культуру, мастацтва трэба **еўрапеізаваць.** Таму што ўвесь час беларуская літаратура з'яўляецца філіяй рускай, а так не павінна быць. Пры жыцці неяк між іншым спытаў я ў прафесара Алега Лойкі: паэзія якой краіны самая магутная ў свеце? Ён адказаў: польская, а на другім месцы — беларуская. Пытаюся: а расейская? Адказвае, што расейская не, бо яна бальшавіцкая, камуністычная, савецкая і г. д. Алег Лойка пераклаў двухтомнік анталогіі польскай паэзіі «Напярэймы: ад Буга да Варты» (Мінск, 2003), куды ўвайшлі вершы, пачынаючы ад Цыпрыяна Норвіда, Марыі Канапніцкай і да Марціна Галася — разам 180 аўтараў. Працягваючы думкі Сакрата Яновіча, ды і руская літаратура ўзнікла пад уплывам еўрапейскай. І прывёў мне прыклад з рускім паэтам Аляксандрам Пушкіным. Скажам, каб зразумець Пушкіна, трэба ведаць французскую літаратуру. Калі яе не ведаеш, то Пушкіна дасканала не зразумееш. Бо Пушкін рос у асяроддзі французскай культуры. Яго маці ненавідзела расійскую мову. Яна Сашу Пушкіна, калі ён размаўляў па-расійску, нават біла! І напачатку ён пісаў выключна па-французску. Але хто нам аб гэтым сёння і пры бальшавіках казаў? Ніхто... У Савецкім Саюзе пераважаў расійскі шавінізм...

Сакрат Яновіч быў суб'ектыўным і розным і ў адносінах да беларускай культуры. Успамінаю яго радкі з дзённіка, якія былі апублікаваныя ў «Czasopise» ў № 07–08 за 2004 год і якія мяне вельмі ўсхвалявалі. Яны не даюць спакою мне і да сённяшніх дзён. А справа ў тым, што Сакрат Яновіч прыгадаў тое, як падчас

сустрэчы са студэнтамі Брэсцкага ўніверсітэта Ян Чыквін вясною 2004 года сказаў (даслоўная цытата па дзённіку Сакрата Яновіча): «Янка Купала не быў той велічу, якая нам уяўляецца: з мізэрнай адукацыяй, нядбайным пяром, з засцянковай ненаеднасцю, лёгка “купленым” саветамі і штучна ўзвышаны імі, тармазіў таленты, напр. Багдановіча, Арла. З перапевамі Młodej Polski». Вось, аказваецца, які быў наш беларускі песняр Янка Купала! Пры сустрэчах я некалькі разоў пытаўся пра гэта ў Сакрата Яновіча, і ён пагаджаўся з Янам Чыквінам. А сказанае пра Янку Купалу добра пракаментаваў па маёй просьбе народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін: «Янку Купалу саветам так і не ўдалося зрабіць сваім. Давялося знішчыць фізічна... Але Янка Купала — неба беларускай нацыі. А неба хапае на ўсіх...»

Вось такім і застаўся ў маёй памяці Сакрат Яновіч. У нечым я пагаджаўся з ім, у іншым — не. Але да сённяшніх дзён памятаецца яго рэпліка: «Толькі нацыя мае будучыню, ніколі насельніцтва, зазвычай бяздумнае, бо кіруецца не душою, а жыватом, тоўстай кішкаю...»

## Паэт верыць людзям і жыццю

*Да 90-годдзя з дня нараджэння беларускага паэта з Беласточчыны Віктара Шведа*

Вёска Мора на Беласточчыне — гэта радзіма старэйшага беларускага паэта Віктара Шведа, якому 23 сакавіка 2015 года споўнілася 90 гадоў. Пяць гадоў таму мы трымалі ў руках яго прыгожую і шчырую кнігу вершаў «Адплываем з Мора». Ужо тады паэт пісаў, што амаль усе яго сваякі з роднай вёскі Мора адплылі ў іншы свет, а цяпер наступае яго чарга. Я напісаў артыкул пра той зборнік вершаў і назваў яго «Адплываць з Мора яшчэ рана». Ды куды адплываць, калі наперадзе шмат спраў, планаў, літаратурных задумак і адкрыццяў. Эрнест Хемінгуэй некалі напісаў празаічны твор «Стары чалавек і мора». Калі б сёння жыў прадзядуля Хемінгуэй і калі б ён сваё апавяданне прысвяціў Віктару Шведу, то ён яго назваў бы не інакш, як «Малады чалавек і Мора». Бо Віктар Швед, нягледзячы на свае дзевяць дзясяткаў гадоў, заўсёды малады, прыгожы, шчаслівы, натхнёны, што нам, маладзейшым літаратарам, застаецца толькі яму пазайздросціць, браць з яго прыклад, вучыцца ў яго літаратуры і аптымізму. А роднае яму Мора па-ранейшаму натхняе яго на новыя творы, вяртае ў маленства і юнацтва, якія не даюць яму старэць і падаць духам. Вось такі ён, Віктар Швед.





• *Віктар Швед*

А яшчэ ён вельмі шчыры беларус. Пра гэта паэт адкрыта і публічна сказаў ажно ў 1957 годзе, калі ў беларускім тыднёвіку «Ніва» апублікаваў свой першы верш «Я — беларус». А потым пра тое, што ён беларус, што мова наша беларуская, што мы павінны гэтым ганарыцца, — паэт піша ў кожным сваім паэтычным зборніку. Нацыянальная тэма скразной лініяй праходзіць праз усю творчасць Віктара Шведа:

Мы жыць не хочам у няволі.
І беларускай роднай мовы
Не адцураемся ніколі.
Памерці за яе гатовы...

Віктар Швед — пясняр беларускай вёскі на Беласточчыне. Сваёй роднай вёсцы Мора ён прысвяціў дзясяткі паэтычных радкоў. Шмат настальгічных вершаў

па вясковаму маленству і юнацтву, па тых гадах, калі беларуская вёска сапраўды была вялікай, гамандлівай, таленавітай, народнай і дружнай. Толькі сапраўдны паэт можа так апісаць вёску свайго маленства, як гэта рабіў неаднойчы Віктар Швед. Ну, скажыце, чым не хрэстаматыйныя радкі:

Дзедаўская хата
Поўна экспанатаў.
З карэнняў калыска,
Гліняная міска,
Драўляная лыжка,
Двайная гладышка,
Святыя іконы,
Круглы серп зублёны,
Вялікія кросны,
Кадаўбец дзівосны,
Каменныя жорны,
Дзяжа на хлеб чорны,
Стары калаўротак,
Са сноўніцай мотак,
Гладка качалка,
Крэсіва-запалка...

Віктар Швед са сваёй мілай спадарыняй Валянцінай вельмі шчырыя, адкрытыя і адказныя ў любой справе людзі. З імі адчуваеш аптымізм, надзею і веру ў самае светлае і добрае. Аптымізм уласцівы і паэзіі Віктара Шведа. Не бяздумны, як, скажам, у вядомага героя вальтэраўскай аповесці «Кандыд» Панглоса з яго філасофіяй «Усё, што на свеце ні робіцца, — на лепшае», а жыццёва дзейсны. І таму нам блізкі і зразумелы клопат паэта пра заўтрашні дзень Беларусі, роднай мовы, беларусаў, калі ён піша:

Таму сэрца маё суму поўнае,
Чаму так у нас бесталкова?
Чаму Беларусь рускамоўная,
Калі маем уласную мову?..



Дабрата, шчырасць, інтэлігентнасць духу — вось тыя рысы, якія вызначаюць сёння характар лірычнага героя Віктара Шведа. Гэтыя рысы прысутнічаюць у зборніках вершаў «Жыццёвыя сцежкі» (1967), «Дзяцінства прыстань» (1975), «Дружба» (1976), «Мая зялёная Зубровія» (1990), «Родны схоў» (1991), «Wiersze wybrane» (1997), «Выбраныя вершы» (2000), «Lata wiatr skrzydlaty» (2000), «Мае Айчыны» (2003), «Адплываем з Мора» (2010) і ў іншых. Віктар Швед, і я заўсёды пра гэта казаў і кажу, не мудрагеліць у паэзіі, не філасофствуе над праблемамі і чалавечым жыццём наогул, а таксама ў напісанні і пабудове саміх вершаў. Ён заўсёды быў і застаецца прыхільнікам традыцыйнай паэзіі.

Чытаючы вершы Віктара Шведа, адчуваеш жывую душу чалавека, яго імкненне сказаць сваё запаветнае. Яго вершы абуджаюць думку і пачуццё. Паэтычны свет беларускага паэта з Беластока — гэта свет сціпласці, стрыманых пачуццяў і замілавання някідкай прыгажосцю жыцця. Паэт — у лепшых і найбольш характэрных для яго творах — настройвае нас на хвалю нейкай асаблівай спагадлівасці, даверлівай шчырасці. З ім, з яго лірычным героем прыемна быць побач: радавацца жыццю і перажываць яго неўладкаванасць, верыць у шчасце, у будучыню, смуткаваць аб праляцеўшай маладосці і трывожыцца за будучыню не толькі Беларусі, а ўсяго свету, арганічна і проста быць сваім сярод людзей, сваім і пры нялёгкім успаміне, і ў хвіліну весялосці.

Паэт усё ж заўсёды верыць людзям і жыццю. Ён стараецца прапаведаваць шчырасць і натуральнасць чалавечых узаемаадносін і заўсёды горнецца душою да нас, яго чытачоў, запрашаючы да ўзаемнасці і паразумення.

Шмат вершаў Віктар Швед прысвяціў сваім землякам, сябрам, знакамітым беларусам, якія жывуць з ім побач і якіх даўно няма. Многіх з іх ён асабіста ведаў, сустракаўся, сябраваў. Праз яго паэтычныя радкі пра-

ходзяць такія асобы, як прафесар Васіль Белаказовіч, Васіль Быкаў, Кастусь Майсеня, Ада Чачуга, Яўген Міклашэўскі і дзясяткі іншых. Ён напісаў і апублікаваў шэраг артыкулаў-успамінаў пра тых людзей, якіх ведаў у Польшчы, Беларусі і ў іншых краінах свету.

Віктар Швед у сваіх вершах заўсёды паэтызуе пагодненасць сэрцаў, узаемны давер і рашуча адмаўляе няшчырасць і здраду. Без суладдзя з дабратой, чалавечнасцю для яго немагчымы свет, разбураюцца сувязі не толькі паміж людзьмі, але і паміж чалавекам і прыродай:

Калі цябе не любяць людзі,
Дык ты нікога не віні.
Адмоўна аб табе ўсе судзяць,
Бо ты пазбаўлен дабрыні.

Шмат паэтычных радкоў Віктар Швед прысвяціў дзецям. З друку выйшлі яго кнігі вершаў «Вясёлка» (1991), «Вершы Натальцы» (1998), «Смяшынкі» (2009) і іншыя. Асабліва папулярныя на Беласточчыне яго вершы-смяшынкі, якія аўтар пастаянна друкуе на старонках беларускага тыднёвіка «Ніва». Як сказала неяк Тэрэза Занеўская, у смяшынках Віктара Шведа «быццам у люстры адбіваюцца з'явы штодзённага жыцця і цэлае багацце сітуацый, якое яно нясе з сабой». Героямі вершаў-смяшынак паэта з'яўляюцца дзеці, дарослыя, жывёлы, з'явы прыроды — усе разам яны захапляюць чытачоў сваім гумарам і настроем. Вось адзін з такіх вершаў-смяшынак:

Пытае мама сынка Колю:
— Як адчуваеш сябе ў школе?
Адказвае сыночак маці:
— Быццам у камісарыяце:
Там, мая мама дарагая,
Усё пытаюць і пытаюць.



Пытаюць часта, надта многа...
А я не ведаю нічога.

Сёння пра творчасць юбіляра можна разважаць доўга. Бо за 90 гадоў пражыта, напісана і надрукавана вельмі шмат. Паэт заўсёды даражыў і даражыць творчай радасцю, верыў і верыць у беларускае слова, яго вялікія магчымасці і дзейсную сілу.

*2015, сакавік*

## Слова пра Вольгу Грыцук

Пачну з верша. Гэты верш нядаўна мне даслаў выдатны наш паэт, даследчык беларускай культуры, краязнавец Сяргей Панізьнік. Верш прысвечаны слаўнай беларусцы Вользе Грыцук з Канады. Эпіграфам верша служаць радкі Вольгі Грыцук з дому Дуброўскіх: «Мая радзіма — Дзісеншчына... І я не магу зразумець тых, хто лёгка забываецца на сваю зямлю, сваю мову, на ўсё, што робіць чалавека чалавекам». А верш гучыць так:

Жыла ў Дзісне з Дуброўскімі, Ластоўскімі,
Тут чула Жаўняровіча псалмы...
Дасюль Дзісна ні крыгамі, ні войскамі
Не змецена: тут Адзігітрыя і мы.
Да Друі, да Лявонпаля, да Браслава
Схіляюцца чупрыны курганоў.
І сёння ёй, Васільеўне, прыўкраснага
Тут вельмі многа для паромаў-сноў.
Дарожкаўскую вуліцу з каштанамі,
Муры, капліцу помніла дзяўчо...
...Пранесліся нягоды — ураганамі
І пад спадзеў падстаўлена плячо.
Каханейка пякучае не стоміцца
Збіраць сляды дзяцінства ля Дзвіны...
Ёй здзейсніцца Дзісна! Вярба памоліцца,

Каб наша суайчынніца-патомніца
Прыйшла на фэст пад родныя званы.



• *Вольга Грыцук*

Вядома, прыйдзе спадарыня Вольга на фэст, на свой фэст юбілейны, на свой фэст вялікі, шчыры, светлы, беларускі — 29 кастрычніка 2013 года ёй спаўняецца 90. І прыйдуць на фэст усе беларусы Канады, Амерыкі, Бельгіі, Германіі, ЗША, Польшчы, Англіі, Беларусі, каб павіншаваць яе з гэтым слаўным юбілеем. А хто на фэст не патрапіць, дык ён абавязкова знойдзе Вольгу Грыцук у канадскім горадзе Кінгстане, каб абняць яе і пажадаць здароўя і яшчэ здароўя, а таксама падзякаваць за ўсё добрае, што яна зрабіла за сваё жыццё і што працягвае рабіць для беларускай культуры, нягледзячы на свой вялікі ўзрост.

Лісты ад Вольгі Грыцук, якія атрымліваю з Канады, пазнаю адразу па прыгожым, роўненькім почырку. Адкрываю канверт і чытаю: «Пра Вашу кніжку “З беластоцкай зямлі”, якую выдала ў Беластоку Праграмная Рада Тыднёвіка “Ніва”, я атрымала шмат добрых ацэнак і задавальнення ад беларусаў для якіх я выслала Вашу кніжку. Доктар Вітаўт Кіпель з Нью Ёрку прыслаў мне ліст у якім піша, што шмат чытаў, але Ваша кніжка дапоўніла ягоныя веды. Казаў таксама, што такой кніжкі, добрай кніжкі ніхто яшчэ не напісаў. Пішыце больш, бо гэта вельмі важна і патрэбна для адраджэння нашай Бацькаўшчыны вольнай і незалежнай...»

У іншым пісьме спадарыня Вольга паведамляе: «Сёлета (маецца на ўвазе ў 2011 годзе. — *С. Ч.*) у красавіку



ў Вербную нядзелю адведалі мяне з Таронта уладыка Святаслаў, які прывёз з сабой спадарынь Наталлю Гардзіенка і Віялету Кавалёву. Наша беларуская арганізацыя Згуртаванне беларусаў Канады ў Таронта запрасіла спадарыню Гардзіенка напісаць кніжку пра Згуртаванне беларусаў у Канадзе. Спадарыня Гардзіенка прыехала ў Канаду на цэлы месяц. Ездзіла ў Манрэаль, Атаву, шукала матэрыялы на кніжку. Да мяне прыехала ў апошні дзень перад выездам у Беларусь. Калі кніжка будзе выдадзена, не ведаю. Усе паперы і дакументы яна сфатаграфавала...»

У пісьме пытаюся ў спадарыні Вольгі, ці кантактаваў яе муж Алесь Грыцук з беларусамі, калі вучыўся ў Варшаўскім універсітэце. Спадарыня Вольга хутка піша адказ, дзе паведамляе і пра Алеся Грыцука: «Мой муж у тым часе ў Варшаве не жыў. Ён у 1930-х гадах настаўнічаў у Браславе і завочна вучыўся ў Варшаўскім універсітэце на гістарычным факультэце. Скончыўшы навуку, ён атрымаў дыплом з тытулам магістра. Я пераглядзела ўсе ягоныя паперы і нічога не знайшла: ані дакументаў, ані лістоў і здымкаў з таго часу. Таксама не ведаю, ці мой муж меў якія-небудзь кантакты з беларусамі ў Варшаве. У 1939 годзе яго з Браслава мабілізавалі ў польскае войска і паслалі на фронт абараняць Варшаву. Там ён быў паранены і забраны ў нямецкі палон. Ляжаў у шпіталі ў Варшаве. Калі набраўся сіл і раны загаіліся, Алесь са шпіталю ўцёк дадому ў Плянту да бацькоў на Беласточчыну. У тым часе Беласточчына ўжо была акупавана Савецкім Саюзам...»

Пажаніліся Аляксей (Алесь) Грыцук з Беласточчыны і Вольга Дуброўская з Дзісеншчыны 1 лютага 1958 года. Як бачыце, у спадарыні Вольгі сёлета два юбілеі: 55 гадоў таму яна выйшла замуж за беластоцкага беларуса, і свой уласны юбілей.

Шлях Вольгі Дуброўскай да Аляксея Грыцука быў няпростым і доўгім. Пра гэта яна вельмі дакладна і

шчыра напісала ў сваёй кнізе «Мы стваралі сваю Беларусь» (Мінск, 2007). Кніга ўнікальная, цікава чытаецца, шмат фактаў з уласнай біяграфіі і з біяграфіі Аляксея Грыцука, з жыцця беларусаў у Канадзе.

На Захад Аляксей Грыцук з Беласточчыны паехаў у 1944 годзе. А ў Канаду ён дабраўся параходам з Італіі ў студзені 1948 года. Яго ўзялі ў гэтую краіну па кантракце, які трэба было адрабіць. Цэлы год ён працаваў лесарубам. Было яму нялёгка. Ён перапісваўся толькі з Міколам Ганько. І праз Міколу Алесь выйшаў на Згуртаванне беларусаў Канады, арганізаванае Кастусём Акулам. А калі скончыўся тэрмін кантракту, Аляксей Грыцук прыехаў у Таронта. І там уладкаваўся на фізічную працу і штодня вучыў англійскую мову. У Таронта ён актыўна ўключыўся ў беларускае жыццё. А Вольга Дуброўская ў гэты час ужо жыла ў Польшчы, яны сталі перапісвацца. Тым часам сябры Алеся Грыцука ў Канадзе сталі пацiху жаніцца, а ён чакаў сваю Вольгу. І вось той дзень наступіў. Вольга Грыцук успамінае: «Увечары са сталіцы Англіі я ляцела трансатлантычным самалётам у Манрэаль з перасадкай у Таронта. У цудоўны сонечны дзень, гадзіне 11-й мяне сустрэў з групай сяброў Алесь — дарагі, чаканы. Ён бег насустрач, схапіў у абдымкі, пакружыў некалькі разоў, аж закружыў мне галаву. Мы абое расплакаліся. Яго сябры апладзіравалі і крычалі: "Горка, горка!" А там завезлі нас на кватэру, якую наняў ва ўкраінцаў Глушкоў. Алесь падрыхтаваў сюрпрыз: сам склаў з купленых ім дэталяў тэлевізар і паставіў яго ў пакоі. Тэлевізар тады яшчэ быў вялікай навіной, і мяне ўразіла, што Алесь змог яго сам зрабіць. Ён доўга нам служыў. Першы куплены тэлевізар мы займелі ўжо потым, калі пераехалі ў Кінгстан...»

1 лютага 1958 года Алесь і Вольга ўзялі шлюб. А 8 студзеня 1959 года ў іх нарадзілася дачка Юльяна.



Вольга Грыцук, натхнёная сваім мужам, стала ў Канадзе актыўнай дзяячкай беларускага руху. У 1965 годзе яна была адной з заснавальніц Згуртавання беларускіх жанчын Канады. А 6 снежня 1975 года яе абралі старшынёй Згуртавання. Гэту арганізацыю Вольга Грыцук узначальвала 18 гадоў — да 1993 года.

І 18 гадоў Вольга Грыцук пражыла з Аляксеем Грыцуком. Яго не стала ў траўні 1976 года. Перад смерцю ён казаў: «Беражы Юльянку і глядзі, каб не страціць дом. Я ведаю, ты моцная, ты ўсяму дасі рады».

І мужная жанчына-беларуска сапраўды аказалася моцнай. Яна дала адукацыю дачцэ, дачакалася ўнучку Сафію... Спадарыня Вольга жыла і за сябе, і за Алеся. І працягвае жыць і думаць пра лёс Беларусь і вельмі спадзяецца, што народ беларускі будзе шчаслівы.

У яе кнігу «Мы стваралі сваю Беларусь» увайшлі і ўспаміны пра Алеся Грыцука. Але ў гэтых успамінах ёсць і радкі-характарыстыка пра Вольгу Грыцук. Барыс Аляксандрыў кажа пра яе так: «Оля — сціплая, разважная і чуйная». Раіса Жук-Грышкевіч напісала, што «Любіў Алесь Грыцук прыгаство, і Бог надарыў яго прыгожай жонкай Вольгай і дачкой Юльянай». Вольга Іпатава шчыра апісвае: «Вольга Грыцук і цяпер захавала былую прыгажосць — сінія вочы, акварэльныя фарбы твару, стройную постаць, мілую ўсмешку і нейкую даверлівую чуллівасць».

Гляджу на фотаздымак спадарыні-беларускі Вольгі Грыцук і думаю: няўжо за плячыма гэта прыгожай і мужнай жанчыны дзевяць дзясяткаў гадоў? Шмат ёю пражыта, шмат пабачана, шмат зроблена. Хочацца верыць, што яе жыццёвы фэст будзе працягвацца да наступных юбілеяў, бо для беларусаў і Канады, і Беларусі, і Польшчы, спадарыня Вольга заўсёды з'яўлялася прыкладам, як трэба шчыра любіць сваю Бацькаўшчыну, свой народ, родную мову. Любіць, шанаваць,

перажываць за беларускасць да апошняга дыхання, да апошняга імгнення.

*2013*

## Даследчыца беларускай мовы 1920–1930-х гадоў



• *Аліцыя Барута-Садкоўскі з мужам*

Застаць дома доктара філалогіі, выкладчыцу кафедры сучасных моваў Універсітэта Паўночнай Аёвы ў горадзе Сідар Фолс штата Аёва ў ЗША беларуску з Гайнаўкі, што на Беласточчыне, Аліцыю Барута-Садкоўскі вельмі цяжка. Нядаўна яна зноў пэўны час адсутнічала, бо была далёка ў камандзіроўцы. Адтуль вярнулася дамоў, але зноў яе чакаюць справы выкладчыцкія, справы навукоўцаў-славістаў то ў Еўропе, то ў Канадзе на штогадовым з'ездзе Таварыства амерыканскіх славістаў, то ў іншых краінах і кантынентах. І каб пагутарыць хаця б па тэлефоне ці праз Інтэрнэт, нашу зямлячку трэба было шукаць усюды. Так я і рабіў некалькі тыдняў і нават месяцаў, пакуль нарэшце не дачакаўся ад яе весткі. Спадарыня Аліцыя пагадзілася адказаць на мае пытанні і перадала самыя шчырыя прывітанні ўсім беларусам.



— *Спадарыня Аліцыя, скажыце, калі ласка, дзе і ў якой сям'і вы нарадзіліся?*

— Я нарадзілася ў Гайнаўцы 27 сакавіка 1961 года. Мой бацька быў родам з вёскі Скупава, але, калі ажаніўся, жыў у Гайнаўцы. Яго ўжо няма ў жывых, ён памёр у 1982 годзе. Мама родам з Ласінкі. Яна, дзякаваць Богу, яшчэ жыве ў Гайнаўцы. Мама і тата ў хаце заўсёды размаўлялі на роднай беларускай мове з мясцовым дыялектам. У іх і я навучылася роднай мове, якую берагу ў сэрцы да сённяшніх дзён.

— *Дзе вы вучыліся, што скончылі?*

— Пачатковую і сярэднюю адукацыю я атрымала ў Гайнаўцы. Скончыла беларускі ліцэй. Затым паступіла ў Варшаўскі ўніверсітэт на факультэт беларуска-рускай філалогіі, дзе ў 1985 годзе атрымала ступень магістра. Тэмай магістарскай працы з'явіліся польска-беларускія літаратурныя адносіны ў першай палове 1980-х гадоў, што потым паўплывала на тэму маёй доктарскай працы.

— *А які лёс вас закінуў ажно ў Амерыку?*

— Калі вучылася ў Варшаве, пазнаёмілася са сваім будучым мужам Конрадам. Ён родам з Польшчы, але ўсё жыццё яго бацькі, браты і ён жывуць у ЗША. Таму пасля заканчэння ўніверсітэта я паехала да яго і ў 1987 годзе выйшла замуж. Адсюль у мяне цяпер і два прозвішча: Барута-Садкоўскі. Муж мой — гісторык, выкладае гісторыю Еўропы. У нас растуць два сыны — Бен, яму 17 гадоў, і Карол, яму 15 гадоў.

— *І чым вы займаліся ў Амерыцы, калі туды прыехалі?*

— У 1988 годзе я паступіла ў Мічыганскі ўніверсітэт у горадзе Ан-Арбор штата Мічыган на кафедру славянскіх моваў і літаратур, дзе ў 1997 годзе атрымала ступень доктара філалогіі.

— *І якая была тэма вашай доктарскай дысертацыі?*

— Па-беларуску тэма маёй доктарскай дысертацыі гучыць так: «Развіццё беларускай літаратурнай мовы ў

1920-х і 1930-х гадах на падставе гарадскіх варыянтаў Гародні, Вільні і Менска і ўплыў расейскай і польскай моў на гэта развіццё». На ангельскай мове гэта тэма гучыць неяк не так доўга, як па-беларуску.

— *Чым вы займаліся пасля абароны доктарскай дысертацыі?*

— У 1995 годзе я з сям'ёй пераехала ў Аёву у горад Сідар-Фолс, дзе цяпер працую ва ўніверсітэце Паўночнай Аёвы, вяду заняткі па рускай і польскай мовах, па рускай і польскай літаратурах і агульныя заняткі па гісторыі Расіі, а таксама працягваю свае даследаванні ў галіне беларускай мовы. Часта ўдзельнічаю ў краёвых і замежных канферэнцыях, дзе выступаю з дакладамі пра беларускую літаратурную мову. Прымала ўдзел у Першым і Другім Міжнародных кангрэсах у Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка і ў Трэцім Міжнародным кангрэсе беларусістаў. З'яўляюся членам краёвых і замежных аб'яднанняў беларусістаў і славістаў. Публікую артыкулы пра развіццё беларускай літаратурнай мовы 1920-х і 1930-х гадоў.

— *А ў сваёй сям'і на якой мове вы размаўляеце?*

— У жыцці мы размаўляем на польскай мове, але мае сыны ведаюць і беларускую мову, хоць не так дасканала, як я, але ж ведаюць. Ды і мне самой цяпер прыходзіцца рэдка размаўляць на сваёй роднай мове, часцей за ўсё падчас беларускіх сустрэч, навуковых канферэнцый і г. д. Але, шчыра скажу, Беларусь і беларусы для мяне вельмі блізкія. Кожны раз, калі пабываю ў Мінску, мне здаецца, сустракаюся з такой цеплынёй, якую чалавек атрымлівае толькі ад самых блізкіх людзей. Уладзімір Васілевіч, мой дарагі сябра, з якім вы таксама знаёмыя і які калісьці прыязджаў у Сідар Фолс і прачытаў даклад пра беларускую этнаграфію, заўсёды мне дапамагае, калі я ў Мінску.

— *А ці часта бываеце ў Гайнаўцы на Беласточчыне?*



— Амаль кожны год я з мужам прыязджаю ў Кракаў, дзе муж вядзе заняткі па гісторыі, а я выкладаю польскую мову. А летам мы едзем у Гайнаўку да маёй мамы. Вось і сёлета ў чэрвені зноў наведалі маму. Асабліва ў Гайнаўцы любяць бываць мае сыны. А я — тым болей, я ж прыязджаю дадому, дзе чую голас мамы, сваякоў і родную мову.

*2011*

# Кнігі

## «Падарункі» беларускім дзеткам ад Міры Лукшы

*Міра Лукша. Падарункі. Беласток, 2014*

Даўно мару сабраць пад адну вокладку вершы беларускіх паэтаў, прысвечаныя хатнім жывёлкам — коцікам. І назваць кніжку радкамі Якуба Коласа — «Жыў пярэсценькі каток...». Бо няма ў Беларусі такога паэта, які б не прысвяціў катам ці коткам хоць адзін свой верш. І аформіць гэту кніжку папрасіў бы маладую беларускую паэтку і мастачку з Беласточчыны Кацярыну Сянкевіч. Менавіта яе, якая арыгінальна аформіла новую кніжку дзіцячых вершаў «Падарункі» Міры Лукшы, што з'явілася ў Беластоку ў серыі «Бібліятэка Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа». Кніжка вядомай не толькі ў Польшчы, але і ў Беларусі беларускай паэткі, празаіка і журналісткі Міры Лукшы была б значна бяднейшай без малюнкаў Кацярыны Сянкевіч. Мастачку да сваёй кнігі вершаў спадарыня Міра знайшла вельмі файную. Не губляюцца малюнкі яе сярод добрых вершаў, а часам, наадварот, малюнкі дапаўняюць вершы, як, напрыклад, малюнак акна да верша «Люты», малюнак коткі да верша «Школьная Мурка», малюнак да верша «Зубная шчотка», малюнак да верша «Ірыней» ці малюнак жука да верша «Жук» і г. д. І яшчэ здзіўляе, што малюнкі ў кнізе і сама вокладка зроблены мастачкай пчаліным воскам.

Чаму я пачаў, пішучы пра новую кнігу Міры Лукшы «Падарункі», з мастачкі Кацярыны Сянкевіч? Ды таму, што гэта не адзін паэтычны зборнік, які



аформіла Кацярына Сянкевіч. Я пісаў пра яе ўласны першы зборнік паэзіі «Дачка ружы», які паэтка сама і аформіла. Выдатныя вершы, цудоўнае афармленне са сваім густам, падыходам, бачаннем радуюць не толькі беларусаў Беласточчыны за тое, што ў нашу Сустань, як пісаў Сяргей Хмара, прыйшоў новы юны талент, які трэба падтрымліваць, не спалохаць, не пакрыўдзіць. Дарэчы, зборнік паэзіі Кацярыны Сянкевіч рыхтуецца да выхаду і ў Мінску. А сёння з выхадам кнігі «Падарункі» атрымаўся добры тандэм: вопытная Міра Лукша і пачынаючая паэтка і мастачка Кацярына Сянкевіч. Малайцы!

Цяпер вернемся да твораў Міры Лукшы. Пра кніжку вершаў, прысвечаных коцікам, я распавёў таму, што ў гэту кніжку ўключыў бы з добры дзясятак вершаў пра коцікаў Міры Лукшы з яе кнігі «Падарункі». Каму-каму, а катам і коткам паэтка прысвяціла шмат радкоў. Знаёмства з імі распачынаецца ўжо напачатку кнігі з Манькі-коткі, потым коткі Муркі, якая хоча для хлопчыкаў быць падушкай, далей — са школьнай Муркай, якая пільнуе школу, з катом Марко і з паласатай коткай Соняй, з катом Феліксам, які «ежу ўпляце і шчэ болей падрасце», з катом Мікітам, што «выбраў жонку Мурку-Мурміту з вёскі Палонкі», з катом Маўрыкам, што любіць малако, і г. д. А верш «Кот Мікіта» мог бы атрымацца добрай жартоўнай песняй.

Неабдзеленыя мастацкімі вобразамі ў зборніку і іншыя звяры і птушкі. І што цікава: паэтка не проста апісвае сваіх хатніх і лясных звяроў і птушак, але амаль усе яны маюць імёны. У кнізе чытачы сустрэнуцца з пеўнем Рыгорам, з тхаром Сцяпанам і тхарыцай Міліцай, з жуком Жучкевічам, з канём Лявонам, з глушцом Гаўрылам і яго жонкай Глафірай. Па многіх вершах паэткі можна вывучаць літары. Напрыклад, у вершы «Глушэц» вельмі выразна вылучаецца літара Г: У Гру-

шках зажыў глушэц Гаўрыла… глушцам у Грушках жыць вельмі міла… Гаўрыла-глушэц — не глухі… ён з жонкай Глафірай гарцуе пад брамай…». А прачытаўшы верш «Вароны», дзеткі запомняць літару В:

Прыляцелі вароны ў Вараняны.
Здалёк яны ляцелі. Ды так рана!
З самага Варонежа сюды нясло
Варон кузінаў чорнае крыло…

Але чаму тыя вароны ляцелі да нас з расійскага горада Варонежа? Навошта нам тыя расійскія вароны? У нас і сваіх хапае. Можа, лепш было б, каб вароны прыляцелі з Воранава — з горада, які ёсць у Гарадзенскай вобласці.

Бязмежная фантазія падказвае Міры Лукшы арыгінальныя сюжэты, абставіны, прыгоды: «ідзе кукуруза на баль, захопяцца ёю госці», «зубная шчотка Веранічкі танцуе ўвечары факстрот», «жабка сохла без шапкі на сонцы ў жары-спякоце» (лепш — у гарачыні-спякоце).

Міра Лукша далёка не навічок у беларускай дзіцячай літаратуры. Раней яна выдала кнігі «Дзяўчынка і хмарка» (2006) і «Жывінкі з глыбінкі» (2009). Таму цяпер аўтарка лёгка знаходзіць арыгінальныя сюжэты, піша весела, мудра, пераважае ў яе вершах своеасаблівая казачная плынь. Часам здзіўляе паэткі невычэрпная прыдумка, сапраўднае вынаходніцтва ў стварэнні вершаваных вобразаў, казачных сітуацый. Амаль у кожным вершы паэтка знаходзіць нешта новае, каб захапіць юных чытачоў, развіць у іх фантазію, мастацкае мысленне. Гэтая навізна для дзетак ужо адчувалася па кнізе «Жывінкі з глыбінкі», тыя ж назовы вершаў: «Баран з Баранак», «Верабей з Вераб’ёў», «Карова з Малочак», «Козлік з Козлікаў», «Малпа з Абезянава» і іншыя гавораць самыя за сябе. Гэтымі наватарскімі пошукамі Міра Лукша па-майстэрску ўзнімае агульны



эстэтычны ўзровень твораў для дзяцей. Калі я чытаю падобныя яе вершы, мне прыгадваецца верш Міхася Скоблы пра слоніка, які не хацеў жыць нідзе: ні ў Гародні, ні ў Менску, ні ў Слуцку, ні ў Белавежы, таму што:

Слонік моўчкі сеў на ўслоне.
Як сказаць без слоўніка:
— Слонік я, хачу я ў Слонім.
Пашкадуйце слоніка!

Міра Лукша шкадуе сваіх герояў. Таму конь у яе кніжцы нідзе не можа лепш жыць, як у Канюшках, а звярок — у Звярках, Жоравы — ва ўрочышчы Жураўлік, вароны — у Варанянах.

Ёсць у «Падарунках» і верш «Нарада ў Мёрах». Як бачыць дзеці не толькі начытаюцца добрых вершаў, але і вывучаць геаграфію сваёй мясцовасці, Беларусі. Яны абавязкова спытаюць: а дзе ж тыя Мёры? А Мёры — у Віцебскай вобласці. Дык што там адбылося ў тых Мёрах:

Пава з Гандавы
І паўлін з Трнавы
Сустрэліся разам у Мёрах…

А цяпер адгорнем старонку 47 і пачытаем:

Мышка з мышкай лапка ў лапку
Поруч селі на канапку…

Цяпер спытаемся: які верш з цікавасцю прачытаюць дзеткі, а які не змогуць дачытаць? Вядома ж, дачытаюць з радасцю і хуткасцю другі верш пра мышку, бо першы пра Гандавы, Трнавы, Мёры — цяжкі для чытання і запамінання. Ён неяк «выпаўзае з абоймы» зборніка.

Цяпер пару слоў пра верш «Зайчык-гультайчык». Чытаем у першай страфе:

Скача зайка цэлы час.
Праскакаў… чацвёрты клас…

І ў апошняй страфе:

Вырас зайка, мінуў час.
І пайшоў ён ў першы клас…

У першай страфе атрымалася калька з польскай мовы: cały czas (цэлы час). Па-беларуску будзе правільна: скача зайка увесь час, а вось у апошняй страфе: мінуў час — напісана правільна…

Праўда, гэта дробязныя заўвагі. Але хацелася б, каб і іх не было.

Не толькі птушкі і звяры, хатнія жывёлкі і насякомыя з'яўляюцца героямі кнігі Міры Лукшы, а таксама і дзеці. Розныя гэтыя героі: дзяўчынка Паўлінка добра гуляе з пластылінам, дзяўчынка Соня — «капрызіць і віргае», бо спаць не хоча, а хлопчык Федзя запэцкаўся, як свінка… Ёсць яшчэ ў кнізе Расціслаў, Максім, Ілюшка, Зося, Янка і шмат-шмат іншых розных па характару і ўчынках хлопчыкаў і дзяўчынак — бо гэта пра іх і для іх напісана новая кніга беларускай паэткі з Беластока.

## Успаміны Дзмітрыя Шатыловіча

*Дзімітры Шатыловіч. Успаміны. 1955–1988. Беласток, 2013*

Упершыню з арыгінальнымі ўспамінамі беларускага паэта і публіцыста Дзмітрыя Шатыловіча я пазнаёміўся, чытаючы беластоцкі «Czasopis». З нумара ў нумар на працягу пяці гадоў яны там друкаваліся, дзе аўтар занатаваў сваё асабістае жыццё, а таксама падзеі ў Польшчы, былым СССР і наогул у свеце пачынаючы з 1955 года. Гэтыя ўспаміны працягваюць друкавацца і цяпер. А ранейшыя жыццёвыя згадкі 1955–1988 гадоў Дзмітрыя Шытыловіча выйшлі асобнай кнігай у Беластоку. Яна так і называецца «Успаміны. 1955–1988» (Беласток, 2013).



На 326 старонках старэйшы беларускі літаратар з Варшавы дасканала распавёў пра падзеі другой паловы XX стагоддзя. Дарэчы, успаміны ранейшых гадоў Дзмітрыя Шатыловіча друкаваліся ў беларускім тыднёвіку «Ніва» (Беласток), у альманахах «Беларус» (Нью-Ёрк, 2012, 2013) і ў кнігах «У новай айчыне» (Беласток, 2001. С. 265–282), «Пакаленне вайны» (Беласток, 2003. С. 220–255), «Час трывогі і надзеі» (Беласток, 2007. С. 225–289). У кнізе «У новай айчыне» Дзмітры Шатыловіч прыгадаў родную вёску Чаромху на Бельшчыне (цяпер Польшча), дзе ён нарадзіўся, у міжваенны перыяд. У «Пакаленні вайны» распавёў пра свае юнацкія гады і вайну. У кнізе «Час трывог і надзеі» літаратар успамінае пасляваенны час. Магчыма, усе гэтыя ўспаміны некалі з'явяцца ў адным томе. І гэта будзе вельмі важны, цікавы і сур'ёзны аўтабіяграфічны жыццёвы дакумент беларуса з Беласточчыны. Але цяпер у адной кнізе Дзмітры Шатыловіч вынес на суд чытачоў успаміны пасляваеннага пэўнага жыццёвага перыяду. Аўтара гэтых успамінаў рэдактар «Czasopisu» Юры Хмялеўскі ў прадмове да кнігі назваў летапісцам, які з Падляшша родам.

Сапраўды, Дзмітры Шатыловіч — летапісец. Прытым вельмі змястоўны, дасканалы, шырокі ў геаграфічных развагах і гістарычных фактах.

На вокладку кнігі ўспамінаў аўтар вынес здымак Варшаўскага палаца культуры і навукі, на які заўсёды звяртаюць увагу турысты ці проста людзі, якія бываюць у Варшаве. «Гэта Сталін падараваў будынак Варшаве», — кажуць заўсёды палякі. Дзмітры Шатыловіч распавядае, што гмах савецкія працаўнікі здалі 28 кастрычніка 1955 года. У ім адкрыліся но-

выя кінатэатры, тэатры, рэстараны і залы, людзі сталі катацца на хуткім ліфце наверх, каб зверху аглядаць Варшаву. Палац гэты будавалі з 1952 года. Далей літаратар апісвае, што на праваслаўных могілках на Волі знаходзяцца магілы савецкіх працаўнікоў, якія загінулі ці памерлі ў час пабудовы палаца. Загінулі, як сцвярджае аўтар успамінаў, 14 працаўнікоў і двое дзяцей. «Я сам калісьці здалёк бачыў, як адзін рабочы адарваўся і ляцеў уніз з высокага паверха. Тады я не чуў, каб нехта сказаў, што палац трэба разбураць, хаця і не ўсім ён падабаўся», — піша спадар Шатыловіч.

Успаміны варшаўскага беларуса можна падзяліць на ўмоўныя раздзелы: сямейнае жыццё, літаратурная справа, Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы (БГКТ), палітыка, СССР, Польшча і іншыя краіны свету, здарэнні і падзеі. Каго што цікавіць — той і зможа знайсці для сябе розныя факты. Але дзеля гэтага неабходна прачытаць усю кнігу. Мяне, напрыклад, зацікавіў такі факт, што ў 1955 годзе ў Польшчы нарадзілася 793,8 тысячы дзяцей. «Гэта быў год самага высокага прыросту насельніцтва ва ўсёй гісторыі краіны», — піша Дзмітры Шатыловіч.

На старонцы 20 аўтар успамінае той час, калі ў Савецкім Саюзе ў 1934 годзе забілі палітычнага дзеяча Сяргея Кірава. Людзі пра гэта вялі гутарку нават у 1940–1950-х гадах. Размаўлялі пра тое здарэнне і нават спявалі прыпеўкі:

Эх, огурчики, помидорчики,
Сталин Кирова пришил в коридорчике.

А Дзмітры Шатыловіч прыгадвае, што яму ў 1940 годзе адзін савецкі салдат нават заспяваў і такую прыпеўку:

Семёновна, да юбка свалена,
Убили Кирова, убьют и Сталина.



Сотні палітыкаў розных краін і эпох праходзяць праз успаміны пісьменіка. Праўда, чамусьці Ягоду аўтар называе Ягада, хаця ён далёка не быў ягадай і ягадкай, а сапраўднае яго прозвішча Ягода. А кітайскага палітыка Маа Цзэдуна аўтар называе Маа Дзедунгам (с. 34).

Спадабаўся мне факт у кнізе, калі былы камуністычны дзеяч Польшчы Уладзіслаў Гамулка кінуў заклік пабудаваць тысячу школ да 1000-годдзя Польшчы. Дзіўныя людзі часам траплялі і трапляюць у палітыку!..

Дзмітры Шатыловіч — ветэран беларускага руху ў Польшчы. Вельмі добра, што ў сваіх успамінах ён занатаваў і беларускія справы. Вось аўтар паведамляе, што 30 сакавіка 1958 года ў Беластоку адбыўся Другі з'езд БГКТ, на якім заклікалі, каб у кожнай вёсцы на Беласточчыне быў гурток БГКТ, каб БГКТ усю сваю дзейнасць скіравала для ўмацавання народна-дэмакратычнай улады ў Польшчы і каб у кожнай беларускай вёсцы была беларуская школа. А тады на Беласточчыне было ўжо 57 школ з беларускай мовай навучання і 116 школ, дзе беларуская мова вывучалася як прадмет. У пачатковых школах 8861 дзіця вучылася па-беларуску і было два беларускія ліцэі. Старшынёй БГКТ у той час быў абраны Уладзімір Станкевіч, былы дзеяч КПЗБ. А яго намеснікамі выбралі Аляксандра Давідзюка і Піліпа Кізевіча, сакратаром — Віктара Шведа. Хацелася б, каб аўтар успамінаў трохі пра Станкевіча, Давідзюка і Кізевіча прыгадаў. А калі такіх згадак няма, я пару слоў скажу пра Піліпа Кізевіча. Таго самага Піліпа Кізевіча, які ў 1930-х гадах быў сябрам Галоўнай управы ТБШ, дзе ён арганізаваў і кіраваў курсамі для дарослых на Беласточчыне. Пра сваю прапанову і пра курсы ён нават напісаў артыкул і апублікаваў у 1933 годзе ў часопісе «Летапіс ТБШ». Дзякуючы Піліпу Кізевічу, Беластоцкай акруговай управаю ТБШ быў наладжаны ў 1930-х гадах цыкл лекцый па ўсёй акрузе, кожны гурток ТБШ ставіў спектаклі ў сваёй і суседніх вёсках,

праводзілся заняткі з няграматнымі і малаграматнымі сялянамі. Напрыклад, у Пяшчаніцкім гуртку ТБШ былі арганізаваны курсы для дарослых, якія складаліся з дзвюх груп: непісьменнай і малапісьменнай. У першай групе выкладалася беларуская мова, вучыліся чытаць і пісаць, а таксама складаць і рашаць. Вывучалася і геаграфія Беларусі. У сваім артыкуле «Курсы для дарослых» (Летапіс ТБШ. 1933. № 3–4) Піліп Кізевіч пісаў: «Недалёка тая хвіліна, калі і наша старонка падымецца, вырвецца з ланцугоў цемры». Мара Піліпа Кізевіча збылася.

Але зноў вернемся да ўспамінаў Дзмітрыя Шатыловіча. Добра, што ў іх аўтар вельмі шмат месца адвёў пра БГКТ, літаратурнае аб'яднанне «Белавежа», пра «Ніву». Хораша ён згадвае прамысловае прадпрыемства «Бэтэска», якое фінансавала БГКТ і дырэктарам якога быў Пятро Ластаўка.

Мне спадабаўся момант ва ўспамінах, калі Шатыловічы ў Рабку на адпачынку сустрэлі бацьку, маці і цётку архітэктара і прафесара Аляксандра Грыгаровіча, які праектаваў царкву ў Ялоўцы, сабор св. Тройцы ў Гайнаўцы і царкву св. Міхаіла ў Бельску-Падляшскім. Жонка Дзмітрыя Шатыловіча Ніна ведала Грыгаровічаў яшчэ да вайны.

У сваіх успамінах аўтар на працягу 33 гадоў зафіксаваў розныя зямныя катаклізмы, здарэнні, катастрофы: калі і дзе яны адбыліся, з чым гэта было звязана, якія людскія ахвяры яны прынеслі і г. д. Сам Дзмітры Шатыловіч шмат аб'ездзіў краін свету, бо ў вольны час працаваў гідам замежных экскурсій у польскім турыстычным бюро «Орбіс». Пра розныя вандроўкі па свеце ён таксама з захапленнем распавядае ў сваёй кнізе.

А цяпер трохі пра самога Дзмітрыя Шатыловіча — беларускага літаратара з Варшавы. Ён нарадзіўся 8 лістапада 1926 года ў вёсцы Чаромха на Беласточчыне ў беларускай сям'і. У сакавіку 1943 года быў вывезены на прымусовую працу ва Усходнюю Прусію. Пасля прыходу туды Чырвонай Арміі ў лютым 1945 года быў сілаю ўключаны ў яе рады і накіраваны на фронт. У канцы снежня 1945 года яго дэмабілізавалі. Вярнуўся дамоў. Вучыўся ў беларускай гімназіі, потым скончыў Ленінградскі электратэхнічны інстытут, атрымаўшы ў Польшчы дыплом магістра інжынера электрыка-аўтаматыка. Працаваў у праектным бюро «Энергапраект» у Варшаве. Цяпер на пенсіі. Аўтар зборнікаў паэзіі «Эцюды падарожжа», «Маё Падляшша», «Хвалі часу», «Вясёлка над імглою», «Струмені лёсы» і многіх іншых. З'яўляецца сябрам Саюза польскіх літаратараў і Саюза беларускіх пісьменнікаў. Узнагароджаны Крыжам Кавалерскім ордэна Адраджэння Польшчы, Сярэбраным Крыжам Заслугі і медалямі.



## Піша Валя вершы і слухае Радыё Рацыю

*Валянціна Мядзведзь. Піша Валя з-пад Пушчы. Беласток, 2014*

Валянціну Мядзведзь назваць графаманкай у мяне ніколі не павернецца язык. Валянціна — народная паэтка. Ды і сама назва яе паэтычнай кнігі гаворыць аб тым, што піша аўтарка пра тое, што бачыць, чым жыве і дзе жыве. Так і зборнік свой назвала: «Піша Валя з-пад Пушчы». Валя з-пад Пушчы хораша, шчыра, з нейкай душэўнай цеплынёй апісвае свой родны край.

З такімі народнымі паэткамі, як Валянціна Мядзведзь, я сустракаюся даволі часта. Пішуць яны ў асноўным для сябе, бо хочацца пісаць, бо пішацца, бо душа не маўчыць, а жадае свае думкі ператвараць у радкі, каб іх прачыталі і пачулі людзі. І вельмі добра, што ўсе думкі Валянціны Мядзведзь сабраныя пад адну вокладку і выдадзеныя адной прыгожай кніжкай «Піша

Валя з-пад Пушчы». Бо не ўсім народным вясковым творцам на падобнае пашэнціць. А такім людзям нельга забараняць пісаць, нельга з іх насміхацца, а, наадварот, трэба падтрымаць, дапамагчы, падказаць.

Валя летам прыязджае ў родныя Тэрэміскі, дыхае вясковым паветрам, сустракаецца і гутарыць з землякамі, а яшчэ піша вершы і слухае Радыё Рацыю. І, як кажа ў прадмове да кнігі Міра Лукша, «пазараждвала» Радыё Рацыяй усіх вяскоўцаў. Магчыма, перадачы і песні беларускага Радыё Рацыя штодня натхняюць Валю на напісанне новых твораў. Бо калі чытаеш вершы жанчыны, то адчуваецца, што пісаліся яны даволі лёгка і хутка.

Першыя два раздзелы кнігі «Дзе мая родная хата» і «А мне зазуля кукавала» — на вясковую тэматыку. У гэтым раздзеле паэтка хораша апісвае ўсё: і хату, і васількі, і жураўлёў, і вясёлку, і дарогу, і нават піша пра Радыё Рацыю, скуль «песні ляцяць так прыгожа, што ад радыё адысці не можна».

Чытаючы кнігу Валянціны Мядзведзь, заўважыў, што жанчына вельмі любіць кветкі. І так у сваёй кнізе яна прыгожа іх апісвае, проста зачароўваецца імі. Асабліва падабаюцца паэтцы ружы. Апісваючы ружы, паэтка параўноўвае іх з гадамі, якія даўно і хутка праляцелі:

Цвітуць прыгожыя ружы,
Цвітуць і асыпаюцца,
А гады прыгожыя
Бягуць і не вяртаюцца.

Захапляецца паэтка і васількамі — «прыгожымі цвяткамі», ад якіх блакітнае неба і якія «радуюць нашы вочы».

Вершы Валянціны Мядзведзь, як і некалі класікаў беларускай літаратуры, арыентаваны сёння на фальклорныя традыцыі, на фальклор. Свядомая ўстаноўка на народнапаэтычную стылістыку адчуваецца ў многіх радках і строфах паэткі. Фальклорны каларыт дасягаецца не шляхам выкарыстання аднаго якога-небудзь закончанага традыцыйнага матыву ці сюжэціка, а шляхам арганічнага ўключэння разнастайных вуснапаэтычных кампанентаў. Асабліва фальклорная афарбоўка твораў адчуваецца ў лірычных радках паэткі, радках пра каханне, у радках аб тым, што хутка праляцелі гады маладосці:



Прайшла маладосць,
Скончылася радасць тут мая
І асталася я ўжо
Зусім, зусім адна.

Ці ў вершы «Жыці дай» пра мужа, які стаў п’яніцам:

Дай мне, мілы, жыці дай, дай,
Грошыкаў не прапівай.
Дай мне, мілы, дай мне жыць, кахай,
На другіх не спаглядай.

У вершы «Хам» Валянціна Мядзведзь разважае пра тое, як жонку, якая пастарэла, павёз тапіць муж, бо старую не хацеў любіць. Але жонка хоча яшчэ пажыць і тапіцца зусім не жадае. Лепш, кажа яна мужу, тапіся без мяне сам. У другім вершы «Здрада» паэтка ўспамінае той час, калі юнак прыносіў ёй кветкі, але здрадзіў з іншай. І такія жыццёвыя былі-гісторыі амаль у кожным вершы. Іх немудрагеліста, па-вясковаму шчыра і проста распавядае ў сваёй кнізе Валянціна Мядзведзь.

Ёсць у зборніку «Піша Валя з-пад Пушчы» і гумар. Амаль увесь ён узяты з жыцця. А ў жыцці ўсяго хапае, асабліва на ніве кахання. Вось, напрыклад, аўтарка распавядае пра маладую жонку, якая «толькі грошыкі кахала», то пра старую бабу, якая «задумала сабе маладою быць», то пра дзеда, які з’ядаў смачны абед і з-за гэтага закахаўся ў бабу, то пра кабету, якая сядзела на

дыеце і не ела мяса, а калі «прысела, то паўкумпяка з’ела», то пра вясёлы плейбой, то пра вясёлых хлопцаў, якія «п’юць гарэлку і гуляюць, ну і сем’і разбіваюць» і г. д., і г. д.

Фальклорныя матывы праходзяць праз усе творы паэткі з Тэрэміскаў. Арганічнае зліццё асабістага і агульнанароднага з’яўляюцца ў творчасці Валянціны Мядзведзь своеасаблівай творча-псіхалагічнай дамінантай. Праўдзівае адлюстраванне таго, чым жыве сёння вёска ці мястэчка, і з’яўляецца тэмай яе творчасці.

Не пакрыўдзіла паэтка і юных чытачоў. У зборніку змешчаны чатыры вершы, якія аўтарка адрасуе дзецям. Асабліва прыгожа і ласкава яна апявае коцікаў. Спадарыня Валянціна іх дужа любіць, шануе, разумее іх і даглядае. Калі б Валянціна Мядзведзь часцей пісала для дзетак, то ў яе маглі б атрымлівацца вельмі цікавыя дзіцячыя вершы. Яны лёгка чытаюцца і рыфмуюцца:

Коцік, мой маленькі коцік,
Чаго скачаш ты на плоцік?
Яшчэ з плоціка ўпадзеш,
Сабе лапачку звіхнеш...

Галоўны герой дзіцячых вершаў — гэта коцік. У другім вершы ён пасябраваў з мышкай і нават яе баяўся, бо «мела вострыя зубочкі». У трэцім вершы аўтарка распавядае пра коціка і сабачку, якія ўсю ноч пільнавалі хату. А чацвёрты верш прысвечаны прыгожаму Мікалаю (Дзеду Марозу), які на Новы год і Каляды прыносіць падарункі. Усе гэтыя вершы з вялікім задавальненнем прачытаюць не толькі дзеткі, але і дарослыя чытачы.

Пройдзе час — і верыцца, што Валя з-пад Пушчы яшчэ напіша і складзе добрую вязанку новых твораў, твораў не змайстраваных, а напісаных ад душы і ад сэрца, як і зборнік, пра які я згадаў вышэй.



# Пра дзве кнігі Юрыя Баены

## Спавяданне роднасці

*Юрый Баена. Бераг надзеі. Беласток, 2009*

За літаратурнай творчасцю Юрыя Баены сачу даўно, бо вельмі мне даспадобы яго паэтычныя радкі, вершы, кнігі. У іх ёсць усё: і зямля, і свет, і дрэвы, і кветкі, і людзі. Ды і дыханне яго паэтычнага слова не губляецца ў кагорце беларускіх паэтаў Польшчы. Наадварот, паэт дасягнуў мастацкай сталасці і спеласці, філасофскай навізны і сапраўднага творчага ўзросту. А эпіграфам да яго паэзіі могуць быць радкі:

Веру — жывым перадай.
Веру жывую — пакінь!

Гэтыя радкі да эпіграфа я ўзяў з новага паэтычнага зборніка «Бераг надзеі» Юрыя Баены, куды ўвайшло ўсё лепшае, напісанае паэтам за 52 гады яго жыцця і за 18 гадоў творчасці (улічваючы час, калі выйшаў першы зборнік вершаў «Лісты блакітных успамінаў»). Але верыцца, што найлепшае яшчэ напішацца.

«Бераг надзеі», які я ўважліва прачытаў, пакідае прывабнае, свежае, хоць крыху і супярэчлівае ўражанне. Кніжку амаль цалкам складаюць свабодныя вершы (верлібры). Жанр гэты ўжо досыць абжыты ў нашай паэзіі. І ўсё ж па-ранейшаму як бы малады, вуглаваты, ёмісты ў важкай хадзе. З намёкам на шматсказальнасць, філасафічнасць, што выступаюць як бы «пробным каменем» нашай паэтыкі. У маёй памяці яны высякаюць адмысловыя іскры («крэмень аб крэменя»), роднасныя падабенствы з творча-ўзорнага скарбу Максіма Танка («Шыбы старой камяніцы»), Сяргея Дзяргая («Сляза заўсёды горкая») і іншыя. Раўняцца ёсць на каго. Хоць самае адказнае раўненне — гэта на самога сябе, на свой вопыт і важкі змест, што просіцца з жыцця ў верш, у змест, прапушчаны праз сэрца.

